№ 11395

Уладзімер Юразанскі

# Чырвоназаводскі атрад

Чырвоная змена



Ул. ЮРАЗАНСКІ

# ЧЫРВОНАЗАВОДЗКІ АТРАД

## АПОВЕСЬЦЬ ПРА ЮНЫХ ПІОНЭРАЎ, ІХ ЖЫЦЬЦЁ, ГЭРОЙСТВЫ І ПРЫГОДЫ

Пераклад з украінскае мовы



Камісіяй па выданьню дзіцячай літаратуры пры Соцвыху Наркамасьветы БССР ухвалена, як аповесьць для чытаньня дзецям сярэдняга і старэйшага ўзросту




ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
МЕНСК — 1928

РАЗЬДЗЕЛ ПЕРШЫ

# НЕСПАДЗЯВАНЫ ЛІСТ

Увечары на збор атраду комсамолец Козыраў, прымацаваны да Чырвоназаводзкага піонэрскага колектыву, прынёс такую навіну, ад якой адразу захваляваўся ўвесь сход: з Нямеччыны, з Гамбургу, ад нямецкай дзіцячай спартакаўскай організацыі прышоў ліст. Козыраў паказаў невялічкі аркуш паперы, які зьлёгку шапацеў у руках і вабіў вока яснымі, сінімі радкамі прыгожа надрукаваных на машынцы слоў, і прачытаў, загадзя падрыхтаваны, пераклад.

— Вось гэта дык справа!—аж зазьзяў шустрымі карымі вачыма піонэр Якімка Шчыглоў і ад захапленьня аж кулаком стукнуў па стале.—Вось гэта я разумею!

Нямецкія хлопцы пісалі, што яны шмат чаго цікавага наслухаліся пра Савецкую краіну ад тых рабочых дэлегацыяў, якія пабывалі ў Маскве, Менску, Харкаве, Днепрапятроўску, і што хацелі-б гэта ўсё пабачыць сваімі вачыма, але сьпярша яны просяць Чырвоназаводзкіх піонэраў прыехаць у Гамбург, хоць на тыдзень, і дакляруюць прывітаць іх, як найдаражэйшых сваіх гасьцей.

— Ну й немцы! Малайцы!

— Правільна, сапраўдныя таварышы!

— Паедзем, хлопцы! Ур-ра!

— Абавязкова!

— Як-жа гэта зрабіць?

— Няўжо-ж такі зручны выпадак ды прапусьцім?—мігам усхапіўся і з перакананьнем абвёў усіх поглядам Васілёк Аўдзееў.—Хоць кроў з носа, а паедзем!

Утварыўся радасны шум, вясёлыя ўсхваляваныя выгукі, сапраўдны слоўны гармідар ад гаманлівых дзяцей. Галасы разьбіваліся адны другімі, зьвінелі, гулі навыперадкі, быццам малады рой пчол, які толькі што высыпаўся з вульля.

Кацярынка Рабініна, сакратар савету атраду, каб учыніць парадак, стукала алоўкам па стале. Тацянка Ліхачова

ад радасьці скакала так, што аж на ўсе бакі падкідалася яе цёмная мяккая коска, перавязаная на патыліцы чырвоным касьнічком.

Барбарка Жукова, рагочучы, затуляла далонямі вушы. Кацярынка стукала што далей гучней, мацней, і чорныя бровы яе, якія выгіналіся высокімі дугамі, нецярпліва хмурыліся, але нічога не памагала: гармідар ня спыняўся, ня сьціхаў, на стуканьне Кацярынкінага алоўка ніхто не зьвяртаў увагі.

— Што за рынак?—выглянуў з пакою парткалектыву токар Лаўрухін.—Ці не прадаеце каго-небудзь?



Кацярына Рабініна.

На Лаўрухіна ніхто нават і не аглянуўся. Зацікаўлены неспадзяваным узварушэньнем моладзі, ён падышоў да стала.

Праз хвіліну, зразумеўшы ў чым справа, ён яшчэ і сам стаў падбухторваць:

— А што-ж? Вельмі проста. Прыяжджаюць-жа да нас рабочыя дэлегацыі з розных краін. А цяпер ганеце й вы да іх—на падпал! А за вамі і мы рушым. Добра. Вось у буржуяў каленцы закалоцяцца! Толькі трымайся!

Лаўрухін быў калісьці матросам у Балтыцкай флёце, два разы навакол сьвету плаваў, шмат бачыў розных марэй і земляў. На заводзе яго паважалі, як аднаго з наймацнейшых тутэйшых партыйцаў.

Шырокі ў плячах, высокі, увесь быццам выліты з жалеза, меў ён нязвычайную фізычную сілу. Пра яго хадзілі проста лягэндныя апавяданьні. Казалі, напрыклад, што ў дзевятнаццатым годзе, у час грамадзянскай вайны, змагаючыся ў Чырвоным матроскім батальёне дзесьці пад Вініцаю, ён папаўся ў палон Пятлюраўцам. Тыя спачатку замкнулі яго ў сьвірне, а пасьля, па загаду начальства, тры здаравенныя малайцы павялі балтыцкага волата на расстрэл. Ішлі яны на поўшагу ззаду і трымалі напагатове рэвольвэры. Вывялі за вёску. Здавалася, што вось-вось яму й канец: кожную хвіліну застрэліць маглі. Толькі-ж раптам Лаўрухін спыніўся і, быццам бліскавіца ўдарыла, размахнуў абапал сваімі здаравеннымі кулакамі.

Пятлюраўцы не пасьпелі й апамятавацца, як двое з іх ляжалі ўжо бяз памяці ад удару кулакоў. Схапіўшы спрытна рэвольвэр у трэцяга, Лаўрухін перабіў усіх і ўцёк да сваіх.

— Гамбург—ого! Выдатнае месца,—тонам бывалага, які ня мала бачыў сваімі вачыма, жвава пачаў апавядаць ён піонэрам.

— Перш за ўсё—порт,—вокам не абхопіш: лепшага морскага рукава для караблёў на цэлым сьвеце не знайсьці. Падыдзеш, бывала, на мінаносцы зранку, станеш на рэйдзе—сыгнал абуджэньня стралою ў неба бахне. Прыгожасьць! Над морам і над горадам туман, скрозь туман сонца сьвеціць, вада ціхая, бяз хваль, навокал параходы, а на іх сірэны сьпяваюць, гудуць, зьвіняць—чыстая табе музыка. У даліне-ж, толькі ледзь-ледзь прыкметна, быццам у казцы, сьпіць горад. А якія там заводы, а якія фабрыкі,—ай-яй! Наш завод супроць іх, ня кажучы дрэннага слова,—карлік!

— Як-жа ехаць туды? Якой дарогай? Да каго зьвяртацца трэба?—на пярэймы пыталіся піонэры.

Маладыя, нецярплівыя галасы з усіх бакоў атачылі Лаўрухіна. Ён аглянуўся, усьміхнуўся, сеў каменем за стол і, рассунуўшы цяжкія локці, пачаў паясьняць маршрут, малюючы Кацярыніным алоўкам на аркушы для пратаколу кружочкі і лініі, якія павінны былі вызначаць горад і шляхі да яго.



Вера Жукава.

— Азьвярнуцца вам трэба да Выканкому *КІМ-у. КІМ* гэту справу праробіць вам, як найлепш,—толькі садзіся ды едзь.

Сход атраду скончыўся позна. Калі піонэры шумлівым натоўпам высыпалі на вуліцу, было цёмна, зорка дыхаў цёплы прадвясновы ветрык. Ззаду, за электрычнымі ліхтарамі, шухкала часамі станцыя. Упарта, захлынаючыся няўпынным за-

паламъ працы. у розных канцох па заводзкіх корпусах гучна стукалі нафтавыя рухавікі.

Якім Шчыглоў ішоў дамоў разам са сваім сябрам Васільком Айдзеевым і суседкаю па памяшканьні Тацянаю Ліхачоваю.



Пятлюраўцы не пасьпелі й апамятавацца, як двое з іх ляжалі ўжо бяз памяці.

Якімавы думкі пылалі надзеяй.

— А што, калі і сапраўды паедзем, хлопцы, га?—зьвяртаўся ён то да Васілька, то да Тацянкі.

— Мне здаецца, што бацькі нікога ня пусьцяць, — непакоілася Тацянка.

— Ну, чаму-ж! — заўзята ссунуў на бок сваю шапку Васілёк.—Яшчэ дзяўчат можа й ня пусьцяць, а нас, хлопцаў, навошта-ж трымаць?

— А вось пабачыш.

— І бачыць няма чаго. Давай у заклад: няхай толькі заўтра завком бацьком скажа: „Хочаце, старыя, у Гамбург, ці там у Лёндан, паехаць, пацікавіцца жыцьцём рабочых? Думаеце, адмовяцца? З рукамі, з нагамі гатовы будуць.

— Ды няўжо-ж—падцьвердзіў Якім.—Гэта-ж хоць каму дык цікава.

Дома за вячэраю Якім расказаў пра ліст і пра запрашэньне ў Гамбург. Бацька, які толькі што вярнуўся з працы з вячэрняй зьмены, неахвоча адмахнуўся:

— Хто-ж гэта паверыць, каб такіх куранят ды ў Нямеччыну павезьці? Га? Вярзеш падурному...

— А вось пабачым,—бадзёрыўся Якім.

— Ды якую трасцу вам там рабіць, на чужой краіне!— з перасьцярогаю ўставіла матка.—Яны нашае мовы ня ведаюць, а вы нямецкую ня лепш цялят ведаеце,—як-жа вы адзін з другім размаўляць будзеце?

Але Якім выкруціўся.

— Ого-го! А перакладчык навошта?

— Ну-у!..—недаверліва дражнячы сьпявае матчын голас.—Перакладчыка... Ён такога вам набалакае, што і за тры гады не разжуеш. Ім пра вас набрэша, вам пра іх,—вось і ўся размова ваша будзе. Сядзі ды вушамі разводзь.

Якім аж ускіпеў:

— Навошта-ж нам такога дурасьвета браць за перакладчыка? Мы свайго возьмем. У нас, брат, такія комсамольцы ёсьць, што і пафранцуску і панямецку гутарыць могуць. Думаеш, не?

— Ды добра ўжо... закардоньнік,—усьміхнулася матка.—Ідзі вось пакуль што на пасьцель дый сьпі... Заўтра яшчэ да гудка фабзавучу пабуджу. Ня бойся, не пашкадую.


Якім Шчыглоў.

Уночы Якіму сьніліся доўгія прывабныя сны, поўныя нязвычайных пачуцьцяў і прыгодаў. Здавалася, што ён стаў лёгкі, як птушка, лятаў над заводам, над горадам і калі найвышэй узьнімаўся ўгору, дык радасьней і саладзей замірала яго сэрца. Земнай прасторы ня было й краю. Высачынь хвалявала, клікала наперад, хацелася ляцець і ляцець бяз упыну.

А ўдзень у фабзавучы і па цэхах—усюды толькі гутаркі было, як пра Гамбург.

Нахіліўшыся над сваім варштатам у токарным аддзеле, Якім спрытна і жвава абточваў жалезны валік. А ў галаве стаялі вялізарныя замежныя гарады, чужаземная тэхніка, пры-

вабнымі чарамі праплывалі ва ўяленьнях уражаньні ад вандраваньня—такія вялікія, складаныя, чароўныя.

— Ну, што, вандроўнікі?—весела падміргіваў у час перапынку, у абед, Лаўрухін.—Каму сьніўся Гамбург? Га?

Ён прыветліва, з дабрадушнасьцю вялікага, дужага чалавека стукаў хлопцаў па плячах, жартаваў, рагатаў, а пасьля, закурыўшы люльку, пачаў апавядаць.

— Горад важнецкі, хоць куды, нездарма і вольным завецца. У дзевятнаццатым годзе рабочыя там савецкую ўладу агаласілі, ды сілы не хапіла ўтрымаць яе, перамаглі іх буржуі праклятыя. Толькі дарма, рабочыя сваіх думак не пакінуць так. Не, брэшаш! Даб'юцца свайго!

А людзей у Гамбурзе процьма і ўсё ў большасьці народ працоўны. Гандаль там аж кіпіць; ад гандлёвых параходаў у гавані аж цесна. Памятаю, прыплылі мы аднаго разу ўвесну. Папрасіўся я з таварышамі на бераг,—вось дык дзіваў нагледзеліся! Патрапілі, між іншым, у заолёгічны сад. Ну й нагадавалі-ж, чэрці, рознага зьвяр'я. Глядзіш—і вачам ня верыш. З усяго сьвету зьвяроў, птушак, гадаў, кракадзілаў, малпаў гэтак шмат паназьбіралі, што аж страшна. Ды яшчэ што яны выдумалі: гандлююць тымі зьвярамі, як селядцамі! Ёй-жа, ей! Вельмі добра я той сад помню.

Аднаго разу якая нам там прыгода трапілася. Загуляліся мы з хлопцамі на беразе, варочаемся на мінаносец ужо ўночы. Ну, звычайна, ліхтары навокал, угары цёмна-цёмна, а на зямлі ясна аж вочы сьлепіць, проста хоць іголкі зьбірай. Ідзем гэта мы, аж прычапіліся да нас, бадай іх, двое ангельскіх матросаў, яшчэ п'янейшых за нас. А рудыя такія абое—на дзіва, быццам хто іх знарок рыжаю фарбаю вышмараваў. Я ня стрываў, засьмяяўся. А хлопцы, як глянулі, так і рассыпаліся ад сьмеху. Так тут нас рогат спанаваў, што аж ногі падкошваюцца, ісьці ня можам. А тыя абразіліся, дый ну на нас з кулакамі кідацца, боксам сваім хваліцца. Я спачатку адмахваўся, угаварваў іх ад чыстага сэрца: вы-ж, кажу, ад расійскага кулака на месцы ня ўстоіце, хоць і рудыя вы абое наўзьдзіў... А пасьля, калі раззлаваўся, дык ухапіў з іх аднаго, быццам тое кацяня, ды як шпурну яго ў мора, вось так сажняў на пяць ад сябе. Ён толькі буль, буль, буль і адразу-ж пачаў на дно якары пускаць, не змагаючыся,— проста да чорта ў зубы. Добра, што Хведар Гуляеў з намі быў, плывец найлепшы. Скочыў у ваду, выцягнуў праклятага. А то-б гадаваў ракаў рудою сваёю галавешкаю.

Паўставалі гэта на другі дзень рана, якраз на вахту мне трэба было ісьці, чуем—скандал: прыехаў ангельскі ка-

пітан скардзіцца.—„Нашых, кажа, матросаў вашы топяць, шпурляюць на дно морскае, так-сабе нізавошта, пакарайце, вінаватых".—А пра тое, што ратуюць, маўчыць, падла! Наш капітан ня дурны быў.—„Няхай зьбярэцца ўся каманда",—дае загад такі, а ангельскаму афіцэру кажа так: „Будзь ласкаў, пакліч вашых пакрыўджаных, няхай пакажуць, хто іх шпурляў,—зараз-жа пакараю тады!"

Прывозяць вось тых рудых у шлюпцы. Ідуць яны уздоўж фронту, а мы шчыльнаю сьцяною стаім, чатырыста чалавек адзін-у-адзін, як адборных, ніхто і вокам не змаргне нават. Абышлі рудыя фронт і асалапелі: забыліся, з п'яных вачэй,



Стаім чатырыста чалавек, адзін у адзін.

цяпер пазнаць ня могуць. Афіцэр іх надзьмуўся ды гнеўна так зароў на іх, відаць, што наскрозь прапякло. Тыя зачырванеліся ды на правафлангавага, найбольшага і тыкаюць пальцам. Стаяў у нас на правым фланзе Мікіта Мяльнічук, здаравяка такі, дужэйшы за мяне. „Ты?"—пытае ў яго камандзір. А той нічагусенькі і ня знае і ня ведае —„не, ня я",—кажа,—„два тыдні на беразе ня быў"... Прынесьлі чарговы журнал: сапраўды, два тыдні зямлі не таптаў наш Мікіта. Ткнуў тады камандзір ангельскаму капітану журнал пад нос—і чакае. Зьбялеў той ад сораму, замяшаўся:—„Выбачайце,—мармыча,—непаразуменьне сталася"... А наш сабе выцягнуўся, яшчэ тонам вышэй узяў:—„Не, кажа, ваша прабачэньне мяне не здавальняе. Калі хочаце, каб я пагалоскі

ня ўчыніў, няхай тады, хто старэйшы, перапросіць“. І што-ж вы думалі,—прымусіў такі: прыяжджаў пасьля на мінаносец ад ангельскага адмірала яго ад'ютант перапрашаць... Вось вам і Гамбург.

Пасьля перапынку зноў закруціліся варштаты, зноў паляцелі на ўсе бакі медзяныя й жалезныя стружкі:—на ўсю сваю сілу загуў, зазьвінеў такарны цэх.

А ў думках Васіля Аўдзеева і Якіма Шчыглова яшчэ мацней, яшчэ больш упарта і больш прывабна ўкладаўся плян вандроўкі.

---

## РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ

# ЧАЛАВЕК НА КРЫЗЕ

Яскравым, сьлепячым сонцам пырснула па сьнягох вясна, прышлі сьветлыя вясёлыя адлігі, зацуркалі са стрэх кроплі, забулькатала, заструменіла па раўчаках вада. Пад праменьнямі сонца на вуліцах выразаліся лужынкі рознае велічыні. Ад вясновага подыху яшчэ зацішнейшаю здавалася невялічкая хатка, якая сагнулася ужо ад старасьці, стоячы амаль-што на самым беразе ракі.

Тут жыў са сваёй маткай і дванаццацігадоваю сястрою Алесяю Васілёк Аўдзееў. Васілёў бацька загінуў на заводзе ў шаснаццатым годзе ў час выкананьня вялікага сьпешнага заказу для царскай арміі. Рабочых прымушалі тады працаваць без адпачынку па дванаццаць і нават па чатырнаццаць гадзін запар, і вось ад зморы, у атупеньні ад такое напружанасьці ў працы нехта зрабіў такі недагляд, ад якога ўсё гэта здарылася... А здарылася страшнае няшчасьце: у той час, калі падважвалі ад горну вялізарны чан з растопленым чыгуном, парваўся ланцуг, чан перакуліўся і пырснуў на бліжэйшых рабочых плынністым вагнём пякельнай лявы. Тыя, што папалі пад гэту ляву, а сярод іх быў і Васілёў бацька, не пасьпелі нават і войкнуць: ад іх за хвіліну спаленых цел толькі белы дым клубкамі ўзьвіўся ўверх пад высачэзную столь. Ніколі не забудзецца Васілёк, як боязна сьціснулася і задыхнулася яго маленькае сэрца шасьцігадовага хлопчыка, калі ў хату прынесьлі з заводу чорныя перагарэлыя рэшткі цела бацькі.

Шмат гора і ліха давялося яму спаткаць пасьля гэтага, шмат жудасна-цяжкіх дзён перажыў ён з маткай, шукаючы кавалка хлеба.

Але цяпер жыцьцё пачало патроху паляпшацца. Хутка адгрымелі бойкі з белагвардзейцамі, хутка адсунулася вайна ад гораду, завод зноў ўздыхнуў на ўсе шырокія грудзі сваіх майстэрняў і цэхаў, зноў закруціліся трансмісіі, зашалясьцелі пасы, задыміліся каміны. Тады ўтварыўся заводзкі камітэт,

які з першых-жа дзён пачаў дбаць аб тым, каб радня тых, што загінулі, мела заробак.

Васілёвай матцы далі працу ў зборным цэху, а калі Васілю мінула чатырнаццаць год, яго ўзялі вучнем у такарны цэх. Вось ужо блізка паўтара гады, як ён узроўні з маткаю здабывае грошы настойліваю ўпартаю штодзеннаю працаю.

Не зважаючы на свае пятнаццаць з паловай гадоў, Васіль быў вельмі сталы і разважлівы, як дарослы чалавек. За гэту сталасьць хлопцы празвалі яго камісарам. У скураной жакетцы, у скураной шапцы, заўсёды ўважлівы да свае справы і нават заўсёды нахмураны, ён працаваў з цьвёрдай гарачай ахвотай, якая ніколі не паслаблялася і ня спынялася. Рухі яго ля варштата былі спакойнымі, вымеранымі, і кожная новая работа выходзіла вырахаванаю, акуратнаю. Ён неяк усхвалявана верыў у пераможную сілу людзкой упартасьці і шчырасьці. Калі пяць месяцаў таму назад, у час праверкі працы, камісія вызначыла яму вытачыць шрубу за дванаццаць гадзін, ён вытачыў яе за сем—і адразу, заместа трэцяй, атрымаў чацьвёртую катэгорыю па рабоце. Яму здавалася, што кожны вучань, кожны рабочы павінен дбаць аб тым, каб стаць надзвычайна добрым майстрам, што ад паляпшэньня вырабу, палепшыцца і ўсё жыцьцё людзей, што праца пераможа ўсе перашкоды на шляху людзкім і што ў вольнай краіне гэта адзіны шлях да шчасьця.

Думка пра падарожжа за мяжу клінам засела ў Васілёвай галаве. Ды яшчэ-б: гэта-ж магчымасьць убачыць самыя вялізарныя і найлепшыя машыны і такія заводы, якіх ён яшчэ і не ўяўляе сабе. І тут-жа неяк успомнілася яму, як адзін нямецкі дэлегат, калі абышоў усе іх цэхі, горка і абурана сказаў:

— Завод ваш збудаваны зусім не да толку, не на карысьць для вырабу.

Гэтыя словы гостра ўрэзаліся ў яго сьвядомасьць.

— Ведаеш, мама, я-б у немцаў вучыцца згадзіўся,—ня раз казаў Васіль увечары.

Ён быў увесь ахоплены думкамі аб мажлівасьці зрабіць нешта вялізарнае, неабходна-патрэбнае для людзей.

— Што ты, Васілёк,—нездаволена адмахвалася рукамі матка.

— Дапраўды згадзіўся-б. Стаў-бы там інжынэрам, пазнаў-бы ўсе таямніцы ўсіх навук, а пасьля прыехаў-бы сюды. О! Ды я, ведаеш... я-б завод наш дагары дном перавярнуў.

Па начох ён доўга ня мог заснуць, уяўляючы, як вырас-бы і заквітнеў завод, якою магутнаю сілаю ўстрапянуліся-б машыны, калі-б інжынэры выходзілі не з беларучак, а з простых рабочых, якія знаёмы з чорнай цяжкай працай,

якія прайшлі суровую школу гора, шматгадовых турбот. Аднаго разу ўначы, захоплены марамі, Васіль пачуў глухі гук, як гарматны выбух. Цяжкі гул пачуўся ў цемені. Задрыжэлі шыбкі ў вокнах. І раптам пачуўся нечы палахлівы крык, які перабягаў вуліцаю ля вакна:

— Гэй, людзі добрыя! Вада затапляе! Рушыла рака! Гэй!.. Уставайце!..

Праз хвіліну гэты голас быў чуваць ужо дзесьці вельмі далёка...

— Гэй-эй!..

Васіль усхапіўся, саскочыў з пасьцелі. Перапалоханая матка, адзяючыся, дрыжачымі рукамі запальвала лямпу. За вакном у цемені чулася груканьне ног, глуха адбіваліся ўстрывожаныя выгукі, клубком блыталася і білася ўляманце браханьне сабак.

Адзеўшы поверх скураной жакеткі шынель, Васіль выбег на вуліцу. Сярод вільготнай халаднаватай цемры то тут, то там мільгацелі, хутка перабягаючы, жоўтыя аганькі ад ручных ліхтарань.

— Ліецца, як з грэблі...

— Ах, матачкі мае!



Васіль усхапіўся, саскочыў з пасьцелі.

— Кузьма! Адарка! Янка!

— Скрыню, скрыню цягні! Выцягвай хутчэй!

— Ды годзе вам лямантаваць! Чаго кідаецеся, як асмаленыя? Апамятайцеся! Ня дойдзе да нас. Нічога ня будзе. Вада сваім шляхам пойдзе.

Але людзкі гоман разрастаўся, шырыўся, ня сьціхаючы ні на хвіліну.

— Човен!

— Браткі, куды-ж?

— Ах, чэрці!

Васіль пабег да маста. Бегчы проста было немагчыма: вуліцаю нізінамі ў два шырокія равы бегла вада. Давялося абабягаць гэты квартал.

Зноў грукнуў і страсануў паветра цяжкі выбух. З-пад берагу вылецеў чырвоны сноп полымя і ярка асьвяціў мост. Здрыганулася, гукнула ноч.

Каля маста мітусіліся заклапочаныя чырвонаармейцы сапёрнае каманды. Іх будзёнаўкі выглядалі як шаломы даўнейшых рыцараў. Скрозь сьвет ад запаленых скрынак з газаю відаць было, якімі дзікімі і страшнымі крыгамі згрудзіўся на рэчцы лёд. Рака вырасла, узьнялася непараўнальна высока. З берагоў разгарнулася ўшыркі, налягла на балоты і палі сваёю цяжкаю масаю. Клекатаў стыхійны грукат ад цяжкае навалы вады, што з націскам імкнулася наперад... Міжвольна Васілю стала страшна: было зусім ясна, што калі напор крыгаў яшчэ крыху ўзрасьце, дык чыгунны мост можа зьляцець, як лёгенькая цацка, трэсьне і распадзецца на кавалачкі, як лупіна з яйца.

— Гатова!—крыкнуў нехта з чырвонаармейцаў.

— Давай!—адгукнуўся густы голас.

— Сьцеражыся!

— Р-раз!

І зараз-жа сьледам за гэтым, неўспадзеўкі для Васіля, разьлёгся глухі выбух. За ім—другі, трэці, чацьверты! Вада зьлятала слупамі. Лёд крышыўся на дробныя кавалачкі, і з кожным разам пасьля выбухаў, на некалькі хвілін слабеў і радзеў націск лёду і гаманлівыя хвалі паводкі вольна шугалі наперад пад мост.

— Давай яшчэ!

— Ого-го!..—радасна, у запале змаганьня са стыхіяй, крычалі, няясныя ўначы, постаці ў шынелях.

— Рыхтуй!

І зноў разьнесьліся магутныя, гучныя выбухі, разбураючы сьляпую сілу насунутых адна на другую вялізарных крыгаў. Васіль кінуўся бегчы дамоў. Матка ўжо супакоілася, але яшчэ ня спала. Цьмяна й трывожна ў нязвыклы досьвіткавы час гарэла ля печы газоўка. Сэрца ў Васіля, захопленае і вольнае, білася лёгка і моцна, як птушка.

— Добра!..—усьміхнуўся ён да маткі у зачараваньні.— Вось рвуць,—аж у вушох шуміць!

Раніцай, калі, абуджаючы кароткую дрымоту, засьпявалі заводзкія гудкі і Васіль як звычайна ўсхапіўся, каб бегчы на працу, выявілася, што прайсьці на завод няма ніякае магчымасьці: усюды на вуліцах, наколькі вокам сягнуць, стаяла роўная вада.

— Цю-цю-цю!.. — дзівіўся Васіль. — Значыцца, у мяне сёньня прагул?

— А што, папаўся?—радасна ўсьміхаўся скрозь белыя свае зубы Якім Шчыглоў, які сама што аднекуль прыбег і, паціху падпяваючы, клікаў:

— Хадзем на рэчку! Раскошна! Там нашы хлопцы. Як на востраве!

— Ды я ўжо быў.

— Хадзем яшчэ!

На беразе стаяла шмат людзей... Тут быў комсамолец Кузьмішчаў, Стась Зялінскі, Тодар Качура, Тацяна Ліхачова. Тут-жа з цікавасьцю круціўся між дарослымі і маленькі вёрткі Алесік Стралкоў, па прозьвішчу „Шыла". Лёд сунуўся цеснай навалай. Рака шумела з гучнаю вялізарнай сілай, прыбываючы ў берагох усё вышэй і вышэй.



Комсамолец Кузьмішчаў.

— Глядзі, каб цераз мост не паляцела! — падміргнуў чырвонаармейцам з усьмешкаю нейкі досыць жвавы хлопчык.

І раптам здалёку пачуліся звонкія крыкі перасьцярогі:

— Чалавек, чалавек на крызе!..

З сілай пратышчыўшыся наперад на найвышэйшае месца, Васіль з Якімам убачылі: на тоўстай крызе, якая павольна хісталася і гайдалася, віднеўся здалёк нейкі маленькі згорблены чалавечак.

— Вось-жа ўтопіцца! Даліпан, вось зараз утане!—моцна адгукнулася ва ўсёй грамадзе напалоханым голасам.

— Лавіць, браткі! Таварышы, лавіць як-небудзь трэба!— з пачуцьцем перасьцярогі зьляцелі трывожныя заклікі ў бок сапёрнае каманды, якая стаяла на мосьце.

— І як яго загнала туды?

— Ды гэта-ж хлопчык!—убачыў Васіль Аўдзееў.

— І сапраўды, хлапчына...

— Вось-жа! загіне! Ой, ліха-ж на яго...

— Ды хіба-ж тут пасьпееш ухапіць? Бачыш, як нясе.

— Таварышы! Давай бусакі, вяроўкі. Барджэй!—камандаваў на мосьце старэйшы з чырвонаармейцаў.—Зьвязвайце вехі. Забягай зьлева! Падцягвай крыгу да берагу. Хапай яе бусаком... Чапляй крукамі!

Чалавек з 10 чырвонаармейцаў раптам кінуліся наперад. Крыга з хлопчыкам набліжалася з нястрыманай хуткасьцю. Чуўся зьняможаны плач, які падобны быў да сьляпога скавытаньня кінутага на пагібель сабачкі.

— Ах, дзіцятка, увесь галасок свой выкрычаў, выплакаў...—бядавалі на беразе кабеты.

Кузьмішчаў ад хваляваньня зьбялеў. Ён кінуўся кудысьці на бок. Васіль, Якім, Тацяна, Хведарка і Алесь Шыла затаіўшы дух, не адрываючы вачэй, сачылі, як насіла крыгу па рацэ, як круцілася яна між іншых такіх-жа крыгаў.

Чырвонаармейцы, выцягнуўшыся ланцугом, з гарачкі кідаліся на спатканьне. Гразнучы ў балоце, яны разьбегліся ўздоўж берагу ля самай вады. Рухі іх былі жвавымі і хуткімі. Вось пярэдні выкінуў далёка перад сабою доўгі бусак з крукам на канцы. Крук стукнуўся аб крыгу, але не зачапіўся.

— Прапаў!..—раздалося па ўсім беразе...

Крыга крута павярнулася і паплыла далей. Здавалася яшчэ хвіліна—і яе ўцягне ў бурную кучу крыг, якія зьбіраліся ля моста і з грукам кідаліся ўніз са сьлюзу на другім баку гэтага-ж моста. Але ў гэтую-ж самую хвіліну невядома адкуль падскочыў Кузьмішчаў, з усёй сілы размахнуўся і кінуў нешта на сярэдзіну рэчкі. Са сьвістам разьляцеўся зматаны клубок вяроўкі. Раскручваючыся, як касьнік, вяроўка перакінулася канцом, якраз на крыгу. Хлопчык зачапіўся за яе аднэй рукой, а другою трымаўся за крыгу, каб не спаўзьці ў ваду. Кузьмішчаў стаў цягнуць да сябе вяроўку. Крыга павярнулася:

— Ой, зацягнеш яго нямаведама куды! Не цягні! Памалу цягні!—пачуліся дзесяткі перапалоханых галасоў.

— Падводзь, падводзь сьмялей!—крычалі іншыя.

— Асьцярожна!

Кузьмішчаў ступаў памаленьку берагам, дрыжачымі рукамі цягнучы вяроўку, як вельмі тонкую струнку, якая вось-вось магла парвацца.

Крыга, борзда плывучы, стала ўвачавідкі набліжацца да гурту людзей. І калі яна ўжо значна наблізілася, чырвонаармейцы, якія нецярпліва вартавалі яе, зараз-жа выкінулі бусак. На гэты раз востры крук моцна ўчапіўся за крыгу.

— Ах!—радасна і ад захапленьня вохнула ўсхваляваная гурба народу.

— Цяпер наш!

— Наш!

— Маладцы хлопцы!

— Вось гэта дык вынаходка!



Крыгу ў адзін момант пацягнулі да берагу. Мокры, пасінелы ад холаду і страху хлопчык ня меў сілы нават паварушыцца,—яго зьнялі няпрытомнага. І, зьнімаючы, зьдзівіліся: да правага бота быў прывязаны канёк.

— Вось дурны, што ўздумаў?!

— Ну, глядзеце, як вам падабаецца? — коўзацца захацеў!

— Вось дурная галава!



Са сьвістам зьляцеў змотаны клубок вяроўкі.

— Куды яго? — спыталіся чырвонаармейцы ў свайго старшыні, які стаяў на мосьце.

— Цягні ў казарму.

— Давайце нам,—перабіў Кузьмішчаў.—Давайце ў піонэрскі атрад!

— У нас ён адчуняе. Будзьце пэўны.

— Толькі-ж слухайце, хлопцы: зараз-жа нацерці яго, як сьлед, трэба, — згадзіўся старшыня. — Сьпірту дастаньце, ды сьпіртам яго!

Кузьмішчаў, Якім і Хведар узяліся за рукі і зрабілі жывыя насілкі. Хлопец дрыжаў увесь і корчыўся. Яны ўзялі яго і панесьлі ў Васілёву хату.

— Тацянка, Алесік, бяжэце за лекарам! — даў загад Кузьмішчаў.—Ды хутка, раз туды—раз назад!..

Хлопчыка палажылі на Васілёў ложак, разьдзелі і пачалі націраць з такою шчырасьцю, што худашчавае, пасінелае цела неўзабаве пачало чырванець, напаўняцца жывым цяплом. Па рацэпту лекара ў аптэцы выдалі сьпірту і нейкай нашатырнай масьці. Націраньне пайшло тады яшчэ жвавей і шчырэй.

— Ну, што, мораплавец, жывы?—з ласкаваю ўсьмешкаю нахіліўся над адратаваным Якім Шчыглоў.

„Мораплавец“ узьняў галаву і жаласна ўздыхнуў:

— Баліць!

— Што баліць?

— Ды націраеце балюча...

— Добра, маўчы... Ня коўзайся да страты памяці. Яшчэ ня так будзем церці. Пацягні лепш вось асьпірыну: доктар наказваў.

За некалькі хвілін, калі хлопчык адчуняў і адагрэўся, ён сказаў, што яго завуць Косьцем Данчэнкам, і расказаў, што бацька яго працуе канторшчыкам на суседняй цукраварні, а ён сабе вучыцца ў школе. Яшчэ сягоньня зранку ў іх на рэчцы быў лёд, хоць хадзіць па ім ужо баяліся, бо з дня на дзень чакалі паводкі. Але Косьця паспрачаўся з адным сваім сябрам і пачаў выхваляцца адвагаю, а каб паказаць, што ён сапраўды небаязьлівы, згадзіўся праехаць на коніку праз усю рэчку да процілеглага берагу і назад. Так і было. Прымацаваўшы да нагі коніка, ён без нічагуткі сабе даехаў да другога берагу, а ўжо, калі пачаў ехаць назад, лёд пад ім адразу захістаўся, напяўся, скорчыўся і раптам трэснуў. Ён аж акамянеў, калі ўбачыў, што вада за міг разьлілася з усіх бакой, а крыга захісталася і паплыла. Рака рушыла, гучна расколваючы лёд на вялізныя брылі. Як не намагаўся Косьцік, але выбрацца на бераг так і не пасьпеў, і яго несла вёрст 20 да самага гораду. Усю дарогу

ён прасіў аб паратунку, плакаў, бачыў людзей, якія беглі ўздоўж рэчкі, але сярод голага поля ніхто ня мог яму дапамагчы.

Расказаўшы гэта, Косьцік адразу горка ў зьнемажэньні заліўся сьлязамі.

— Ты чаго?

— А як-жа... Дома—там, напэўна, спужаліся... Турбуюцца... Думаюць, што я ўтапіўся...

— Дарма,—заспакоіў Кузьмішчаў,—мы ім тэлеграму пагонім. Яким! Смалі на пошту!

Тут-жа напісалі тэлеграму, злажыліся па грыўні і Якім з Васілём выбраліся на пошту.

Па затопленых вуліцах плавалі чаўны, перавозячы тых, каму трэба было прабрацца праз залітыя вадою раёны. Яскрава сьвяціла сонца, веяла першым, пасьля зімы, цяплом. У горадзе пасярод вуліцы ішлі з палявых манэўраў чырвонаармейскія батальёны. Няспыннаю, густой лаваю валілі шчыльныя шэрагі салдат, здаровых моцных. Грымелі песьні—звонка, весела з бадзёрыстым, маладым захапленьнем. А здалёк шумнымі хвалямі калыхаліся гукі дывізыйнага оркестру. Батальёны ішлі за батальёнамі, песьням ня было канца. Здавалася, што сілы ад іх галасоў ня можна ні вычарпаць, ні зьлічыць ніколі. І ад гэтай шумнае, ружовае людзкое ракі Якіму з Васілём стала так прыемна, такою сьветлаю і шырокаю воляю забіліся іх сэрцы, што яны ўжо верылі ўсёю істотаю сваёю, што чакае іх надзвычайнае шчасьце, дасягненьні, посьпехі і што першым вястуном гэтага шчасьця будзе падарожжа да нямецкіх хлопцаў у Гамбург.

Калі яны прышлі дамоў, Косьцік ужо моцна спаў. Росныя кроплі поту выступілі ў яго на чале. Стась Зялінскі і Хведарка Качура сядзелі ля ложка, як сёстры-жалобніцы, уважна даглядаючы, каб спацелы „мораплавец“ не раскрыўся і не расхінуўся.

---

## РАЗЬДЗЕЛ ТРЭЦІ

# ЧУТКІ ПРА СХОДЫ НЯБОЖЧЫКАЎ

На другі дзень каля дзевяці гадзін раніцы з Лахвіцкай цукраварні прыехаў па Косьціка яго бацька.

— Ну, пападзе-ж цяпер мораплаўцу!—баязьліва ўздыхнула Тацяна Ліхачова, калі на двор узьехаў на заводзкай падводзе ўсхваляваны чалавек і спытаўся ў Васіля Аўдзеева, ці ня тут жыве выратаваны з крыгі яго сын.

— Ёсьць такі,—усьміхнуўся Васіль.

— Здаровы? Жывы?—урыўчата з трывогай у голасе запытаўся падарожнік.

— Здаровы, клапоціцца толькі аб вас, што вы напужаліся.

— Ах, што ён натварыў!.. Што натварыў!

„Пападзе"...—яшчэ раз пра сябе падумала Тацяна.

Але ўсё абыйшлося нічагуткі. Косьцікаў бацька такі рады быў убачыць жывым свайго сына, што не сказаў яму ніводнага слова крыўды. Ён шчыльна ўкруціў яго ў вялікі кажух, накрыў зьверху па кажусе цёплаю коўдрай і горача падзякаваў хлопцаў за турботы па дагляду за сынам.

Косьцік на разьвітаньні расчуліў усіх тым, што быў неяк у замяшанасьці і ў нязвычайнасьці.

— Нарабіў я вам бяды...—сказаў ён, быццам перапрашаючы.

— Што там...—папляскаў яго Васіль па плячы.—Будзь спакойны за гэта!

— Прыяжджайце ўлетку да нас,—прасіў Косьцік, зьвяртаючыся да хлопцаў, якія абступілі падводу.—У нас добра.

— Гэта нішто сабе,—абазваўся Якім.—Чакай. Прыедзем абавязкова. Толькі-ж глядзі, не забудзься!

— Ды ўжо не забудзецца, не клапацецеся аб гэтым,—мякка ўсьміхнуўся Косьцікаў бацька.—Гэткае здарэньне, думаю, і да самай сьмерці будзе ў памяці.

Коні чмыхнулі, і падвода неўзабаве зьнікла за бліжэйшым рогам вуліцы.

У пятніцу на зборы атраду комсамолец Козыраў чытаў адказ, які ён злажыў Гамбурскім піонэрам. Ліст усім вельмі спадабаўся. Ухвалена было перакласьці яго на нямецкую мову і ў нядзелю-ж абмеркаваць на зборы атраду.

Козыраў пастараўся на славу: ліст пераклалі і перапісалі на нямецкай мове так акуратна і старэнна, што радкі тэксту на вялікім хрупкім аркушы паперы выглядалі як прывабныя малюнкі.

— Правільна!—ад захапленьня закрычалі ўсе піонэры, калі Козыраў прачытаў ліст.

Старшынёю быў Кузьмішчаў. Паблісківаючы вясёлымі вачыма, ён кінуў у залю з юнацкім запалам:

— Хто супроць?

Радасным маўчаньнем адказаў сход; у гэтым маўчаньні, як пастаўлены высока сьцяг, лунаў чоткі і ўрачысты голас Кузьмішчава.

— Прымаецца!

З такою-ж гарачаю адназгоднасьцю быў прыняты ліст і на зборах усяго чырвоназаводзкага колектыву. Была ўтворана вялікая чарга для таго, каб падпісацца на лісьце. Чарга нецярпліва напірала наперад, да стала, свае галовы. За некалькі хвілін сто семдзесят пяць піонэрскіх прозьвішчаў ляглі пад нямецкім тэкстам на вялікім белым аркушы.


Комсамолец Козыраў чытаў адказ.

— Лоўка?—паказаў Козыраў ліст над трыбунаю.

Раскіданыя на паперы подпісы былі падобны на вялікую чараду птушак, якія ляцяць у неба з нястрымнаю сілаю і воляю.

— Лепш за маніфэст! — жартаўліва заўважыў Якім Шчыглоў.

— Пускай яго цяпер паветранаю поштаю!—ззонка гучэлі галасы з задніх радоў.

Але ліст, як і было раней умоўлена, паслалі праз Выканком КІМУ‘у.

Пачаліся цёплыя вясновыя дні. На таполях сакавітаю смалою панабракалі пупушынкі. Рассыпчатым, неспакойным шчабятаньнем зацьвірыкалі раніцамі вераб‘і, пералётваючы з месца на месца.

І піонэры, насядзеўшыся за зіму ў духотных хатах і школах, высыпалі на сьвежае паветра.

Але на дварох, на вуліцах, на тратуарах прасторы было мала. Піонэрская сіла жадала прасторы, разгону, ёй трэба было разгарнуць сваю ўдаласьць вольнымі крыкамі, гульнямі, беганінай.

— Хлопцы, валі на могілкі!—паддаў ахвоты вёрткі забіяка Алесік Шыла.

— І сапраўды! Там раздольле.

— Дзе-ж гэта?—здаўмелася Вера Жукова.

— На новым, звычайна. Ня бачыла?

— Ляці першы!

— А ну! Навыперадкі: хто барджэй!

І сапраўды выявілася, што могілкі—найлепшае месца для розных гульняў. Яны былі вялізныя, як поле, і знаходзіліся зусім недалёка ад заводу. Старая іх палова густа цямнела магілкамі, крыжамі, помнікамі, каплічкамі. Там легла шмат мінулых пакаленьняў, захаваўшы і пасьля сьмерці ўсю сілу свайго жыцьцёвага становішча: багатыя леглі бліжэй да царкоўнага цьвінтара, пад прыгожымі помнікамі, з мармуру, з залатымі надпісамі, сярод густых пекных балясаў, леглі сярод разгірастых ліп і высокіх таполяў, сярод шыпшыны і бэзу, а бедныя рассыпаліся воддаль, пад праўлянымі, напалову гнілымі і крывымі крыжамі, а то і зусім бяз крыжоў, пад голымі няпрывабнымі кучамі пяску. Новая частка могілак, нядаўна агароджаная, была падобнай да шырокай палянкі, на якой толькі рэдка дзе-ні-дзе пападаліся прыгожыя насыпы магілак.

— Вось-бы дзе з мячом пабегаць! Небу горача стала-б!—З радасьцю адгукнуўся Максім Бурачок і з выглядам пераможцы абвёў рукою ўсю прастору, быццам заваяваную зямлю.

— А ў гарадкі?

— А ў ведзьмака?

— Проста рай!—закрычалі ўсе наперабой.

І такія звонкія і шумлівыя тут пачаліся гульні, такім радасным гоманам напоўніліся могілкі, што здавалося, быццам гэта месца было адным з найвясёлых у сьвеце.

Асабліва яскрава ды буйна рассыпаліся дзіцячыя галасы пасьля абеду, калі старэйшыя піонэры, якія працавалі на заводзе, кідалі свае майстэрні і прыбягалі сюды. Тады здавалася, што над гэтымі могілкамі ў чыстым блакіце неба адбіваецца незаўважанае вокам вогнішча нястрымных выгукаў, сьмеху і радасьці.

— Ах вы, бязбожнікі няшчасныя! Галаштаньнікі! Што гэта вы выдумалі?—злосна накідалася на піонэраў старэнькая бабуля, якая кожны дзень праходзіла ля могілак з кошыкам у руках, на рынак.—Ці чувана-ж гэта,—жарабятамі па могілках скачуць, топчуць іх, быццам якое-небудзь балота, га?.. Сон сьмяртэльны божых пакойнічкаў трывожаць. Бачыш, як горла дзяруць! Костачкі мёртвых, напэўна, аж гудуць ад зьнявагі такой.—Ну, не даруе вам бог кпінаў такіх. Пакарае цяжка! Ён, бацюшка, усё бачыць. Да чаго дажылі: і памерці палюдзку не дадуць. Затопчуць!



— Ах, вы, бязбожнікі праклятыя!

— А ты жыві, бабуля, не памірай! — даў параду ёй Алесік Шыла.

— Я табе дам „не памірай"!— насварылася на яго бабуля.

— Дык няўжо-ж у дамавіну хочаш?

— Ах, ты, злодзей, рыштанюга!

— Чаго-ж ты лаешся?

— Як-жа ня лаяцца? Чарадою нада мною мячы ганяць будзеце, а я маўчы ім.

— Ну, калі ты мяча баяцца будзеш, дык мы цябе не пахаваем.

— Як гэта не пахаваеце?—вытрашчыла ад неспадзяваньня бабуля вочы.

— Вельмі проста: завалачэм у крэматоры—дый усё. Абыйдзешся і бяз могілак.

— Куды-ы-ы?

— У крэматоры. Гэта печ такая: усунуць туды труп, а праз хвіліну толькі прыгаршчы попелу дастанеш.

— Ах, матка боская! Ах, угоднічкі! Цьфу, праклятыя Цьфу, цьфу...—заплявала, замахала і пацягнулася адгэтуль зьбітая з панталыку бабуля.

А праз некалькі дзён пасьля гэтай размовы пашлі па хатах на акраіне гораду цёмныя заблытаныя чуткі.

Гаварылася, што быццам зьбіраюцца бальшавікі-камуністыя будаваць на зямлі гэену вогненную—на сем вёрст удаўжкі і нагэтулькі ўшыркі, дзе і будуць жыўцом паліць усіх дзядкоў і бабулек, і калі гэткае пачынаецца ўжо, дык нямінуча хутка, напэўна, і канец сьвету прыдзе. Бо гэтак-жа і прарокі пісалі. А неўзабаве зьявіліся людзі, якія цішком апавядалі аб тым, што нібы на ўласныя вочы бачылі па начох на могілках агні і даводзілі, што гэта сходзяцца па склепох і каплічках нябожчыкі, якіх патрывожылі сваімі гульнямі піонэры, сходзяцца, быццам, на свае мярцьвяцкія нарады і стогнуць, скардзяцца падзямельнымі ледзянымі галасамі.

— Што за чартоўшчына! — абураўся Якім Шчыглоў, калі да яго далятэлі ўрыўкі з такіх размоў.

— А ўсё ты, Шыла, вінаваты, — дакараў яго Васіль Аўдзееў.—Напалохаў тады бабулю крэматорыем,—вось яна і набалакала нямаведама чаго.

— Яна і без мяне нагаварыла ня менш,—хацеў апраўдацца Алесік,—у яе мазгі шкодныя. Разумееш, увесь чарапок забабонамі набіты. Пры чым-жа я тут?

— Ня трэба было дражніцца.

— Усё-роўна, дражні—не дражні, яна сваё зрабіла-б. Калі безнадзейна забітыя забабонамі мазгі—тут, брат, ужо няма рады.

— Што-ж цяпер рабіць?—запытаў, задумаўшыся, Якім Шчыглоў.

— Гэты ты пра што?

— Ды ня можна-ж так пакінуць, каб людзі плявузгалі, што ад нашых гульняў нябожчыкі па начох зьбіраюцца.

— А табе шкада? Няхай зьбіраюцца, — засьмяяўся Алесь.

Якім сурова паглядзеў на яго і раптам рашуча заявіў:

— Я дакажу, што ніякіх збораў мёртвых няма, а калі і гараць на могілках агні, дык гэта нешта іншае.

— Як-жа ты дакажаш?—недаверліва выцягнуў сваю галаву наперад Алесь.

— Пайду ўначы на могілкі і даведаюся, адкуль там агні бяруцца.

Усе на момант уявілі сабе глыбокую цемру ночы, абрысы надмагільных крыжоў, каплічак, балясаў, дрэваў,—і

раптам адчулі, што кожнаму ў такіх абставінах можа стацца вельмі вусьцішна і страшна.

— Пакінь, — махнуў рукою Васіль. — Яшчэ спужаешся чаго-небудзь...

— Чаго-ж пужацца? Пасьля сьмерці трупы згніваюць і становяцца порахам,—гэта ўсім вядома. Няўжо-ж ты толькі на словах так думаеш.

— Зусім не,—пачаў апраўдвацца Васіль.

— А калі сапраўды ня верыш у тоесьветнае жыцьцё, дык няма чаго і могілак баяцца.

— А ты не пабаішся, пойдзеш? — з ледзь схаванаю ўсьмешкаю запытаўся Алесь, які заўсёды любіў падпушчаць шпількі ў розных сварках і спрэчках.

— Не пабаюся.

— Ну, гэта яшчэ пабачым...

— Што-ж, пабачым! Я свайго слова ня цураюся.

— Толькі адна ўмова,—настойліва зачапіўся Алесь за прапанову Якіма.—Вось табе мой піонэрскі гальштук. Калі такі сапраўды будзеш на могілках, палажы яго ў чорную каплічку ў куток. Гэта будзе найлепшы доказ. Раніцой мы пашукаем. Альбо гальштук будзе ў капліцы, альбо ў тваёй кішэні. А то, ведаеш, сьмелякі розныя бываюць...

Якім моўчкі працягнуў руку па гальштук.

— Пакіньце, хлопцы,—прамармытаў Васіль.

— Я-б таксама не асьмеліўся, — зухавата прыжмурыўся Алесь.—Учора мой бацька апавядаў, што ў Луганскім вось так-жа з-за могілак рабочыя паспрачаліся. Адзін і адважыўся пайсьці а поўначы на магілу ўтопленьніка. Пайшоў—дый не вярнуўся: рана знайшлі яго там мёртвым. Дактары рэзалі,—разарвалася сэрца, кажуць. Хто ведае, што яму са страху зрабілася.

Якім нічога не сказаў. Толькі шустрыя карыя вочы яго пацямнелі ад хваляваньня і сталі зусім чорнымі.

Дома Якім сказаў, што будзе начаваць у Васіля Аўдзеева і выбраўся з хаты трохэ што а сёмай гадзіне вечара. Да адзінаццатай ён праседзеў у рабочым клюбе разам з хлопцамі. А калі стрэлка на гадзіньніку паказала пяць хвілін дванаццатай, з асаблівым выразам прашаптаў да Васіля:

— Ну, я пайшоў. Ты-ж мяне ўсё-такі чакай дома.

— Якім,—узяў яго за рукаў Аўдзееў.

— Што?

— Ня йдзі...

Тоненькія Якімавы бровы заморгалі кароткімі рыскамі. Ён нявыразна ўсьміхнуўся.

— Дзівакі!

Павярнуўся і цьвёрдымі крокамі пайшоў да дзьвярэй.

Хлопцы сьледам за Якімам вышлі на вуліцу. Было вельмі цёмна, ціха. На небе плавалі рэдкія хмаркі. Пахла дажджом. Перавулак у бок да могілак чарнеў ад цемры. Якім, не аглядаючыся, рушыў у самую глыбіню яго,—і неўзабаве зьнік з вачэй. Хвіліны са дзьве яшчэ чуваць былі роўныя крокі, якія памалу аддаляліся і, нарэшце, зусім спыніліся. У напружаным маўчаньні мінула яшчэ са тры хвіліны. Здалёк, ледзьве чутна, дзынгнуў прыглушаны мэталёвы гук.

— Фортка...—прамовіў Васіль.

Усе выразна ўявілі сабе, як Якім у гэты час увайшоў на могілкі і прычыніў за сабою такую знаёмую ўдзень і такую страшную цяпер жалезную фортку...

---

## РАЗЬДЗЕЛ ЧАЦЬВЕРТЫ

# ПРЫГОДА НА МОГІЛКАХ

Пакуль Якім адчуваў за сваёю сьпінаю хлопцаў,ісьці было лёгка. Ён ведаў, што яны дружным гуртам стаяць і сочаць за ім усьлед, што яны думаюць пра яго, гутараць, можа нават спрачаюцца,—і гэта давала большай сьмеласьці, спакою, пачуцьця падпоры і заступніцтва. Але разам з тым,



Клямка ціха дзынгнула—фортка адчынілася.

як завулак глушэў, цямнеў і ўсё далей адсоўваўся ад заводу, міжвольна пачынала ўзрастаць незразумелая сіла могілак. Горад ззаду разьлягаўся ад нявыразнага гоману, неба над ім хмурна дыхала водблескам ад тысяч агнёў. А наперадзе была нямая цемра і нейкая цалкам асаблівая, глухая, маўклівая.

Вось завулак скончыўся. Ледзь прыкметна ў цемры відаць слупы, брамы могілак. Якім, ня спыняючыся ні на хвіліну,

паціснуў ручку форткі. Чыгунная ручка здалася яму мёртва-халоднаю, варожаю, быццам злосны нейкі сэнс хавала яна ў сабе. Туга зашчэпленая клямка ціха зазьвінела—фортка адчынілася. Якім ступіў наперад, і, каб спалохаць страшную сілу цішыні, каб абадзёрыць сябе, моцна стукнуў форткаю: чыгун гучна дзынкнуў аб чыгун, але гук гэты зараз-жа зьнік, абрэзаўся, быццам густая цішыня ночы прыглушыла яго зьверху, як падушкаю. Могілкі былі напоўнены страшным спакоем. Якім адчуў, як у яго па сьпіне да патыліцы борзда пабеглі мурашкі. Валасы на галаве палезьлі ўгору няжывою порсткаю капою.

Але адступаць было позна. Сьвядомасьць крычала, што ніякім страхам тут месца не павінна быць, што трэба перамагчы, асіліць страх, ісьці далей, дабіцца свайго. Думкі віхрам праносіліся адна за другою. Ад іх лятучага націску кружылася, гарэла галава.

Бо у чым мэта? Мэта—давесьці, што ён сапраўды быў на могілках, хадзіў уначы сярод магіл—і нічога, ніякае чартоўшчыны, ніякіх мерцьвякоў ня бачыў. Рука яго цьвёрда сьціскала ў кішэні Алесеў гальштук. Трэба, як мага барджджэй дайсьці да чорнай каплічкі, палажыць гальштук у кутку. І тады... тады можна ўжо вярнуцца назад, можна ісьці сабе, нават уцякаць ад гэтага пякучага страху. Шырокая дарога па могілках да царквы няясна расступілася. З усіх бакоў густа чарнелі абрысы крыжоў, балясаў, каменьняў. Здавалася, што крыжы вырастаюць, зьбіраюцца, зьбягаюцца да яго, што ў цемры неяк дзіўна ўсё перасоўваецца, што ўсюды—і справа і зьлева, і сьпераду і ззаду—адбываецца цэлы паход, мёртвая метусяніна,—і ўсё супроць яго, Якіма Шчыглова, што, можа, вось за адзін міг разявіцца зямля, і тысячы зданьняў схопяць яго, задушаць сваімі страшнымі кастлявымі рукамі.

І раптам... Якіму забіла дух: наперадзе, за магіламі, як здань, жоўтаю кропелькаю мільгануў агонь. Адразу Якімавы валасы адсталі ад галавы, быццам хто-небудзь зьняў з галавы іх разам са скурай.

Ногі скамянелі, прыліплі да зямлі. Аглушваючымі ўдарамі забілася сэрца. Па сьпіне прабег холад, шалёны жах абхапіў усё цела з галавы да самых пят. Якім міжвольна заплюшчыў вочы, намагаючыся прысьці ў сябе, адчуняць, сабрацца з сілай. Хацелася думаць, што агонь—гэта таксабе, здалося, што, калі паглядзець зноў, нічога ўжо ня будзе, бо звышпрыроднага нічога на сьвеце няма, што вогненная кропелька зьявілася проста ад нязвычайнага напружаньня нэрваў, а сапраўды нічога няма, як і ўсюды далей за могілкамі—у палёх, што вось за гэтымі мурамі сьцелюцца на доў-

гія дзесяткі вёрст. Але не! Якім яшчэ больш расчыніў вочы—агонь гарэў ясна, яскрава.

Надзвычайнай напружанасьцю волі Якім перамог свой перапалох. З адчайнай рашучасьцю, гатовы нават загінуць, ён адкінуў патаемны голас сэрца, які шаптаў, каб уцячы; перамагаючы свае хістаньні, рушыў ён з месца далей. „Дайсьці, дайсьці, дайсьці“...—не пакідала віхрыцца думка. Ногі былі цяжкімі, яны прырасталі да зямлі, а сама зямля здавалася хісткаю, як дно чаўна на вадзе. Ногі ня слухаліся, блыталіся, падкошваліся. Якім ішоў, быццам зьвязаны...

Сажняў праз дваццаць спыніўся зноў. Зразумеў: агонь сьвяціўся ў вялікай капліцы, якую хлопцы, гуляючы, празвалі „пузаніхаю“, за яе кароценькія і нізенькія вушакі і дзьверы.



Пад нізенькім панурым скляпеньнем, сядзела трое падросткаў.

Агонь у капліцы сьвяціўся, мігацеў,—значыцца, гарэла сьвечка. Але мігаценьне даводзіла аб тым, што каля сьвечкі ёсьць нейкі рух. І ад таго, што ў капліцы былі нейкія невядомыя істоты, было асабліва страшна. Хто там цягаецца? Хто прытаіўся? Навошта? Што там робіцца? А што, калі і сапраўды мёртвыя?.. У галаве моцна шумела. Ад халоднага жаху ўзьнімаліся на галаве валасы. Здавалася, цемра стала навакол у выглядзе высокіх чорных вадаспадаў, заступіла ўвесь сьвет і вось-вось праглыне сабою і могілкі і яго разам.

Як у кашмарным сьне, калі ногі цалкам нямеюць, таму што ніякае ўцяканьне ўжо не паможа, Якім на некалькі хвілін аслупянеў, замёр і вось-вось мог самлець. У сьвядомасьці адбывалася астатняя барацьба. Хваляваньне сьціскала, душыла сэрца. І раптам, не ўяўляючы добра таго, што ра-

біць, ён кінуўся насустрач страху, насустрач агню... Могілкі хістануліся, паплылі. Чорнымі купінамі блыталіся пад нагамі насыпы магіл. Страшная капліца набліжалася й вырастала. Але што гэта? Што?.. Ад неспадзяваньня таго, што ён убачыў, Якім аж ахнуў: пад нізенькім панурым скляпеньнем, на кутняй мармарнай пліце курыўся маленькі недагарак сьвечкі, а ля яго ў падраным жабрацкім лахмоцьці, падкурчыўшы пад сябе ногі, сядзела трое падросткаў. Яны гулялі заўзята ў мяккія, брудныя, падраныя карты, шчыра з прыціскам ляпаючы імі аб мармар. Пачуўшы шастаньне і тупаньне Якіма, галадранцы недаверліва ўзьнялі галовы. „Бяспрытульныя!"—радасна блiснула думка ў Якіма.



Бяспрытульны.

— Чаго там туляешся?— груба прагаварыў на яго адзін з гулякаў.

Якім, ледзь пераводзячы ад мінулага страху дух, прыхіліўся да каменнага муру.

— Ах, ліха яму, франт які! — зьдзівіўся крайні. — Ты глядзі толькі, у ботах... Вось дык птушка!

— Адкуль?—грозна запытаўся той, што адгукнуўся першым.

— Я тут... тутэйшы...— блытаючыся, адказаў Якім і не пазнаў свайго голасу: гэтак ён перасох і непаслухмяна ламаўся язык.

— Ды гэта шкет! Ня бачыш?

— Дай яму пад душу, Гарасімка!

— Пачакай, я над ім допыт учыню.

Дзікавалосы галадранец з пагрозаю ўзьняўся і падышоў да Якіма, перагароджваючы выйсьце з капліцы.

— Марш у куток!—загадаў ён тонам, які не дапушчаў протэсту. Мы цябе памацаем, што ты за птушка.

— Буржуй!

— Шкет!

— Сьмятаньнік!—падтрымалі напад на Якіма і іншыя.

— Ты адкуль сюды прышоў? Га? Адказвай, а то пяром чыркану!

Дзікавалосы злосна падкінуў уверх бараду, борзда расьцягнуўся і выхапіў з лахмоцьця свае сьвіткі плоскі вялікі нож.

І за кароткі міг у Якімавай галаве раптам прамільганулі ўсе апавяданьні і гутаркі пра бяспрытульных, якія ў нячуванай колькасьці зьявіліся ў горадзе... Яны перабягалі па людных вуліцах шумнымі чародамі, нападалі на кабет, выбіваючы, вырываючы ў іх торбачкі з грашыма, нападалі на гандлярак, якія прадавалі булкі, папяросы, цукеркі, яблыкі... Бяспрытульныя налятали гуртам, як хмары вераб'ёў, і праз хвіліну ад ірысак, абаранкаў, яблыкаў і іншага аставаліся толькі сумныя ўспаміны: дзіка аброслая шчаціньнем чарада хлопчыкаў бегла ўжо далёка, шукаючы новых ахвяраў. Былі выпадкі, калі мужчыны прабавалі абараняць ад рабунку жанчын і з бойкаю накідаліся на бяспрытульных, пачыналі іх разганяць, біць. Але тыя люта кусаліся, як ваўчаняты, разгрызаючы рукі да крыві, да рваных ранаў.

Гэтае пакусаньне было страшнейшым ад усяго: шмат людзей дасталі ад іх страшнай хваробы, а некаторыя проста ўміралі ад заражэньня крыві. Апавядалі, што некалькі дзён таму назад, амаль што ў самым цэнтры гораду, у высокім круглым барабане, на які наклейваюць розныя афішы, знайшлі няжывога хлопца. Уранку рабочыя, праходзячы, бачылі, як з барабана выпаўзьлі з адзежаю ў руках і кінуліся наўгалёп ад месца злачынства двое бяспрытульных падлеткаў гадоў па шаснаццаці... І кожны дзень прыносіў новыя дзесяткі апавяданьняў пра розныя напады бяспрытульных. Бяспрытульныя нахлынулі ў горад з поўначы, з халодных губэрняў, рассыпаліся, як саранча, і, здавалася, што ўсё яны прыбывалі і прыбывалі... З імі ня ведалі, што рабіць, як змагацца, не знаходзілі спосабаў, як вярнуць іх да працы, да нармальнага людзкога жыцьця. Пра іх усюды ішла самая найцяжкая і напружаная гутарка. І ўбачыўшы цяпер перад сабою злыя, галодныя вочы, брудныя, выскаленыя аблічча, убачыўшы цёмнае лязо нажа, Якім зразумеў, што ён апынуўся ў найгоршым становішчы, што яму пагражае неспадзяваная бязглуздая сьмерць і што дапамогі чакаць няма адкуль.

---

РАЗЬДЗЕЛ ПЯТЫ

# ТРЫВОЖНАЯ НОЧ ВАСІЛЯ АЎДЗЕЕВА

Неўзабаве пасьля таго, як стукнула фортка на могілках, хлопцы з няяснаю, няпэўную трывогаю разышліся ў розныя бакі.

Дома Васіль адчуваў сябе, як на гарачым вугольлі. Матка, падаючы на стол вячэру, гаварыла аб розных гаспадарскіх патрэбах, вырахоўвала колькі на што трэба патраціць, а Васілёвы думкі трывожна біліся ў чаканьні і турбоце. Ён ніяк ня мог затрымаць сваю ўвагу на будзённых падрахунках маткі, і кожную хвіліну прыслухоўваўся, ці не пачуюцца на вуліцы шагі Якіма.

Калі матка, стомлена пазяхаючы і вохаючы, лягла спаць, Васіль зьняў са сьцяны лямпу і разгарнуў кніжку.

— Не заседжвайся да поўначы, Васілёк!—Лажыся спаць. Уранку-ж трэба на працу ўставаць,—ласкава папрасіла матка, ні аб чым не здагадваючыся.

— Я зараз. Вось толькі пачытаю трошкі,—заспакоіў яе Васіль, стараючыся вымаўляць словы так, каб тонам голасу ня выявіць свайго хваляваньня.

Стары насьценны гадзіньнік з таемным шыпеньнем ужо адзначыў дванаццаць. „Дзе-ж ён прапаў“?—падумаў Васіль,—„час-бы ўжо“...

Але навокал стаяла цёмная і страшная цішыня. Вуліца санліва замоўкла, супакоіўшыся, пасьля доўгага працоўнага дню. Ня чуваць было ні крыку, ні голасу праходзячых, ні грукату вазакоў. Толькі зрэдку даляталі ад станцыі начныя перакліканьні гудкоў з паравозаў ды даносіліся з няяснай далі ледзь чутныя гаўканьні сабак. Трывога міжвольна ўзрастала і сьціскала Васілёва сэрца. „І нашто мы яго пусьцілі? Трэба было проста адмовіць і канец“.

Пра сон і ўспаміну ня было. У думках зьяўляліся найжахлівейшыя малюнкі, адны страшней і цудоўней за другія. З таго, што чытаў, Васіль нічога не разумеў: радкі расплываліся перад вачыма, зьмест неўлавіма зьнікаў.

Мінула і першая гадзіна. Адначасна з шыпеньнем схаваных пружын зьнік і звон старэнькага мэханізму. Ад гэтага цішыня ночы стала яшчэ хмурнейшаю, гусьцейшаю, здавалася, ня было ёй канца. Аднастайна хістаўся маятнік, цокаючы бязупыннымі мэталёвымі кроплямі.

— Ці гэта-ж ты пры розуме? Да такой пары сядзець!..— нездаволена абурылася матка.—Лажыся зараз і сьпі!

— Мама...—пачаў Васіль і голас яго абарваўся,—ведаеш... з Якімам Шчыгловым напэўна што-небудзь такое здарылася...

І нэрвова, блытаючы словы, ён расказаў ёй усю гісторыю.

— Ну як-жа на вас не сварыцца пасьля гэтага?—загневалася матка.—Ды гэта-ж ад самага страху Якімка захварэць можа! Дзе вашы галовы былі? Няўжо ні ў кога жалю да яго не знайшлося?..



— Дзе-ж ён падзеўся?—падумаў Васіль.

Васіль маўчаў. У мірных хатніх абставінах, сярод знаёмых з маленства такіх простых і блізкіх рэчаў ён ужо даўно зразумеў, што тут зроблена памылка, што такога адважнага падарожжа ўначы на могілкі ня трэба было дапускаць, што з гэтым не жартуюць. Ён ніяк ня мог цяпер дараваць сабе, што ўвечары ня змог добра абмеркаваць тых вынікаў, якія могуць ад усяго гэтага трапіцца, каб заўчэсьня стрымаць Якіма ад небясьпечнай справы.

— Мама...—рашуча глянуў ён паверх лямпы.—Я пайду.

— Куды?

— Шукаць...

— Што-о?—спужаўшыся, ўзьнялася з пасьцелі матка.

— Якіма шукаць.

— А хто цябе пусьціць?

— Ды ня можна-ж не пайсьці. Падумай... А што, калі...

— Трэба было думаць раней „А што калі"... Бачыш калі адумаўся! Сядзі дома да раніцы!

— Я-б да Кузьмішчава забег. Мы-б удваіх пашлі...

— І ўтраіх ня пушчу!

— А калі там няшчасьце?

— Да сьвету за парог ня выпушчу! Зразумеў? Бач, які разумны знайшоўся! Уцягнулі беднага хлопца ў бяду, а цяпер сам туды-ж лезеш! Трэба розум мець!

Васіль добра ведаў, што сьвітаць пачынае толькі а трэцяй гадзіне: значыцца, яшчэ цэлых дзьве гадзіны трэба сядзець у трывозе і страшна хваляваяцца ў поўнай невядомасьці, а тымчасам як на могілках Якіму, мажа, патрэбна самая неадкладная дапамога-паратунак ад страху, млосьці... Можа ён там ляжыць у няпрытомнасьці?

Васілёва галава гарэла ад гэтых гострых гарачых думак.

Разам з трывогаю ўсплывала няпэўная думка: „Сапраўды, як яго ў поцемках шукаць? Могілкі-ж не маленькія?.."

Ноч цягнулася памалу, наганяючы цяжкія мукі. Здавалася, днець ніколі не пачне. І, не зважаючы на позны час, у глыбіні сьвядомасьці ўсё яшчэ жыла надзея, што вось затупаюць борздыя, лёгкія і вясёлыя шагі Якіма, і цяжкое напружаньне рассыплецца. Але хвіліны беглі за хвілінамі, а Якіма ўсё ня было. Голасна цокаў бяссонны маятнік. Глуха перагукваліся на вакзале гудкі паравозаў, то кароткім вуханьнем, то цягучым сьпевам, як сірэны.

Перад раніцай звонка з пералівамі засьпявалі пеўні. Неўзабаве пасьля іх пачалі шарэць досьвіткам вокны. Пасьля, паволі праясьняючыся, пачалі выяўляцца на вуліцы абрысы стрэх, парканаў, хатаў,—ноч радзела і адступала, ішоў дзень.

— Цяпер айда,—дазволіла матка,—толькі абавязкова разам з Кузьмішчавым. Чуеш? Адзін і ня думай.

Нецярпліва стукнуўшы дзьвярыма, Васіль выбег на вуліцу.

Стаяў лёгкі, празрысты туман. Зямля дыхала сьвежаю вясноваю вільготнасьцю. Ад ракі цягнула гострай сырой прахалодай. Неба было бясхмарнае, бязьмежнае. Усход ледзь прыкметна ружавеў.

Кузьмішчаў раптоўна ўскочыў, толькі Васіль пастукаў у крайняе вакно яго хаты.

— Ды што вы, хлопцы,—зьдзівіўся ён, даслухаўшы сьпешную гаворку Васіля. Дзівіцца трэба, якога дурня ўклеілі. Хіба можна?

Ён борзда вышаў—і разам з Васілём ледзь не пабег на могілкі.

---

РАЗЬДЗЕЛ ШОСТЫ

## ГАРАСІМКА ЯРШОЎ

А тымчасам на могілках рабілася вось што.

Калі калматы абадранец, бліскаючы злоснымі вачыма, замахнуўся нажом, двое іншых падскочылі і з кіпцюрамі кінуліся яму на дапамогу.

Гострая небясьпека віхрам перавярнула думкі Якіма.

Сэрца зьнячэўку ўспырхнула абурэньнем:

— На аднаго? Утраіх?—цьвёрда абвёў ён вачыма галадранцаў.—Малайцы!..

— Ты яшчэ асыквацца?—зашыпеў першы з нажом.

— А што-ж, маўчаць перад вамі? Не баюся я вас!

— Не баішся?

— На могілкі йшоў—не баяўся. І вас не баюся.

— Хвалішся!

— Самі вы хваліцеся!

— Таўхні яго, Гарасімка. Бачыш, асэсар які! Яшчэ і рызыкуе...

— Трое з нажом на аднаго лезеце? І ня сорамна? Ну, рэжце, забівайце!

— А ты чаго прыблытаўся сюды?—сьмешна неяк выцягнуў галаву Гарасімка.

— Мы цябе звалі?—наскаквалі з кулакамі іншыя.

Якім аглედзеў іх з ног да галавы. Неахайныя постаці бяспрытульных выглядалі дзікімі, як здані.

— Кажы, чаго прышоў?—засыкаў у вочы яму Гарасімка.

— Мёртвых лавіць,—проста адказаў Якім.

Гарасімка аслупянеў і борзда замаргаў вачыма, быццам у вочы яму кінулі жменю пяску.

— Мёртвых? Лавіць?

— Ага.

— Кінь брахаць!—апамятаўся ён адразу.—Трапло!

— Гэта ня я, а вы брэшаце!

І Якім расказаў пра тыя дурныя гаворкі аб мёртвых, іх сходах, якія хвалявалі ў апошні час усіх забабонных людзей гораду.

Гарасімка неспадзявана здаволена зарагатаў.

— Вось дык фунт. Мы тут у карты рэжам, а там вочы вылупліваюць: думаюць—пакойнікі... ха-ха-ха...

— Вось чэрці...—прасьвятлелі іншыя.

Бяспрытульныя былі нават рады за тое, што яны сталі гэроямі палахлівай лягэнды: гэта надавала большай вагі іх бяздомнаму, бурлацкаму самалюбству.

— І ты не пабаяўся? Пайшоў?—ужо з цікавасьцю пыталіся яны ў Якіма.

— Чаго-ж баяцца? Вось-жа вы таўчыцёся тут па начох, а хоць аднаго мёртвага бачылі?

— Не.

— І я не спадзяваўся.

— А грошы ў цябе ёсьць?—запытаўся раптам наймаладзейшы галадранец.

— Трошкі.

— Садзіся, зрэжамся!—кінуў ён вобземлю карты.

— Давай на ачко!—замітусіўся прыветліва Гарасімка.

— Дык я вам так іх аддам...

— Ну, знайшоўся! А мы згуляем вось! Гэта шчасьце падсыпалася!.. Памяні божа тваіх бабулек гадоў на трыста!

Якім вывернуў кішэні—знайшлося сорак капеек.

Гарасімка паставіў іх у банк,—і зараз-жа пачалася заўзятая гульня, поўная нязвычайных лаянак, дзікіх крыкаў. Зашмальцаваныя, пачарнелыя ад старасьці карты гучна ляскалі аб мрамарную купецкую пліту, грошы пераходзілі з рук у рукі, галодныя вочы палка гарэлі.

— Ой, сабакі паршывыя...—вылаяўся, нарэшце, Гарасімка,—зьлізалі!

Яму не шанцавала: калі кончылі гульню, дык грошы перашлі цалкам да двух іншых абадранцаў.

— Ня йдзе карта, каб яна тройчы была праклятай!

Ён злосна надзьмуўся і з пагардай паглядзеў на сваіх таварышоў.

Якім адышоўся.

— Куды?—спыніў яго Гарасімка.

— Дамоў. Пара ўжо.

— А хлеба ў цябе няма?

— Ты-ж бачыў мае кішэні.

— Ну, добра...

Гарасімка вяла пстрыкнуў сьлінаю праз зубы і натапырыўся, як хворы верабей.

— Ня жыцьцё, а гора няшчаснае!

Пасьля зусім іншым голасам, мяккім, не сваім, нібы з журбою запытаўся:

— Таварышоў у цябе шмат?

Якім расказаў пра завод, пра піонэрскі атрад, пра Васіля Аўдзеева, пра Алеся Шыла.

Гарасімка выцягнуў аднекуль з лахмоцьця сваёй падранай сьвіткі пачак махоркі, зьвярцеў з газэтнай паперы „казьліную ножку" і задыміў. А двое іншых, уласьнікі сарака капеек, і далей з захапленьнем ляпалі картамі, намагаючыся абгуляць адзін другога.

— Дай пацягнуць,—са смагай працягнуў руку за папяросай маладзейшы. Ён са смакам разоў са тры зацягнуўся, прыжмурыў вочы і зморшчыў, як малпа, сваё чорнае аблічча.

— Ух, аж у пячонкі стукнула... Сьцягнуў ці купіў?

— Купіў.

— Вось таму-то і моцная.

Недагарак сьвечкі мільгацеў, быццам крыло аслабленага, зьняможанага матылька. Кожны раз, як карта шлёпала аб пліту, полымя падкідалася і хісталася кволай палоскаю.

— Ты шчасьлівы...—уздыхнуў Гарасімка, прытуляючыся да сьцяны і з зайздрасьцю аглядаючы Якіма.—А я горш за сабаку жыву. Зімою дык ледзь ня здох...

— Чаму-ж у дзятдом ня йдзеш?

— А там соладка?.. Даведайся на сваёй скуры, а тады і рай. Я, браце, даведаўся, паспытаў—з 5 кавуноў „зацірку" каштаваў. Тройчы ўцякаў, два разы выганялі. Пэўна, што там цяплей, аб гэтым і спрэчкі ня можа быць. Але на волі ўсё-ж такі лепш. Сягоньня я сабака сабакам, а заўтра мне, можа, з кішэні якога-небудзь нэпача чырвонец усьміхнецца. Значыцца, абедаю ў тракціры, з музыкаю, з півам, а іншы раз нават з віном. У дзятдоме такога шчасьця век-векам не дачакаешся. Што там? Агорклая, беспрасьветная каша. Ды завялі яшчэ моду табліцу множаньня вучыць. Яаднэй настаўніцы дык так шчыра і ляпнуў:—„7 раз па 7, кажу, Марыля Іванаўна, пляваць мне на ваша чорталомнае множаньне разам з адніманьнем. Няхай сабе што будзе, а вучыцца ня буду". Дык яна калі раскрычалася:—„Мы, кажа, над табой паказальны суд учынім". А я ўначы, ня доўга думаючы, тыц за дзьверы—і ўцёк да беса. Шукай мяне з бубнам і з бразготкамі. Вось табе і ўвесь паказальны суд.

Ты думаеш, я гэта просты вашывы бяспрытульнік? Памыляешся. Я, брат, калісьці ў чырвонаармейцаў быў. Ня верыш? Вельмі проста. Бацька мой за муляра ў казармах працаваў. Увосень у 19 годзе яго тыфус задушыў. А днёў праз пяць пасьля гэтага і матка памерла. Застаўся я, дзевяці гадоў, бяз кутка, бяз прыстанішча, вось як тое сьляпое шчаня,—куды ні кінься—сам адзін. А тут на горад дзянікінцы пруць, ад гарматаў у небе гудзе, кулямёты сакочуць, заходзяцца, як тысячы сабак, кроў і тут і там раўчакамі струменіць. Што-ж рабіць? Тык-мык, туды-сюды—ды да чырвонаармейскага абозу і прыбіўся. Салдаты вясёлыя былі, палкавым сынам мяне запісалі. Ім пацеха—забралі мяне з сабою ў паход, жартуюць з мяне, забаўляюцца, усьміхаюцца.

І пайшоў я вандраваць з імі па гарадох розных, па палёх, па лясох, па вагонах, ды ня як-небудзь, а з бойкамі, з гарматамі, з стралянінаю. Камандзір загадаў і на мяне харчовы пай завесьці, усё як трэба, як у вайсковых правілах сказана, а на праверку на левы фланг станавілі, на самае крайняе месца: „Стой тут,—кажа,—салдат рэволюцыі Гарасім Яршоў, аж да самай перамогі"...—і стаяў. Толькі вось раптам—трах-тра-ра-рах! Перапалох. Спускаемся аднаго разу ў даліну, а насустрач кавалерыя з чырвонымі сьцягамі. Едзем сабе, як ні ў чым ня бывала—свае-ж! А яно якраз наадварот. Чыстакроўныя белагвардзейцы! Абдурылі нас, гадаў'ё, і пачалі лупцаваць. Як толькі мяне не задушылі тады ў той малацьбе, ня ведаю. Апамятаваўся я ў палоне, у белым штабе, калі на дазнаньне мяне павялі і ля кучы дубцоў палажылі. Ну і набрахаў-жа я ім за тыя дубцы: гэтакіх сланоў накруціў, што толькі вушамі ляпай!.. Дарма. Мінае некалькі дзён, аслухаўся я, абнюхаўся, зразумеў, чаго ад мяне хочуць. Аж зноў—р-раз! Зноў перамена жыцьця. Наскочылі дзянікінцы ў тумане на махноўскую заставу. Вось далі-ж нам на гарэхі! Пазьдзіралі махноўцы залатыя пагончыкі, на мак пасеклі, накрышылі чырвоных пагончыкаў цэлыя стагі, глянуць страшна, што рабілася. Папаўся я атаману на фурманку і пачаў з імі па стэпу гайсаць. Ну, аднак, нядоўга і гайсаў: растрыбушыла бацьку савецкае войска, на кавалачкі разьнесла. І мне ў часе стралянiны папала: куля, трасца ёй у бок, праз нагу навылёт прайшла,—будзьце ласкавы, Гарасім Яршоў, у шпіталь! З таго часу плянэта мая на захад пахілілася. З шпіталю мяне за адну малюсенькую і ціхенькую справу без усялякай перасадкі ў калектар загналі, вось у той самы, дзе такіх, як я, выпраўляюць. Адсядзеў я там ня доўга, ня мала—цэлых пяць месяцаў...

Гарасімка папароўся ў сваім лахмоцьці і зноў дастаў махорку. Закурыў і зноў пачаў апавядаць пра тыя прыгоды,

якія траплялiся з ім, пра сваё горкае, бяспрытульнае жыцьцё, поўнае роспачы і небясьпекі. Яго гісторыя была падобнай да гісторыі валачашчага сабакі, які адбіўся ад дому і нідзе не знаходзіць сабе прытулку. Начаваў ён у парожных будынках, у цёмных норах, у розных будках на агародах— дзе давядзецца, дзе прымусіць ноч і абставіны. Галадаваў жудасна, мёрз, ні ад кога ня чуў ласкавага людзкога слова, толькі лаянку, пагрозы, крывыя недаверлівыя погляды, як на дзікага зьвера, які нямаведама чаго забег на гарадзкія вуліцы. І ў меру таго, як слова за словам успамінаў ён абразьлівыя выпадкі і прыгоды, усё мацней адгукалася гостра пакрыўджанае сэрца Гарасімкі, яго калючая зьненавідзь да сытых людзей, якія жывуць у цяпле і зацішку.

Але раптам ён перастаў апавядаць і прыслухаўся. Здалёк пачуўся нейкі дзіўны працяглы крык. Раптам іншыя дзьмухнулі на сьвечку. Полымя хістанулася і патухла. На дварэ ўжо разьвіднівалася: праз шчыліны каплічкі адбіваўся сіняваты сьвет з усходу.

— Як-к-кім! — выразна нёсься задыханы, стурбаваны голас.

Гарасімка панура ўтупіў нездаволеныя падазрэлыя погляды ў свайго госьця. Якім раптам, быццам падкінуты спрунжынаю, ускочыў і вылецеў з каплічкі. У лёгкім, напаўпразрыстым тумане між гушчыні крыжоў відаць было, як беглі Васіль і Кузьмішчаў.

— Хлопцы, я тут!—радасна кінуўся да іх Якім.

— Ах ты, разбойнік! Што за глупства выдумаў...—сярдзіта дакараў яго Кузьмішчаў.—Ну, хіба-ж гэта патрэбна?

Але вочы яго радасна ўсьміхаліся. А Васіль трос Якіма за плечы і, ня верачы сабе, зіяў ад шчасьця і руплiва дапытваўся:

— Жывы? Ня спужаўся? Не загрызьлі цябе мёртвыя..

— Ніводнага ня бачыў!

— А гэта што?—здрыгануўшыся ад неспадзяваньня, выцягнуў руку Кузьмішчаў.

Якім агледзеўся: ад капліччкі галёпам ляцелі двое бяспрытульных абадранцаў. Гарасімка, хмура азіраючыся, памалу бег сьледам за імі.

— Гарасімка, чакай,—гукнуў на яго Якім,—стой. Я табе нешта скажу.

Гарасімка спыніўся.

Якім падбег да яго і прыемным голасам пасьпешна і шчыра пачаў яго ўгаварваць:

— Хадзем з намі. Пакінь іх. Мы цябе гуляць да сябе прымем, у піонэры запішам, гадаваць будзем!

— Брэшаш!

— Нашто брахаць? Падумай... у лягеры возьмем з сабою. А пасьля, можа, на завод да нас паступіш... Няўжо павоўчаму так увесь век і жыць будзеш?

— Гарасімкавы вочы засьвяціліся нявыразным хваляваньнем. Ён зьбялеў і нэрвова схапіў нож.

— Ну, глядзі,—цьвёрда і ціха выгаварыў ён.—Калі абдурыш, калі, замест салодкіх слоў, у турму мяне адправіце, я танна не прадам сябе!

— Вось дзівакі!..—зарагатаў Якім.—Я хачу, каб нам таварышам стаў. Ну?

Гарасімка панура кіўнуў кудлатай галавою. Погляд яго напоўніўся надзеяй і недаверлівасьцю.

---

## РАЗЬДЗЕЛ СЁМЫ

# ГАРАСІМКАВА ПЕРАМЕНА

— А гэта-ж што за пудзіла прывёў з сабою?—з абурэньнем спаткала Якіма яго матка, калі ён з Гарасімкам увайшоў у хату.

Якім на хвілінку здаўмеўся, але зараз-жа цьвёрда сказаў:

— Таварышам нам будзе. У атрад бярэм.

— У атрад? Піонэрам?—успляснула рукамі матка.

— Адразу піонэрам, а пасьля, можа, і на завод.

— Ці пры сабе ты хаця,—непакоілася яна.—Гэткае пудзіла—піонэрам? Яго хіба на агародзе паставіць, каб вераб'і канапель не дзяўблі. Паглядзі, на каго ён падобны...

Якім павярхова аглядзеў Гарасімку: сапраўды, выглядаў ён страшна. Падраная сьвітка расхінался на жываце, з дзірак выглядала худое надзвычайна бруднае цела, лахмоцьце зашмальцаваных штаноў, здавалася, вось-вось паадкідваецца ад ног, кудлатыя валасы тарчалі ва ўсе бакі, як шчаціна на дзікім парсюку, а вялікія шэра-зялёныя вочы на нямытым ужо з поўгода твары недаверліва бліскалі няпрыязнаю, сваёй гордасьцю.

— Ну?—сурова запытала матка.

— Патвойму, значыцца, загінуць яму?—пачаў прасьцей гаварыць Якім.

— Дзе-ж ты яго падзенеш?

— Як дзе?

— Дзе ён жыць будзе? Падумаў?

— А ў нас.

— Што-о? У нас?.. Ды ты з глузду зьехаў, ці што?

— Мама!..

— На парог ня пушчу. У аднэй сьвітцы ў яго, напэўна, ня менш, як мільён гасьцей, ды гэтулькі-ж у галаве ды ў штанах...

Гарасімка нездаволена зачмыхаў носам, з няпрыемнасьці пакусаў губы і, не сьпяшаючыся, завярнуўся ў бок сянец. Якім ухапіў яго за рукаў:

— Пачакай, ня злуй. Яна добрая. Гэта так-сабе. Не ад ліхога сэрца. У яе толькі мова гострая, а сэрца мяккае.

Гарасімка недаверліва зірнуў з-пад ілба.

— А калі качаргою па галаве ўрэжа?—сказаў Гарасімка і зрабіў рашучы рух, каб вызваліцца.

— Мама!—пачаў прасіць Якім.—Якая-ж ты, сапраўды... чалавек, можна сказаць, дабро мне зрабіў, а ты яго гоніш.

— Дабро? Табе?

— У кожным разе мог загубіць, але не загубіў.

І Якім, сьпяшаючыся, усхваляваным голасам расказаў ёй пра прыгоды ў мінулую ноч.

— Ой, ліханька!..—расчулена завохала, захвалявалася матка. Загоніш ты мяне ў дамавіну са сваімі выдумкамі! Загоніш...

— Я цябе вельмі прашу, мама, хай ён застанецца!

Матка, дражнячыся, пасварылася пальцам:

— Ну, глядзі, Якімка! Дагуляешся ты да бяды. Тады позна будзе.

Пералажыла ў нэрвовым хваляваньні некалькі рэчаў з месца на месца і раптам грозна дадала:

— Няхай... толькі ўмова: усё шчаціньне з галавы вон, усю гразь з цела нажом у лазьні пасаскрабаць, пасьля ўсяго яшчэ раз 10—15 у вадзе выпаласкаць. Пра адзеньне таксама паклапаціся, як сам ведаеш: гэту халеру я спалю, а з твайго даць няма чаго.

Яна працягнула кавалачак мыла, ражку і грошы з такім сур'ёзным выглядам, які адразу пераконваў, што далей усялякае змаганьне супроць яе ня мае месца.

Якім пасьпешна ўзяў Гарасіма за руку.

— Пабеглі! Гэта-ж тут, блізка.

За некалькі хвілін ён ужо радаваўся: Кузьмішчаў даў Гарасімку сваю старую чысьценька залатаную сарочку, Васіль Аўдзееў—штаны. Рэшту яны абяцалі дабыць з часам. А з гэтым ужо можна было пачынаць новае жыцьцё для Гарасімкі.

Лазьня яшчэ была замкнёнай. Але Якім рашуча і ўпарта пастукаў.

— Чаго так рана?—глянуў з-за дзьвярэй заспаны вартаўнік.

— Лазьня гатова?

— Чаму-ж не? Агню ў нас колькі хочаш. Чуеш, як у коміне гудзе?

— А падстрыгчыся можна?

— Уга!—усьміхнуўся ён у бок Гарасімкі.—Чаму-ж, давай, абчыкрыжу.

Ён вынуў з шуфляды машынку, паспрабаваў на руцэ, як ходзяць нажы, прыладзіўся.

— Добра. Толькі рабіць сьмецьця на чыстай падлозе я ня буду. Ідзі сюды,—і адчыніў дзьверы ў качагарку.

— Ну, садзіся—падкаціў ён да Гарасімкі круглы абрэзак цяжкой калоды.—Гай-гай, ды яшчэ зеляненькі!—і зарос-жа ты, хлапчына!.. Не валасы, а быльнёх сапраўдны. Хаця-б машынкі не паламаць...

Але пад напрактыкаванай рукою машынка засакатала, як сячкарня, у якую залажылі пруткі куль саломы. Аж зараз „цырульнік" схіліўся падазрэла да галавы Гарасімкі і зьдзіўлена сьвіснуў.



Машынка засакатала.

Ну і зьвяр'я-ж... Ого-го... Як гароху. Ты, брацішку, хлопец не абы-што. З роду яшчэ ня бачыў такога ўраджаю.

Каб не разварушыць гэтага зьвяр'я, ён асьцярожна зьнімаў выстрыжаныя валасы і кідаў іх у печ. Валасы на агні шыпелі і трашчалі, як яловыя дровы.

Калі Гарасімку падстрыглі, ён агледзеў і сам кінуў сваё лахмоцьце ў гарачы расчынены рот печы. Адзінае, што было ў яго каштоўнага,—плоскі гостры нож,—ён пасьпеў дзесьці няпрыкметна схаваць, пакуль Якім хадзіў да Кузьмішчава па сарочку. Полымя глуха шуганула, асела, зьнізілася. Ад брудных штаноў і сьвіткі пашоў густы зеленаваты дым, як ад перапрэлага гною.

Мыцца Гарасімка ня ўмеў. Якім намыльваў і скроб яго, як парсюка, з надзвычайнай сілаю. Пасьля абое разам, быццам качкі, доўга паласкаліся пад цёплым душам, які сыпаўся густа: як сапраўдны праліўны дождж.

Калі Гарасімка адзеўся, яго пазнаць ня можна было. Круглая акуратная галава здавалася прыветнаю, лагоднаю. Худое смуглявае аблічча сьвяцілася правільнымі рысамі. Вялікія вочы стомлена і няўпэўнена ўсьміхаліся. У новым чыс-

тым адзеньні ён выглядаў слаўнейшым і танчэйшым. Нават Якімава матка была задаволена:

— Вось гэта я разумею,—сказала яна.—Такога малайца і за стол пасадзіць ня сорамна!

Гарасімка з прагнасьцю накінуўся на яду. Бледныя шчокі яго жвава заварушыліся ад пасьпешнага жаваньня і глытаньня.

— Ну і спрытны-ж ты да яды,—усьміхнулася Якімава матка.

Гарасімка трошкі засароміўся.

— Гэта я за ўчарашняе, за сёньняшняе і... за заўтрашняе.

— А чаму за заўтрашняе? Заўтра я цябе зноў накармлю.

— А калі прагоніш?—недаверліва падняў твар Гарасімка.

Якімава матка міжвольна засьмяялася, а Гарасімка на ўсякі выпадак зноў прысеў да смажанай бульбы.

У першы-ж дзень піонэры прынялі яго ў свой вольны гурт. Ён выявіў сябе, як вельмі вёрткі, спрытны ды кемлівы хлопец,—і днёў за 5 ужо так спрытна ўмеў гуляць ва ўсе піонэрскія гульні, быццам сапраўдны фізкультурнік, які знарок вучыўся гэтаму.

У аўторак на зборы атраду Якім паставіў пытаньне аб тым, каб прыняць Гарасімку ў атрад.

Супярэчыла адна Вера Жукава, якая даводзіла, што трэба даць папярэдні кандыдацкі стаж, але не змагла пераканаць усіх. Гарасімку прынялі. Ён сядзеў у часе збору і слухаў, і тое, што ён пачуў, надало яго пачуцьцям годнасьці і гордасьці.

— А прозьвішча ты маеш?—запыталася Кацярына, каб запісаць у пратакол.

— А як-жа,—бліснуў вачыма Гарасімка,—яшчэ і якое сур'ёзнае: Яршоў. Гарасім Пятровіч Яршоў—поўнае маё прозьвішча.

Ён хацеў быў яшчэ дадаць і пра „чырвонаармейскія“ заслугі пры палкавым абозе, але прамаўчаў, таму што пачалося абгаварэньне найгалоўнага пытаньня гэтага сходу—пра выхад у лягер.

Лягеру чакалі з нецярплівасьцю. У мінулае лета, пабыўшы за межамі гораду, у піонэраў засталося ад лягеру гэтулькі шмат цікавых уражаньняў, што ў гэтым годзе кожнаму абавязкова зноў хацелася папасьці на волю, кожнага захапляла думка аб лягеры, аб розных прыгодах.

Але ўсім ехаць нельга было, таму што на Чырвоназаводзкі колектыў прызначана было толькі сто месцаў, а

піонэраў было блізка ля двухсот чалавек. Міжвольна трэба было правесьці такі падзел, каб нікога не пакрыўдзіць.

— У нядзелю зраньня выступаем!—агаласіў прымацаваны да колектыву комсамолец Козыраў, які быў старшынёй на гэтым сходзе.

— А дзе збор? А якой гадзіне? А як з рэчамі?—заклапочана мітусілася Кацярына Рабініна і, як заўсёды, стукала алоўкам па стале.

— Зьбірацца каля заводу. А 9-й гадзіне. Ды не пазьніцца: у адзінаццаць ужо цягнік адыходзіць. А ўсе рэчы аддаць Кузьмішчаву. Ён даглядаць будзе за дастаўкай.

І вось пачалі рыхтавацца. Беганіна і клопат ахапілі ўсіх, хто папаў у лягерны сьпіс. У розных канцох рабочых кварталаў ад ранку да вечара ўсхвалявана гаварылі, радзіліся, спрачаліся: большасьць бацькоў адпускала дзяцей з ахвотай, з радаснай цікавасьцю, але шмат якім піонэрам давялося весьці ўпартую барацьбу і, каб дабіцца свайго, горача прасіць, пераконваць, даводзіць і нават плакаць, каб толькі ім дазволілі ехаць.

Піонэры падобны былі на войска, якое зьбіраецца ў паход у чужыя невядомыя землі, дзе кожны чакаў знайсьці нешта нязвычайнае, нябывалае.

Васіль і Якім гаварылі Кузьмішчаву і Козыраву:

— А калі бяз нас тут ліст з Гамбургу прышлюць? Калі выканком КІМ'у згодзіцца організаваць вандроўку?

— Ну, дык што-ж. І ліст і дазвол прышлюць нам у лягер. Заўком аб усім гэтым папярэджаны.

У нядзелю рана-раненька піонэры былі ўжо на нагах.

— Вось вераб'і неўгамонныя...—усьміхаліся маткі.—Спаць яшчэ трэба. Трэба-ж гэта—досьвіта паўспорваліся.

Але ў нецярплівым, узварушаным настроі хлопцы нічога не хацелі і чуць.

— А калі спазьнюся? Усе пойдуць, а я застануся?..

А 9-й гадзіне вуліца перад заводам аж гула ад звонкага шчабятаньня галасоў, зіяла ад убраньня дзяўчат, цьвіла вясёлым макам гальштукаў і хустачак на галовах.

Усе былі з вузялкамі, з клункамі, з рознымі дробнымі рэчамі, якія маглі спатрэбіцца ў лягерах. Скрынкі з бялізнаю, пасьцельлю, кошыкі з кракетам і іншымі гульнямі Кузьмішчаў адправіў на вакзал на знарочыстых падводах роўна а 9-й гадзіне. Хмурна зіяла сонца, якое яшчэ не пасьпела разгарэцца жарам. Шырокаю сіняю прахалодаю дыхала неба. У вышыні плылі лёгкія белыя хмаркі. Радасьць атраду пералівалася хвалямі, сьвяточна нарастала, рабілася галасьнейшай, бурнейшай.

— Барабаншчык, паход!—скамандаваў Козыраў.

Алесь Шыла павайсковаму жвава падцягнуўся, махнуў белымі булавешкамі і з захапленьнем аддаўся працы. Барабанны грукат рассыпаўся бадзёрым парыўчатым заклікам. Шэрагі стрункаю выраўналіся, празьвінела каманда—і жывая рака піонэраў падалася да вакзалу. Алесь, як захоплены сваёю гульнёю артысты, з натхненьнем біў булавешачкамі па туга нацягнутай скуры. Але неўзабаве вырвалася песьня, заглушыла барабанны грукат, чырвонай стужкаю затрапяталася над жвавымі колёнамі—мацней, як цэмэнт, зьяднала сэрцы адным бурным імкненьнем. Здавалася, што чырвонае полымя разгорнутага сьцягу, высока плывучы наперадзе, павяло гэтыя сэрцы да нязвычайнага шчасьця.



— Ты думаеш, гэта хто,— мама? Ого! Сама пякла.

Гарасімка ішоў у аднэй пары з Васілём Аўдзеевым і кожную хвіліну пытаў сам сябе:

— Ды няўжо-ж гэта праўда, што я іду ў лягеры?

У вагонах было цесна, горача. Хлопцы ў адзін момант запоўнілі вагоны сваёю шумліваю гаворкаю, жартамі, сьмехам. Ад нястрымнага гоману вагоны гулі, як вульлі перад вылетам рою.

Калі цягнік рушыў, Таццяна Ліхачова разьвязала свой клунак. Смачна запахла мясной стравою.

— Якім, каштуй. Васіль, Гарасімка...—частавала яна сваіх суседзяў.

Якім далікатна ўзяў кавалачак і зараз-жа адкусіў белымі, вясёлымі зубамі.

— О!..—нават прыжмурыўся ён ад здавальненьня.

— Што?

— Вось дык страва! Ня жуй, ня глытай, толькі бровы ўзьнімай.

— Ага!..—зарадавалася Таццяна. — Ты думаеш, гэта хто,—мама? Ого! Сама пякла.

— Сама?

— Ага.

— Дык мы цябе галоўнакамандуючым над кухарамі зробім!

Алесь Шыла, якому нічога не папала з мяса, з пагардай дадаў:

— А мне здаецца,—проста фэльдмаршалам. Фэльдмаршал над кухарамі Таццяна Ліхачова—гэта выходзіць паважліва!

Тацяна паказала Алесіку язык і весела засьмяялася:

— Эх ты, фэльдмаршал парасячы! На вось табе лепш скварку,—заткні сваю ляпу.

Гарачым гудзеньнем грукацелі калёсы вагонаў. За адчыненымі вокнамі мігацелі зялёныя палі, і часта, сярод срэбнага жыта, неспадзявана радасна блішчэлі адзінокія васількі. На паўстанках чуліся ў паветры цырыканьні жаваранкаў, быццам недзе ў вышыні плылі, пераліваліся празрыстыя струменьчыкі.

Ехаць у лягер трэба было каля двох гадзін, але гэты час прамінуў, як хвіліна.

---

## РАЗЬДЗЕЛ ВОСЬМЫ

# ЛЯГЕРНАЯ ВОЛЯ

Ад станцыі да лягеру йшлі з песьнямі, як загартаванае ў паходах войска. Прыемны, звонкі голас быў у Гарасімкі. Заводзіў ён з шчырасьцю, з вясёлым выгукваньнем, быццам у паветры іграў шырокім крылатым сьцягам.

— Вось гарлянё дзе!—падмаргнуў Алесік Шыла.

— Шпар дружней, не аставайся!

— Эх...—падкідаў кучараваю галавою Алесік і таксама сьпяваў на ўсю сілу сваіх лёгкіх.

Пад лягер быў вызначаны быўшы маёнтак графа Вігошава. На высокім беразе Данца, на самым абрыўчатым месцы стаяў калісь на дзіва прыгожы дом, які здалёк падобны быў на нейкі ваяўнічы палац або на няпрыступную цытадэль—крэпасьць. Такія цяжкія былі яго шэрыя кутнія вежы, так загадкава падымаўся між іх угару гранітны, трохпавярховы корпус. І, сапраўды, як лютая крэпасьць, доўгія дзесяткі гадоў панаваў графскі палац над ваколіцамі.

Тысячы дзесяцін зямлі, бязьмежныя палі, пасьвішчы, сенажаці,—усё належала графу. Сяляне задыхаліся ад злыдняў, ад малазямельля, ад цяжкіх падаткаў за арэнду, а ў палацы ішло раскошнае жыцьцё, бяз турбот, быццам вечнае сьвята. Але прагрымела ў 17 годзе рэволюцыя, і пасьля вогненага Кастрычніка сплыла графская сям'я нямаведама куды, быццам растала ў глухім асеньнім тумане. Сяляне заразжа падзялілі паміж сабою зямлю, разьмежавалі яе бяз усякіх каморнікаў, заарэлі і засеялі з вясны сваім насеньнем. Але ў гэты час, як гром з яснага неба, зьявіўся прапаўшы недзе граф, так, не як-небудзь, не як госьць ці вандроўнік, які вярнуўся ў сваё гняздо,—апынуўся ён у Кіеве ў вялікай ласцы ў гэтмана Скарапацкага, які падручыўся быў дваранству мінулую сілу вярнуць. Для гэтага ён з немцамі ў хаўрус уступіў.

Прыскакалі немцы з кулямётамі ў пакінуты графскі маёнтак—ды і давай сялян за падзел зямлі бізунамі сьцягаць.

Але-ж калі пасьля слава гэтмана закацілася і ён, ледзьве абмінуўшы народную расправу, зьляцеў з свайго хісткага трону, добранька ўспамянулі вычашаўскія сяляне тыя нямецкія бізуны: такім слупам полымя і дыму ўзьвіўся графскі палац, якога ня бачыла губэрня за ўвесь час свайго існаваньня. Засталося над Данцом пасьля пажару толькі абгарэлае, напоўразбуранае страхацьцё, як чорны помнік агіднай мінуўшчыны. За савецкай уладай уся зямля графа, згодна закону, поўнасьцю адышла да сялян, сядзібу-ж і парк запісалі ў дзяржаўны запасны фонд. У гушчыне парку, пад штогоднімі каштанамі, усьцярогся ад зьнішчэньня прысадзісты будынак,—вось гэ-



Стаяў дом, які здалёк падобны быў на нейкі ваяўнічы палац або на няпрыступную цытадэлю-крэпасьць.

ты будынак з яго вялікімі раскошнымі пакоямі і аддалі цяпер піонэрам.

— Ой, як зарасьлі рознай дзікай травою сьцежкі!— зьдзівіўся Кузьмішчаў.—А ну, хлопцы, за поліва возьмемся!

І ў момант закіпела праца, як у муравейніку. У Кузьмішчава, быццам у заўзятага заўхоза, зьявіліся аднекуль рыдлёўкі, граблі, сякеры,—усе патрэбныя садовыя прылады.

— Падзяляй парк па зьвеньнях,—крычаў Алесь.

— На кожнае зьвяно сваю дзялянку. Вось і пабачым, хто барждэй справіцца,—падтрымлівала яго Кацярына.

Зараз у іх зьявіліся свае рабочыя арцелі. У цяньку векавых дрэў, у яскравых сонечных плямах замітусіліся жвавыя постаці, затрашчала непатрэбнае ламаччо, зашуршалі лапухі, чартапалох, крапіва, лебяда, зашалясьцелі па глухіх сьцежках мётлы.

— Ой!..—раптам закрычала на ўвесь парк Вера Жукава.

— Ой!..

— Што такое?

— У чым справа?

— Парэзалася...—учыніўся перапалох.

— Зьвер! Воўк!..—ад страху крычала не сваім голасам і хавалася за тоўстае дрэва.

— Вось уцяла!

Але зараз вохнула чалавек са дваццаць:

— Ды вунь ён! Вунь. О!.. Бі яго! Бі! Лупі чым папала!

— Барсук!

— Барсук!

— А яна гвалтуе „воўк“! Баязьлівая якая!

Раптам цэлая армія лаўцоў сарвалася з месца, і парк зазьвінеў гучнымі, ваяўнічымі крыкамі, быццам на табар наляцела варожая коньніца. Як вялікае стракатае парася, вельмі доўгае і калматае, барсук, настаўбучыўшы сваё дзікае шчаціньне і распусьціўшы хвост, паімчаўся праз увесь парк, хутка хістаючыся ў розныя бакі. У яго градам ляцелі каменьні, груды зямлі, дручкі, рыдлёўкі. Але ўсё гэта не пападала і з кожным непападаньнем зрывалася новая бура азарту.

— Лупі яго з боку!

— Заварачывай назад, а то ўцячэ!..

— От, чорт!..

Барсук вырваўся з шумнага кола піонэраў, пераскочыў праз муры і выбег у поле. Некаторыя з хлапцоў за мурам парку хутка стаміліся, асабліва дзяўчаты, але большасьць бегла з запалам, даганяючы выгнанага зьвера, што далей— заўзяцей.

— Трымай! Гэй!

Скошаным лугам ішлі насустрач нейкія хлопцы.

— Лупі! ня бачыш, уцячэ!..—крычалі разьюшаныя лаўцы.

Адзін з стрэчных хлапцоў у момант схапіў камень і нязвычайна добра шыбнуў ім у барсука. Камень цяжка шлёпнуў аб шчаціністую шыю. Барсук упаў, перакуліўся, фыркнуў, ускочыў і паляцеў далей.

У той час Якім Шчыглоў смальнуў яму з усяго размаху рыдлёўкаю, Барсук закульгаў, крутнуўся ў бок, але нечы цяжкі друк зьбіў яго з ног.

— Вось дык Кузьмішчаў! Чыста даў. Маладзец!

Барсук з усяе сілы рвануўся, кінуўся наперад, але зноў упаў пад кучаю каменьняў,—і ўжо болей не ўставаў. Яго дабілі рыдлёўкай.

— Ур-ра!...—пачуўся крык перамогі і здавальненьня.

Навокала забітага зьвера штурхаліся піонэры.

— Спрытна мы яго падкасілі.

— Вось-вось-бы ўцёк...

— Ну і барсучышча!

— А Вера з перапалоху—„воўк"!..

— Добры дзень!—раптам зусім неспадзявана нехта прывітаў Кузьмішчава.

Ён глянуў: перад ім стаялі тыя два хлапцы, якія ішлі насустрач і памаглі забіць барсука. Адзін з іх радасна ўсьміхаўся. Твар яго быў дужа знаёмы.

— Не пазнаеце?—інтрыгуючы зіялі шэрыя жартаўлівыя вочы.

— Няўжо „мораплавец"?

— Ён самы.

— Кастусь Данчэнка?

— Ага.

— Ах, дружа!..

Кузьмішчаў ухапіў яго за рукі і павярнуў у бок піонэраў.

— Хлопцы, гэта-ж той вядомы мораплавец, які ехаў вясной на крызе.

Кастуся зараз-жа абхінулі піонэры і за некалькі хвілін ведалі ўжо пра яго ўсё падрабязна. Выявілася, што Лахвіцкая цукраварня зьмяшчалася недалёка, у 6 вярстох ад парку, і Косьцік яшчэ ўчора дачуўся аб прыезьдзе ў лягер піонэраў,—ён толькі затым і прышоў цяпер, каб пераканацца, ці няма сярод прыбыўшых піонэраў яго прыяцеляў.

Якім Шчыглоў і Васіль Аўдзееў, якія так шчыра даглядалі яго пасьля адратаваньня з крыгі, зарадаваліся яму, быццам роднаму брату.

— Ну як-жа ты?—пыталіся яны наперабой.

— Ды нічога. Жывы яшчэ. У фабзавуч паступаю.

— На цукраварні хіба ёсьць?
— А як-жа!
— Ты што, па салодкім цэху пойдзеш?
— Па салодкім.
— А крыгу памятаеш? Не забыўся?
— Ой, страху набраўся... Я ўжо і конікі закінуў свае, каб больш ня знацца з імі.
— Мы цябе не адпусьцім. Чуеш, Косьцік? Будзеш начаваць з намі. Што ў нас здарылася за гэты час, каб ты толькі ведаў—ого! Вось пачакай, раскажам.
Гаманліваю гурбою хлопцы рушылі назад, у парк.
— Раскошнае з яго пудала выйдзе!—круціўся і падскакваў ля здабычы Алесь Шыла.—Напхаць толькі трэба, як сьлед, дык яго ня толькі Вера—коні пужацца будуць!..
— Сам ты конь,—агрызнулася Вера.
— Коні, ня коні,—згаджаліся іншыя,—а няхай валяецца ў нас. Барсук, мілы мой, гэта табе не абы што.
Косьцік Данчэнка да поўначы гаварыў з хлопцамі і рана, выходзячы дамоў, дакляраваў заходзіць у лягер у кожны вольны дзень, а Якіма, Васіля і Кузьмішчава папрасіў да сябе ў госьці.
Праз некалькі дзён сьцежкі былі выпалаты, абчышчаны ад рознай непатрэбнай травы, зарасьніку. Падмецены і прыбраны парк выглядаў, як амаладзелы імяніньнік.
— А цяпер можна і для іншых папрацаваць,—абцёр пот са лба Кузьмішчаў.
— Хадзем снапы ў мэндлі складаць,—запрапанаваў Гарасімка.—Вунь жыта жнуць сяляне. Дзякуй скажуць.
— А калі ня пусьцяць? А калі заместа таго ды яшчэ ў патыліцу накладуць?—крыкнуў Хведарка Качура і хітра ўсьміхнуўся сваімі зеленавата-жоўтымі мангольскімі вачыма.
— Чаму-ж гэта ня пусьцяць?
— Вельмі проста: падумаюць, што мы так-сабе, абы пажартаваць, падурэць. Пабаяцца, што толькі сапсуем.
— Няхай раней паспробуюць.
Сапраўды, сяляне вельмі недаверліва аднесьліся да жаданьня піонэраў. У тым, што яны адмаўляліся, адчувалася нават нешта зьняважлівае для піонэраў: сяляне лічылі хлопцаў за пустых гарадзкіх гультаёў, якім патрэбна было працаваць проста ад пацехі.
— Куды вам!—жартаўліва замармытаў першы селянін, калі яны да яго зьвярнуліся.—Кішка тонкая, ваша справа песьнямі горла драць і мяч ганяць па полі.
— А вы дайце паспрабаваць. Тады ўбачыце.
— Няма калі мне з вамі тарокацца. Праходзьце сваёй дарогаю.

Але на гэтым полі далей знайшоўся адзін селянін, сівабароды, вузкагруды дзядзька, які згадзіўся на прапанову піонэраў. Ён паказаў, як трэба цягаць снапы, як складаць у мэндлі. Першая прыкрая адмова глыбока зачапіла самалюбства хлопцаў, і яны з надзвычайнай шчырасьцю і руплівасьцю ўхапіліся за работу, каб давесьці, што іх дапамога пойдзе на карысьць. Працавалі моўчкі, горача і заўзята. І мэндлі ў іх выходзілі на славу.

— Малайцы,—пахваліў дзядзька і нават зьдзівіўся.—Глядзі, такі справіліся з работай... Ну, што-ж. Стаўце далей.

— Вось у гэтым-то і ўся справа...—зарадаваліся хлопцы і з асаблівай рупнасьцю пастаўлялі ў доўгі шэраг усе мэндлі, якія былі нажаты на гэтай дзялянцы.

На другі дзень ім ужо з ахвотаю давяралі такую работу, якая была ім па сіле, а пад канец тыдню сяляне, асабліва бяднейшыя, ужо з вечара прыходзілі ў атрад прасіць:

— Хлопцы, любыя, ці ня можна ка мне заўтра? Дапамажэце, будзьце ласкавы!

І рабочая слава чырвоназаводзкіх піонэраў усталявалася моцна. Гарасімку гэтак спадабалася працоўнае жыцьцё сярод поля, сярод бязьмежнага сонечнага прастору, што ён цьвёрда парашыў назаўсёды кінуць сваё валацуства і асесьці ў вёсцы. Адзін маласямейны селянін сваім гаспадарскім вокам заўважыў яго спрытнасьць і кемлівасьць, і ўзяў яго да сябе на службу на цэлы год. Атрад урачыста паслаў сваіх прадстаўнікоў у сельсавет скласьці ўмову аб наёме Гарасімкі.

— Глядзі-ж, дзядзька,—папярэдзілі яны дамавітага селяніна.—Бацькоў у Гарасімкі няма, і калі ты пакрыўдзіш яго чым, абарона знойдзецца. Дык вось ведай, наша абарона мацнейшай за бацькаўскую будзе, бо наш голас высока даходзіць.

— А як гэта высока?—прабаваў той жартаваць.

— А вось так, што вышэй і няма куды: да найгалоўнага начальства.

— Добра...—кашлянуў дзядзька і баязьліва падумаў: „Ой, Трахіме, ці ня ўзяў ты клопат лішні на сваю галаву?"

Але праз тыдзень аж зіяў ад радасьці: Гарасімка быццам-бы ў яго і ўдаўся.

Неўзабаве пасябравалі піонэры з вясковымі хлопцамі. Тым, якія ня бачылі нічога, апрача сваёй вёскі і кірмашу ў Лохвіцы, шмат што дзіўным здалося. Пра гарадзкое жыцьцё яны ведалі сёе-тое толькі хіба з няпэўных вестак, ня ведалі ні піонэрскіх гульняў, ні песень,—і таму з вялікай цікавасьцю і запалам праводзілі ўвесь вольны час у атрадзе.

Аднаго разу, калі на пляцоўцы ў глыбіні парку піонэры распачалі гульню ў ведзьмака, з боку будынку пачуўся высокі ўрачысты голас. Удзельнікі гульні міжвольна спыніліся і пачалі прыслухоўвацца.

— Алесяў голас?

— Зноў нешта такое выпараў.

— Трапло! Пачне зараз кісель з вады варыць...

— На тое і Шыла, каб чартаўшчыну ўсякую выдумваць.

— А ну яго! Давайце далей.

Але вось з-за дрэў выбег Алесь з тварам зьмененым ад хваляваньня. Ён з нязвычайнай хуткасьцю лямантаваў нешта такое, чаго няможна было зразумець. У руцэ ён трымаў вялікі сьветлы канвэрт, якім несамавіта махаў над сваёй галавою.

— Ліст! О-го-го!.. Ад КІМ'у!..—несьліся поўныя захапленьня звонкія выгукі.

Усе ўзварухнуліся.

— Ці не пра Гамбург?

— Вось! Ох-у!..—цяжка дыхаў, як зацкаваны заяц, сапучы Алесь.—Пайшоў вады напіцца, а там... якраз... пошту прывезьлі...

Козыраў разарваў канвэрт, глянуў на абступленую вакол яго грамаду, і ўпіўся вачыма ў паперы. Твар у яго быў бледны, вочы зіялі.

— Э-ге!—сказаў ён урыўчатым ад радасьці голасам.— Выканком КІМ'у просіць выбраць групу з 6 чалавек; падаць пра іх дакладныя весткі, каб можна было прыгатаваць замежныя пашпарты.

Радасьці піонэраў ня было краю. Але зараз-жа паўстала цікавае пытаньне, якое шаламіла ўсіх і глыбока хвалявала: хто-ж будуць тыя шчасьлівыя шэсьць чалавек? Як іх выбраць, калі паехаць хочацца ўсім?

— Жарабёўку! Кінуць жарабёўку!..—крычалі дзесяткі галасоў.

— Ні ў якім разе! Выбраць,—горача даводзілі ім іншыя.—Жарабёўка—сьляпая штука. А тут трэба адчынена рабіць, сьвядома.

Доўга спрачаліся, даводзілі, змагаліся і не маглі ніяк пагадзіць сваіх думак. Нарэшце, цьвёрда і ўпэўнена ўхвалілі:

— Выбіраць.

Увечары ўсе піонэры сабраліся, як на веча, каля агню. Высокім яскравым полымем гарэла сухое гальлё. Агонь гучна шумеў, трашчала суччо, а навакол, у цесным гурце хлопцаў ішлі гарачыя спрэчкі пра высунутыя кандыдатуры. Кандыдатуры абгаварваліся з нязвычайным запалам. Кожнаму хацелася, каб абавязкова ўпамянулі яго. Асабліва непакоі-

ліся дзяўчаты, бо з першых-жа думак аб кандыдатах вылявілася, што большасьць з атраду супроць дзяўчат і прапануе скласьці групу выключна з хлапцоў.

— Хіба гэта справядліва? Патаварыску?—дакарала з абурэньнем Кацярына Рабініна. Вочы яе пры сьвятле амаль што сталі зусім чорнымі і блішчэлі гнеўна.—Гэтак ня робіцца!

— Спачатку мы шлях працярэбім, а па гатовай дарозе і вы паедзеце,—прабаваў заспакоіць яе Якім Шчыглоў.

— Дзякуй табе ў шапку. Мы самі ня горш працярэбім. Церабіцель які знайшоўся...

— Тацяна!—з хітрымі ўедлівымі вачыма высоўваўся наперад Алесь.—Куды ты набіваешся? Падумай. Ну, хай будзе так, уявім сабе, выбярэм мы штук пяць дзяўчат, панакручваеце вы свае касянты, прыедзеце ў Гамбург, а немцы на вас свае дзюймавыя вочы так і вырачаць. „Што, скажуць, за ліха? Няўжо ў іх хлопцаў няма?“ І гэта, па тваёй думцы, добра будзе?



Лявон Штэйнбэрг.

Тацяна абразілася і замоўкла.

Выбары пачалі ня зразу. Спачатку аднагалосна ўхвалілі, што ў ліку шасьці павінен быць адзін комсамолец, як старэйшы адказны кіраўнік у дарозе, а апрача таго, абавязкова трэба мець свайго перакладчыка, які будзе лічыцца сёмым. За перакладчыка меркавалі Лявона Штэйнбэрга, васемнаццацігадовага хлопца, які добра ведаў нямецкую мову. Яго з імі ў лягеры ня было. Ён, як комсамолец, астаўся на заводзе, але трэба толькі выклікаць яго тэлеграфам, і ён будзе тут. Лявону выпала горкая доля. У дзевятнаццатым годзе бандыт Шэпель заняў іх мястэчка. Наляцелі казакі і ўсіх яўрэяў пазаганялі ў сінагогу, аблажылі драўляныя сьцены саломаю, аблілі газаю і падпалілі. А самі пастроіліся п'янаю гурбою з усіх чатырох бакоў і стралялі на тых, хто ў сьмяротэльным жаху і роспачы вылятаў з полымя. І вось там, у тым страшным вогнішчы, на вачох у дванаццацігадовага Лявонкі згарэлі яго бацькі... Магчыма праз гэта кандыдатура яго цяпер не выклікала ніякай супярэчнасьці.

Якім на міг уявіў сабе Штэйнбэрга, яго чорныя, рашучыя вочы, заўсёды поўныя глухога болю, яго густыя кучаравыя валасы, і падумаў, з якою радасьцю спаткае Лявон сваё абраньне за перакладчыка.

Падышоў Васіль.

— Ну?—з запытаньнем ляснуў ён Якіма па плячы.— Спадзяешся?

Якім няўпэўнена пераступіў з нагі на нагу і нэрвова ўсьміхнуўся.

— Няўжо не пападзем? Ня можа быць...—падбадзёрыў ён сябе.

— Хто ведае...

Пачаліся выбары.

---

РАЗЬДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

# ДА ПРЫВАБНАГА ГАМБУРГУ, ДА ЦУДА ПРАЦЫ

Яшчэ ніколі на агульных сходах ня быў атрад у гэткім напружаньні і ўсхваляваньні, як цяпер, калі Козыраў голасна і рашуча сказаў:

— Вызначайце кандыдатаў!

На момант утварылася поўная цішыня: тыя, хто спадзяваўся папасьці, маўчалі, а тыя, у каго надзеі ня было, ня ведалі з каго пачынаць. Але зараз-жа пасьля нядоўгага, нерашучага маўчаньня з далёкіх шэрагаў густога гурту, з цёмнага крайняга кола пачалі далятаць галасы, спачатку асьцярожныя, быццам палахлівыя, а пасьля сьмелыя і азартныя, якія сыпаліся навыперадкі, заглушаючы адзін другога.

— Васіль Аўдзееў.

— Козыраў.

— Зялінскі.

— Качура.

— Шыла.

— Якім Шчыглоў.

— Шышкін.

— Мудроў.

— Шкляр.

Выклікалі больш за дванаццаць чалавек.

— Хопіць! Спыні запіс.

— Галасуй.

У Якіма палахліва ўстрапянулася сэрца, калі ён пачуў сваё прозьвішча. Васіль бліскучымі вачыма паглядзеў на яго і моўчкі моцна сьціснуў яго руку каля локця.

Галасаваньне цягнулася вельмі доўга. Разам з тым, як сьпісак падыходзіў да канца, рук падымалася ўсё менш ды менш. А калі хтосьці перасьцярог, што адзін чалавек можа галасаваць ня больш шасьці разоў, дык лік рук і зусім парадзеў. Для большасьці кандыдатаў гэта заява была тое самае, што катастрофа. Неспакой, трывога, няпэўнасьць ахапіла Якіма. Яго прозьвішча Кацярына запісала чамусьці

пазьней, чым яно было названа, і ён мог праваліцца зусім неспадзяючыся на тое. Грудзі моцна сьціскаліся ад страху, што выпадкова большасьць галасоў на карысьць таго ці іншага кандыдата канчаткова можа вырашыць яго долю.

Гэтак і сталася.

Калі падлічылі галасы, выявілася, што Васіль Аўдзееў і Косьцік Козыраў прайшлі аднагалосна.

Сьледам за імі большасьць галасоў прыпадала на Стася Зялінскага, Качуру, Бурчака і Шыла. У Якіма было адным голасам менш, чым у Алеся Шыла,—яго запісалі толькі як кандыдата, на той выпадак, калі хто-небудзь з выбарных з якой толькі-небудзь прычыны ня мог паехаць.

Вагністая журбота абхапіла Якімава сэрца. Яму здавалася, што гэта нешчасьлівы сон, нейкі люты жарт, цяжкая бязжаласная і гострая выдумка. Прыдушаны камяк сьлёз перахапіў, сьціснуў горла. Якім ня вытрымаў і, як у тумане, пасьпешна выбег з гурту ў цемру, у зацішак садовых сьцежак

— Што-ж гэта такое?.. Га?..—пытаўся ён сам у сябе, блытаючыся і губляючыся ў адгадках.

Ён ня ведаў, што рабіць, куды ўцячы ад такой крыўды, абразы і няўдачы. Раптам зайграў гарністы: напэўна, зазьвінеў выклік на вячэрні збор. Хлопцы шумнымі, гаманлівымі вадаспадамі паразьбягаліся і пачалі сабірацца перад домам. Няпэўнымі, простымі крокамі павярнуў туды і Якім.

— Чор-чор-зна што вышла...—з гарачым спачуваньнем вымавіў Васіль Аўдзееў, калі яны, як заўсёды, сталі поруч. Васілю было неяк ня зусім добра за свой посьпех.

— Гэта ўсё Кацярына вінавата,—дадаў ён, абурана размахваючы рукамі.—Яна павінна была раней цябе запісаць, а не марынаваць да самага канца.

Якім спусьціў у зямлю шустрыя карыя вочы, баючыся, што вось-вось на іх зьявяцца сьлёзы, і маўчаў.

— Як гэта Алесь праскочыў?—дзівіліся шмат якія піонэры.—Вось, праныра, шчасьлівы. Недарэмна яго і Шыла празвалі...

— Выпадак...—тлумачылі другія.

— Які выпадак?—гарачыліся іншыя.—Проста разявакі мы, паднялі рукі, не падумаўшы, вось ён і праскочыў таму.

Успаміналі розныя Алесевы паводзіны і штукарствы, іх было і ня зьлічыць. То настаўнічыны галёшы прыб'е да падлогі цьвічкамі, то йголку ў стул загоніць перад прыходам нялюбага настаўніка, то сьмешны вершык напіша пра каго-небудзь. А аднаго разу пачаў глуміцца з аднаго сівага старэнькага Тышыны, заводзкага інжынэра, які выкладаў у школе фабзавучу фізыку. Вісеў на сьцяне плякат з надпі-

сам: „Соблюдайте тишину“. Алесь падышоў і так, каб ніхто яго не заўважыў, падмаляваў дзьве літары, а на канцы паставіў клічнік. Ад гэтага цалкам зьмяніўся зьмест пляката і стала так: „Саблюдайце Тишину!“ Пад гэтым радком ён дапісаў простымі, як друкаванымі, літарамі:

Ваявода ён які...
Калі дрэмле ці сапе,
На сьмех курам завадзкім,
Няхай з шабляю храпе.

— Куды яго такога ў Гамбург?—казалі дзяўчаты.—Ён і там што-небудзь такое выпаліць.

— Няма што і казаць, выбралі малайца!

Прасьпявалі хорам Інтэрнацыянал. Шырока і чыста прасьвінелі ў парку дружныя, магутныя галасы. Дзяўчаты разышліся па хатах, хлопцы у свае палаткі, якія няясна бялелі ў цемры, за клумбамі кветак. Настала ноч.

І Якім і Васіль доўга не маглі заснуць: адзін ад неспадзяванага разбурэньня ўсіх сваіх мараў і плянаў, другі— ад радасьці чаканьня чароўных дзён падарожжа.

Назаўтра рана сьпіс з прозьвішчамі выбраных паслалі ў выканком КІМ'у. Паведамілі таксама, што па жаданьню атрада за перакладчыка выбралі свайго хлопца—комсамольца Штэйнбэрга.

Паляцелі доўгія нецярплівыя дні, поўныя ад ранку да вечара чаканьня.

Кожны з шчасьлівай шасьцёркі пасвойму пераживаў будучае падарожжа: Косьцік Козыраў—сурова і паважна, з бадзёрай сьмеласьцю пракладацеля новых шляхоў жыцьця; шырокаплечы сын стэпу Хведар Качура—з спакоем монгола, які адбіваўся ў яго шустрых зеленаватых вачох; найлепшы ва ўсім атрадзе фізкультурнік, Максім Бурчак—з лёгкім запалам спортсмэна; Васіль Аўдзееў—з цікавасьцю дапытлівага вучня, які хоча пазнаць усе хітрыя патаемнасьці ў тэхніцы індустрыяльнай Эўропы; Алесь Шыла—з пустою цікавасьцю штукара і балаўніка; Зялінскі—з прадчуваньнем надыходзячага захапленьня і зачараваньня ад гарадоў, будынкаў, рэк, заводаў, музэяў, гаваней і вакзалаў, пра якія так многа начытаўся ў розных кніжках. У Зялінскага былі вялікія цёмныя вочы з доўгімі дзявочымі павекамі. Ён вельмі шмат чытаў,—у гарадзкой бібліотэцы ўжо ня ведалі, што яму даваць. Яшчэ два гады таму назад, калі яму было дванаццаць гадоў, ён быў зусім іншы, быў цалкам непадобны на цяперашняга, марыў стаць ксяндзом.

Прыслужваў у касьцеле, запальваў сьвечкі, папраўляў лямпачкі, падаваў кадзіла, схіляючыся на адно калена з лёг-

каю тэатральнаю грацыйнасьцю. Але пасьля раптам згубіў цікавасьць да касьцёла, да аргану, да веры, да ксяндза, да ладану срэбных кадзіл. Перад ім адчыніўся новы сьвет працоўнага жыцьця, дзе чалавек сам, без дапамогі надпрыроднай сілы будуе сваю долю і шчасьце. Поўгода прайшло ў балючай хісткай барацьбе. А пасьля, патроху, баязьліва, нясьмела Зялінскі пацягнуўся да піонэраў—і ўсёю душою глыбока аддаўся працы атрада. Яго ўсе любілі і паважалі за шчырасьць і за цалкам выключную прастату і справядлівасьць.

Праз некалькі дзён сьпешнаю поштаю прышло паведамленьне ехаць у Маскву. Мары пераходзілі ў сапраўднасьць.

Кузьмішчаў, які стаў правадыром заместа Козырава, запрапанаваў усім атрадам ісьці праводзіць падарожнікаў. Дарогаю, якая вяла да станцыі зноў рассыпаліся звонкія песьні.

— Паскудзтва, сьвінства!..—скрозь радасную ўсьмешку абуралася і зайздросьціла Кацярына Рабініна.—Хоць-бы адну дзяўчыну ўзялі! І дзе закон такі знайшлі, каб толькі хлопцам за межы ехаць?

— Дарма, Кацярынка, ня журыся. Мы табе з Гамбурга малпу прывязем,—пусьціў крыўдную шпільку ёй Алесь Шыла.

Кацярына на момант схапянулася і раззлавалася. Вочы яе, як стрэлы, гнеўна бліснулі на Алеся:

— Прывязі лепш сабе самому. Вазіла!

— Ды мы яго там пакінем,—заспакойваў, усьміхаючыся хітрымі стэпавымі вачыма Хведарка Качура.—Ужо занадта калючы...

— Пакінь, Хведарка!—параіла Кацярына.—Пакінь, будзь ласкаў. Ня трэба нам такога Шылу! Досыць! Няхай Гіндэнбурга ці каго там коле.

— Ды я пажартаваў, Кацярынка! Ня гневайся,—заспакоіў яе Алесь.

У адзнаку згоды і прабачэньня ён працягнуў Кацярыне руку. І з самабытнай ласкавасьцю ўспомніў ёй свой вершык, які сьпявалі хлопцы яшчэ перад выездам у лягер:

Каця—порах. Як падноскі,
На патыліцы дзьве коскі.
Каця—бомба. Хто зачэпіць—
Дык ня мала таму ўлепіць...

— Ну, ты, „тварэц кіслай капусты"...—адмахнулася Кацярына.—Ты горшы за ўсялякую малпу.

— Што-ж рабіць! Усе людзі ад малпы пайшлі.

Алесь хітра ўздыхнуў і дадаў:

— Ага-ж, нават такія разумныя, як ты.

— Ды годзе вам,—стаў між імі Зялінскі.—Глядзеце ў мяне, яшчэ пасварэцеся на разьвітаньне.

Прагучэў другі званок. Паравоз зашыпеў па зямлі белай параю.

— Сядай, братва,—гукнуў Козыраў і ўскочыў на драбінкі вагону.

Васіль Аўдзееў моцна сьціснуў Якімаву руку:

— Ты на мяне ня злуеш?—запытаўся ціха.

— Што ты, вось дзівак...

— Дык, значыцца, сябры, як і былі?

— Назаўсёды, Васіль, я ад цябе ніколі не адракуся. Памятай гэта.

— І я ад цябе.

Востра, аглушаюча прагучэў сьвісток. Моцна зашыпеў паравоз, і цягнік рушыўся. Васіль ускочыў у вагон. Вагоны, узмацняючы рух, папаўзьлі з гучным грукатам і бразгатаньнем.

— Пішэце! Хлопцы! Чуеце?..—гукалі дзесяткі галасоў з атраду.

— Абавязкова!—чулася ў адказ.

— Шчасьліва аставацца! Да пабачэньня! Бывайце!.. А-а-а...

Як уцякае вялікі зьвер, так цягнік за некалькі хвілін адкаціўся ўжо далёка, далёка. З адчыненага вакна вагону на разьвітаньне высоўваліся, махалі рукі. Наўздагон ім са станцыі ўзьнімаўся цэлы лес рук і зьвінелі ў паветры астатнія, разьвітальныя словы, але іх падарожныя ўжо ня чулі.

Цягнік што далей усё зьмяншаўся і зьмяншаўся, а-ж покуль ня зьнік за небасхілам.

---

РАЗЬДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

# ЗНАЁМСТВА З НАДЗВЫЧАЙНЫМ ЧАРАЎНІКОМ

У першыя дні, як ад‘ехалі хлопцы ў Нямеччыну, у Якіма Шчыглова было пачуцьцё цяжкай крыўды і горкай пустэчы. Ён нікому не казаў аб гэтым, але сэрца яго шчымела ціхім захаваным ад усіх болем.

З часам гэта пачуцьцё слабела і губляла сваю гострую едкасьць. Вясёлае жыцьцё ў атрадзе, поўнае сьмеху, гульняў, дружнай работы, заглушалі ў сэрцы Якіма ўсялякія непаразуменьні, што адбыліся за апошні час. Асабліва дапамаглі Якіму прымірыцца з неспадзяванаю няўдачаю навуковыя экскурсіі. У гэтыя экскурсіі ўцягнуўся атрад дзякуючы Кузьмішчаву, які склаў шырокі плян „піонэрскага рабфаку на паветры“.

Амаль штодня зранку атрад выходзіў з лягераў дзе-небудзь у поле ці ў лес. Пад кіраўніцтвам запрошанага з гораду маладога вучонага прыродазнаўца, які рыхтаваўся быць профэсарам Інстытуту Народнай Асьветы і меў званьне асьпіранта, піонэры зьбіралі розныя кветкі, траву, лісты дрэў, рупліва і старанна засушвалі ўсё сабранае, лавілі тысячы розных жучкоў, мух, матылькоў, і пасьля натыкалі іх на шпількі з такой уважлівасьцю, нібы рабілі вельмі вялікую і складаную хірургічную опэрацыю. Найбольшага спрыту і ўмеласьці ў гэтай справе дасягнула Кацярына Ліхачова. Яе колекцыя жукоў, налыганых на шырокім аркушы паперы, зьдзіўляла прыемным выглядам вельмі ўдалага і зручнага разьмеркаваньня: жукі быццам сабраліся на нейкую патаемную нараду і прыслухваліся да свайго волата-правадыра. З гэтым правадыром адбылася цэлая гісторыя. Аднаго разу на крутым беразе Данца Тацяна натрапіла на такога вялікага рагача, якога яшчэ ні ў кога ня было. Асьпірант аж занепакоіўся:

— Вось вялізарны! Вось волат! А ну, дайце я яго агледжу харашэнька.

Ён палажыў жука на далонь і з захапленьнем усё паўтараў:

— Ды які-ж ён прыгожы, каналія!

Але жуку, відаць, не спадабалася такая перахваленая назва: ён раптам зазумкаў крыльлямі, быццам пропэлерам, і вокам не пасьпелі маргнуць, як паляцеў.

— Ах!..—аж падскочыла ад неспадзяваньня Тацяна і кінулася за жукам у чыстае поле.

Паімчаўся і ўвесь атрад. Забыўшыся пра свае гады, пабег і вучоны асьпірант, вінавайца ўсяго здарэньня. На шчасьце, жук быў такі вялікі, што яго бачылі ўсе ў паветры, як вераб'я. Ён неўзабаве ткнуўся аб дубовы гушчар і яго зараз-жа выцягнулі адтуль, як гарэзьлівага ўцекача.

— Я вам казаў, што каналія. Каналія і ёсьць,—апраўдаўся асьпірант.

— Цяпер ужо яго нікому не аддам!—сьмяялася задаволеная Тацяна.

У жука былі вялізарныя разгастыя „рогі“, а верхнія панцырныя крыльлі пераліваліся цудоўным сінім водблескам. Прыколаты да сярэдзіны кардону, ён зіяў, быццам найкаштоўнейшы самацьвет.

— А ведаеце,—гаварыў асьпірант,—гэтыя рагачы калісьці лічыліся за найлепшую і найтанчэйшую прысмаку.

— Іх елі?—з жахам перагаварыла адна дзяўчынка.

— Нават з вялікай ахвотаю.

— Цьфу, цьфу!--плявалася дзяўчынка.

А асьпірант, усьміхаючыся, казаў далей:

— Калі ў Рыме існавала падняволенства, багатая кляса ўладароў, якая была задаволена ўсім прыродным, выдумлівала сабе розныя прысмакі. І вось, між іншым, была ў іх улюблёная страва, якая звалася „косус“, паднявольнікі-кухары гатавалі яе з гэтых самых рагачоў...

— Вось чэрці тоўстапузыя!—ня вытрымаў Кузьмішчаў.— Іх-бы на хлеб ды на ваду пасадзіць ды да ліцейнага цэху каля печаў гадоў на тры паставіць. Вось-бы тады забыліся на свае розныя выдумкі!..

У часе экскурсій траплялася шмат розных прыгодаў. Неяк аднаго разу Янка Шышкін, наймаладзейшы піонэр атраду, пагнаўся за чмялём, які прыемна зьвінеў у гушчары лісьцяў; ён так захапіўся сваёй справаю, што не агледзіўся як заблудзіўся ў лесе, і толькі ўвечары яго ледзь-ледзь знайшлі.

Ён ужо згубіў усялякую надзею выбіцца на белы сьвет і пачаў быў ламаць гальлё ў лагчыне.

— Ты што гэта робіш?—запыталі яго хлопцы перад тым, як ісьці назад.

— Як што? Індыйскі вігвам. Будку.

— Нашто?

— А начаваць. Індыйцы ўсе сабе такія вігвамы будуюць. Уночы-ж страшна ў лесе. А ў вігваме чаго баяцца?

Глядзі, які самаробны Робінзон.

Гэта прозьвішча самаробнага Робінзона за Янкам так і засталося.

Другога разу на пескаватым узгорку зьнячэўку наскочылі на гадзюку. Было страшна гнацца за ёю з каменчыкамі і дручкамі, але пасьля жорсткае і актыўнае атакі гадзюку ўдалося забіць. Яе ўсадзілі ў шклянку са сьпіртам і часта разглядалі грозна сплеценыя стракатыя пярсьцёнкі, ужо ня страшныя, а толькі цікавыя. Гэтым трофеем атрад ганарыўся ня менш, як і забітым барсуком.

Аднаго разу, калі сабраліся йсьці з поля ў лягер на абед, да Якіма падбег жвавы сялянскі пастушок Трошка, па прозьвішчу сяміхвост, і, сапучы, зашаптаў:

— А к нам чараўнік прыехаў... Страшны! У акулярах... Ён там над рэчкаю пры беразе зямлю капае.

— Чараўнік?—зьдзівіўся Якім.

— Яй-бо, чараўнік. Бабуля казала...

— Ды што ты брэшаш!

— Нічога не брашу. Ідзі паглядзі. Барада вунь якая! З аршын. Акуляры, як талеркі. Сівы-сівушчы, як выбелены... Скарбаў шукае...

— Скарбаў.

— А ўжо-ж. Торык, калі гліну капаў, збанок знайшоў, а ў збанку срэбныя кацёлачкі, такія, як грошы, толькі не сапраўдныя, а хто іх ведае якія. Вось ён і прыехаў пацікавіцца, можа тут грошай вось тых цэлыя тысячы ў зямлі ляжаць. Нам не даюцца, а ён слова ведае такое, яму дадуцца.

— Што ты мелеш языком? Вось вятрак.

— І зусім не вятрак. Яму сьпярша ня казана было зямлі чапаць, але ён, бабуля кажа, туман у вочы пускаць умее. Прышоў у сельсавет, пусьціў туман—дык паперка нейкая з пячаткаю так і паказваецца. Сельсаветчыкі, калі глянулі, так і вохнулі: ад самага найвышэйшага начальства паперка тая.

Зацікаўлены такою вялікаю навіною, Якім борзда пабег да рэчкі і, сапраўды, сажняў за дзьвесьце, ля берагавой крушні, убачыў дзеда з сіваю барадою ў доўгай палатнянай талстоўцы, у вялікіх рогавых акулярах. Дзед, нахіліўшыся наперад, глядзеў у яму, нечага чакаў, быццам, з некім размаўляў, хоць на паверхні зямлі нікога і ня відаць было.

— Да каго-б гэта ён?—дзівячыся міжвольна падумаў Якім і спыніўся.

Трошка сяміхвост, які асьцярожна ішоў ззаду, хапаючыся за Якіма, спужаўшыся, шаптаў:

— А што, бачыш? Бачыш? А ты яшчэ крычыш „брэшаш". Там у яго ў яме памочнік сядзіць. Удвох арудуюць.

Якім падступіўся бліжэй. На дне ямы, з доўгім прутам у руцэ, стаяў чалавек гадоў трыццаці, у палатнянай талстоўцы.

— Тут прут ідзе ў зямлю зусім вольна,—павярнуўся чалавек да дзеда.—А вось угары, ля сухога дуба, увесь час трапляе на нешта цьвёрдае.

— Ну, што-ж. Паспрабуем там пашукаць.—абазваўся дзед.

Трошка ўвесь так і захістаўся ад гэтых слоў і, адчуваючы сябе правым, уліп у самае вуха Якіма:

— Чуеш?.. Сам кажа—„пашукаць!" Яй-бо, скарб чуе!

— Чакай,—адмахнуўся Якім, які ня прывык доўга выносіць нейкую невядомасьць, і зрабіў яшчэ некалькі крокаў наперад.

Дзед падняў галаву:

— А-а!.. Піонэры!..—усьміхнуўся ён дабрадушна.—Просім, просім!



Дзед, нахіліўшыся ўперад, з чаканьнем глядзеў у яму.

І Якім падступіўся да самага краю ямы. Трошка недаверліва астаўся стаяць на месцы, гатовы зараз-жа ўцякаць, неўзабаве ўбачыць нешта страшнае ці неспадзяванае.

— Цікавіцеся навукаю?—запытаўся дзед і палажыў руку Якіму на плячо.

— А вы хіба навукаю займаецеся?—з няпэўнасьцю глянуў на яго Якім.—На вёсцы кажуць, што вы чараўнік...

— Што?..— ад неспадзяваньня дзед аж падаўся назад.
— Чараўнік,—сурова і настойліва падкрэсьліў Якім і ўтапіў вочы ў вялікіх дзедавых акулярах.
— Чараўнік?.. Ха-ха-ха!..—засьмяяўся весела дзядуля.
— Васіль Іванавіч, чуеце?—зьвярнуўся ён да чалавека, што стаяў у яме.—Мяне чараўнікам зрабілі.


Кожная драбніца была для профэсара як цудоўны ключ.

— І напэўна кажуць, што мы скарбаў шукаем?—з запытаньнем усьміхнуўся ў бок Якіма Васіль Іванавіч.
— Ды кажуць, — падцьвердзіў Якім.
— Якая выдумка. Якая бязглузьдзіца...—крыкнуў дзядуля, разводзячы рукамі, і паправіў на носе свае акуляры.— А вы ведаеце, хто-ж мы такія сапраўды?
Трошка ўважліва прыслухаўся. Якім з чаканьнем узьняў вочы.
— Я профэсар—археолёг, а Васіль Іванавіч--мой памочнік, і таксама хутка будзе профэсарам. Нас выправіла сюды акадэмія навук правесьці цэлы шэраг раскопак. Справа ў тым, што ёсьць навуковыя падставы думаць, што ў глыбокай старасьветчыне, у тыя часы, якія мы завём дагістарычнымі, так прыблізна пяць ці шэсьць тысяч гадоў таму, а можа і больш—на берагох Данца жылі людзі. І вось мы і прыехалі перакаканацца ў гэтым. Мы шукаем тут ня скарбаў, а сьлядоў існаваньня старадаўніх людзей.
І профэсар з захапленьнем пачаў апавядаць, як навука на падставе раскопак па знойдзеных у глыбіні зямлі маленькіх, гліняных чарапкох, па абломках абточаных вякамі каменчыкаў, па костках людзей, птушак альбо зьвяроў умее чытаць так, як у разгорнутай кнізе пра даўно мінулыя вякі і народы.
— Калі хочаце пазнаёміцца з нашаю работаю,—дадаў ён,—прыходзьце заўтра: мы пачнем свае раскопкі вунь з таго ўзгорку,—паказаў ён у бок сухога дуба.
— А можна ўсім атрадам прысьці?—запытаўся Якім.
— Будзьце ласкавы. Мы будзем вельмі рады. Вы нам дапаможаце разьвеяць тыя забабоны і бязглуздыя гутаркі, якія пашыраюцца пра нас.

Якім прыбег у атрад і дакладна расказаў пра сваю дзіўную сустрэчу, пачынаючы ад Трошкі і канчаючы запрашэньнем профэсара.

Аспірант-прыроднік, які выпадкова быў пры гэтай размове, сказаў, што той дзед ня проста профэсар, а вядомы акадэмік, адзін з выдатнейшых вучоных нашай краіны, і што калі ён хоча расказаць хлопцам пра сваю працу, дык гэта трэба абавязкова скарыстаць, таму што тое, пра што ён раскажа, надзвычайна цікава.

І ўвесь атрад з нецярплівасьцю і цікавасьцю зьбіраўся на другі дзень каля сухога дуба над Данцом.

Раскопкі пачаліся зранку. Профэсар прыветліва спаткаў піонэраў і, здаецца, быў вельмі зьдзіўлены, што сабралася гэтулькі шмат юных гледачоў і слухачоў.

— Кажуць, што я чараўнік,—усьміхнуўся ён з-пад акуляраў. Давайце-ж пацікавімся, ці мае сувязь мая справа з чараўніцтвам.

Шырокае піонэрскае кола цесна абхінула профэсара.

Настала нязвычайная, уважлівая цішыня. І профэсар, як дзіўную казку, расказаў пра сусьветныя вынаходкі археолёгіі, пра Эгіпэт, Асірыю, Бавілён, пра тыя найстарэйшыя краіны земнай кулі, якія толькі дзякуючы археолёгіі выявілі сваё мінулае, сваю забытую даўнейшую вялічавасьць.

Расказаў і пра тое, як разьвівалася жыцьцё ў нашых краёх яшчэ шмат тысяч год таму назад.

— Пэўная рэч, трапляецца, што мы і скарбы знаходзім,—казаў профэсар,—але яны нам патрэбны не як скарбы, а як доказ таго, на якой ступені стаяла тая культура, тая эпоха, з якой паходзяць гэтыя скарбы.

Так, напрыклад, некаторыя каштоўнасьці, якія мы знаходзім у тутэйшых магілах, сьведчаць пра тое, што даўнейшыя жыхары гэтых мясцовасьцяй мелі зносіны з грэкамі, рымлянамі, пэрсамі і індусамі.

Пад канец другога дня капачы натрапілі на даўнейшы склеп. З вялікаю асьцярожнасьцю дабывалі з зямлі чарапкі пасуды і напалову трухлявыя рэшткі людзкіх касьцей. Кожная драбніца, кожная маленькая рэч, нямая і незразумелая для піонэраў, была для профэсара як цудоўны ключ, які адмыкаў яму таемнае мінулае, і ён расказваў пра яго захопленым і ўважлівым слухачам з такім перакананьнем, быццам бачачы яго перад сабою.

Гэта надзвычайна цікавіла піонэраў. Перад імі ўставаў шырокі прастор гісторыі, рассоўвалася таемная сінь вякоў і відаць быў цяжкі шлях чалавека, які ўпарта ідзе ад цемры першабытнага існаваньня да вялікай будучыны.

---

## РАЗЬДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

# ШУМНЫЯ ПАДЗЕІ

Мінула тры тыдні з таго часу, як хлопцы ад'ехалі ў Нямеччыну, а пра іх ні слуху ні духу, быццам яны заехалі на край сьвету, адкуль і весткі ніякай падаць няможна.

— Забыліся пра нас хлопцы,—з дакорам узьнімала высокія дугі сваіх чорных брывей Кацярына Рабініна.

— Пачакай. У іх там вочы разьбегліся з няпрывычкі,— сказала Тацяна.—Разгледзяцца—напішуць.

— Зараз! Настаўляй кішэні. Напішуць.

— А напэўна напішуць.

— Заганарыліся, што падарожнічаюць. Пра нас, напэўна, і ўспамінаў ня маюць.

Але ліст усё-ж прышоў. Быў ён кароткі, няўважліва напісаны, але за некалькімі радкамі ў ім сьвіцілася жывая, сяброўская шчырасьць—тое самае мілае, ад чаго адразу зьнікае далёкая пярэрва між людзьмі ў разлуцы.

„Будзьце гатовымі, дарагія таварышы!"—зьлятаалі з лінеек паперы няроўныя літары, напісаныя рукою Васіля Аўдзеева. Едзем са славай. Бачылі ўжо каля дзесяці гарадоў. Тры дні плылі морам—так, быццам у казцы. Тут спатыкаюць нас гурбамі, дзівяцца, што мы такія здаровыя ды румяныя: немцы думалі, што савецкія піонэры быццам нейкія недалугі. А мы такімі казырамі ходзім, што некаторых буржуяў аж зайздрасьць бярэ. Былі мы на заводах, на карабельнай вэрфі,—чаго толькі ня бачылі. Бачылі сланоў, тыграў, шымпанзэ, малпанят, арангутангаў рознае пароды. Шмат тут таксама ўсялякіх таўстапузых багачоў—куды больш, чым у нас. Алесік, дзівак наш, ня ўстрымаўся—прыклеіў аднаму мільянэру ззаду да аўтамабіля подпіс, на якім пяцівяршковымі літарамі было напісана: „Хай жыве рэволюцыя". З гэтым подпісам буржуй праехаў з канца ў канец праз увесь горад. За ім, як за басяком, гналіся паліцэйскія, расьпіналіся сьвісткі, і, нарэшце, яго затрымалі. Буржуй, калі зразумеў, у чым справа, пляваўся і нагамі стукаў са злосьці,

кажуць, больш гадзіны. Мы цяпер Алеся з вока ня спускаем, а то ён, дзівак гэты, чаго добрага, пасадзіць нас у такую гісторыю, што і ня вырабішся. Хутка думаем завярнуць аглоблі дахаты. Чакайце нас дзён праз дзесяць".

Пад лістом стаяла сем подпісаў, прычым Алесь Шыла зрабіў прыпіску: „пра буржуя ўсё вам салгалі. Ня верце. Ніякіх плякатаў на аўтамабіль я не наклейваў,—гэта зусім нават не мая рука пісала. На мяне толькі, як на беднага Макара, усё валяць".

— Ведаем мы таго Макара!—многазначна ўсьміхнулася Кацярына.

Ліст зараз прымусіў перакінуць думкі піонэраў ад старажытнай археолёгічнай старасьветчыны да вялізарнага сучаснага, да думак пра будучыну, якая хвалявала, заклікала наперад цудоўным невядомым, жаданьнем надзвычайных гэройстваў.



З гэтым надпісам буржуй праехаў з канца ў канец праз увесь горад.

Тымчасам профэсар канчаў сваю складаную працу і ўжо вызначыў дзень ад'езду. Тое, чаго ён шукаў, ужо знойдзена: раскопкі падцьвердзілі, што ў старажытную эпоху каменнага века на берагох Данца сапраўды існаваў першабытны чалавек. Старыя вочы профэсара зіялі гордасьцю. У астатнія дні, робячы астатнія падрахункі працы за месяц, расчулены шчырай увагай хлапцоў, ён гаварыў з глыбокім захапленьнем і натхненьнем: яшчэ ніколі ў яго ня было такіх слухачоў, як Чырвоназаводзкі атрад.

— Вось каб гэта ён у нас застаўся!..—заўважвала галасна Кацярына.

— Давай папросім...—падтрымаў яе Янка Шышкін.

— Ну што ты! Хіба можа такі вучоны акадэмію пакінуць?

І раптам за тыдзень перад ад'ездам профэсара, як гром з яснага неба, пранеслася шалёная вестка і зблытала ясны распарадак жыцьця атраду. Пасьля абеду Якім Шчыглоў узяў у чытальні толькі што прывезеную з гораду газэту і праз некалькі хвілін дзіка і нэрвова закрычаў, быццам яго ўкусіла гадзюка:

— Хлопцы! Што гэта? Хлопцы!..

Да яго падбегла некалькі чалавек з вырачанымі ад зьдзіўленьня вачыма. Бледны, узварушаны, няпэўным голасам ён прачытаў:—„У Варшаве арыштаваны сем комсамольцаў, якія прыехалі ў Польшчу з Украіны праз Гамбург. Усіх іх абвінавачваюць у бальшавіцкай пропагандзе і, як дадаюць некаторыя буржуазныя газэты, у тым, што яны ўдзельнічалі ў змове супроць аднэй вядомай высокапастаўленай асобы польскай дзяржавы".

— Ды гэта-ж нашы хлопцы!—замітусіліся піонэры.

Зараз-жа наперабой пасыпаліся абураныя галасы:

— Прычым тут змова? Што за ліха?..

— Прычым тут прапаганда?

— Вось брахуны праклятыя!

— А я вам кажу, што гэта Шыла падвёў!..—горача крычала Кацярына.—Шыла, Шыла, Шыла!..

— Ды кінь, Кацярына, гэта-ж табе ня жарты.

— А ўжо-ж, ня жарты. Толькі бяз Шылы тут не абышлося. Вось пабачыце.

Некаторыя міжвольна нахмурылі бровы:

— Няўжо?..

Зараз-жа да іх далучылася яшчэ чалавек дзесяць. Яны ў замяшаньні казалі адзін да аднаго:

— Мажліва... гэта з яго вышла.

Тады ўсяму атраду здалося, што ў гэтым вінаваты Алесь.

— Напэўна, выдумаў якую-небудзь штуку, як з плякатам, ды і падстроіў, і сам папаўся, і іншых пасадзіў...

— Навошта такога ўзялі?

— Што-ж цяпер рабіць?..—з вогненым жалем пакручваўся направа і налева Якім Шчыглоў.—Няможна-ж так, склаўшы рукі, сядзець.

Але ніхто ня ведаў, што зрабіць, з чаго пачаць.

Пад вечар з гораду прыехаў матрос Лаўрухін і падцьвердзіў, што арыштаваныя ў Варшаве „комсамольцы" ніхто іншыя, як піонэры Чырвоназаводзкага атраду. Лаўрухін знарок загэтым і прыехаў, каб заспакоіць і ўцешыць атрад: ён запэўніваў, што арышт доўга цягнуцца ня будзе, што работнікі заводу вызначылі назаўтра дэмонстрацыю протэсту праз увесь горад да дому польскага консульства і што гэта зробіць такое моцнае ўражаньне, што арыштаваных заразжа адпусьцяць.

На другі дзень у газэтах было ўжо спэцыяльнае апавяшчэньне ад нашага варшаўскага прадстаўніцтва, што сярод арыштаваных толькі двое комсамольцаў, рэшта-ж пяць

проста вандроўнікі-піонэры ад 13 да 15 гадоў, што ні аб прапагандзе, ні аб змове нават і рэчы не магло быць. Але ў надрукаванай тут-жа новай тэлеграме з Варшавы паведамлялася, што бедных „комсамольцаў“, якія напужалі польскую жандармэрыю, перавялі ў цэнтральную турэмную цытадэль, якая ўчыніла арыштаваным суровы допыт, і што польская ўлада хоча як мага больш разгаласіць гэту гісторыю або зрабіць шумны судовы працэс.

Організаваны, як дэкляраваў Лаўрухін, выхад работнікаў з протэстам ня даў ніякіх вінікаў: сьледзтва над хлопцамі, якія папаліся ў пастку, ня было спынена.

У атрадзе ўтварыўся перапалох. Абураныя піонэры не



Да яго падбегла некалькі чалавек.

знаходзілі сабе месца. Мораплаўца, які прышоў з Лохвіцаў, ашаламаціла навіною, як раптоўным горам. Ад хваляваньня ў яго на вачох навярталіся сьлёзы, быццам сярод арыштаваных былі яго браты. Тут ясьней, як калі, выступіла пачуцьцё сяброўства, таварыскай вернасьці, жаданьне выратаваць сваіх, пастаяць за іх сваім жыцьцём.

Кацярына з хваравітым засмучэньнем хмурыла свой высокі лоб і падыходзіла то да Кузьмішчава, то да Якіма, жадаючы пачуць, што можа яны прыдумалі які-небудзь паратунак.

— Ну, што?—пыталася яна з нецярплівай надзеяй і чаканьнем. І тут-жа прызнавалася: — Мне і Алеся шкода. Хоць ён і Шыла, але ўсё-ж такі свой.

Сотні розных плянаў і прапаноў аб дапамозе арыштаваным вынікалі ў хлопцаў. Казалі пра МОПР, пра Наркамзамсправу, пра ўплыў на польскі ўрад праз польскія рабочыя і юнацкія організацыі. Але ўсе разумелі, што справа так

лёгка і борзда ня скончыцца, калі ў Варшаве ўзяліся за яе гэтак горача і заўзята.

Хлопцам, якія папаліся ў гэту бязглуздую гісторыю, напэўна, ня мінуць суду і што найгорш—да суду давядзецца нацярпецца ў вязьні ня менш, як месяц, а можа і больш.

Покуль ішлі размовы і кіпела абурэньне, выясьняліся абставіны, якія былі прычынай арышту. Выявілася, што пасьля шчырага спатканьня ў Гамбурзе, пасьля цікавых ўражаньняў ад гораду, фабрык і заводаў, сходаў і дружнага азнаямленьня з нямецкімі піонэрамі хлопцы вырашылі ехаць назад ня морам, а праз Польшчу, каб выкарыстаць такім чынам сваю вандроўку яшчэ больш. Па дарозе яны спыніліся на



Зусім неспадзявана вынікла бойка.

некалькі дзён у Варшаве і цалкам выпадкова спаткаліся з польскімі скаутамі, сярод якіх было шмат і украінцаў. Перакладчыкам заместа Лявона Штэйнбэрга стаў Зялінскі, які добра ведаў польскую мову, а з украінцамі гутаркі вынікалі раптоўна, як з найшчырэйшымі таварышамі пасьля доўгай разлукі: Зялінскі з такім захапленьнем апавядаў пра піонэрскае жыцьцё на Украіне, пра гульні, пра жыцьцё ў лягерах сярод лясоў і палёў, пра піонэрскі рух у саюзных рэспубліках наогул... Сярод скаутаў ад гэтага пачыналіся спрэчкі, непаладжанасьць. Аднаго разу зусім неспадзявана вынікла нават бойка, калі задзірастаму хлопцу, шчыраму „пільсудчыку“ да крыві разьбілі нос. Гэта нешчасьлівая бойка і стала пачаткам усіх далейшых здарэньняў, таму што абражаны „пільсудчык“ пабег недзе скардзіцца і, напэўна, наплёў там шмат усялякай хлусьні, малюючы нашых піонэраў, як „бальшавікоў“, як найгоршых злачынцаў. Скарга мела нязвычайны посьпех: чырвоназаводцаў напярэдадні ад'езду

захапілі на нейкай дачы пад Варшаваю, куды іх запрасілі скауты ў госьці. Але ніякага злачынства сапраўды ня было, прычыны для затрыманьня таксама ня было ніякай, і піонэраў, напэўна, хутка вызвалілі-б, калі-б не адна вельмі загадкавая гісторыя вышла.

Шпікі з дэфэнзывы выявілі пры арышце западозранасьць: арыштоўваючы піонэраў, яны старэнна абшнарылі, абнюхалі і абмацалі ўсю дачу, заглядаючы ва ўсе куткі і закуткі. І вось у аднэй нары на краю саду было знойдзена некалькі бомбаў і вялікія запасы дынаміту. Гаспадары дачы нейкім чынам уніклі арышту, скауты нічога ня ведалі, піонэры-ж былі ашаломлены дзіўным абвінавачваньнем, што іх нібы тут-жа засталі на месцы злачынства. Яны рашуча пярэчылі, казалі, што нічога ня ведаюць пра тыя выбуховыя матар'ялы, гарачыліся, абураліся на такое беспадстаўнае западозраньне, але ім ніхто ня даў веры. Праўда, праз некалькі дзён у рэдакцыі варшаўскіх газэт надыходзілі лісты бяз прозьвішчаў, у якіх паведамлялася, што бомбы і дынаміт належаць групе анархістых, што піонэры нічога супольнага з гэтаю справаю ня маюць, а таму брыдка і сорамна для дэфэнзывы трымаць невінаватых ні ў чым падросткаў за залезнымі кратамі. Анархістыя вымагалі неадкладнага вызваленьня арыштаваных, паграджаючы ў іншым разе перабіць шмат якіх начальнікаў дзяржавы. Але гэтыя лісты яшчэ больш падлілі масла ў агонь: для аховы будынкаў, дзе жыла вышэйшая турэмная адміністрацыя і прокуратура, пастаўлена было яшчэ больш узброеных з ног да галавы поліцэйскіх, западозраньне-ж арыштаваных у гэтай справе горш узмацнілася, палічылі, што яны бясспрэчна замешаны ў гэты вузел змовы і што на дачы былі не выпадкова. Жандарская ўправа, якая праводзіла палітычны шпіёнаж, гэтак званая дэфэнзыва, не зважаючы ні на што, хацела бачыць ва ўсім нечы хітры



Чырвоназаводзкіх вандроўцаў злавілі на дачы.

плян, які хаваецца пад гэтымі падросткамі, і ўжо сьмела ад чувала перамогу ў надзеі на тое, што гэты арышт разблытае таемныя ніткі змовы і дапаможа знайсьці вінавайцаў замаху, а дэфэнзыва праз гэта заслужыць сабе славу і ўзнагароду.

Навакол бязглуздага выпадку разгарэўся апэтыт дэфэнзывы. Не зважаючы на протэсты нашага прадстаўніцтва, арыштаваных ня вызвалілі: з дыплёматычнаю хітрасьцю, з „далікатнымі“ паклонамі і выбачэньнямі польская ўлада запэўнівала, што, калі толькі суд выясьніць нявіноўнасьць у гэтай справе юных вандраўнікоў, іх зараз-жа вызваляць, а пакуль што, „на вялікі жаль“, нічога зрабіць ня можа.

У засмучаным атрадзе кожны дзень зранку да глыбокай ночы абгаварвалі тое, што здарылася. Хлопцы нэрвавалі, горача абураліся, але гэта ніяк справы не мяняла.

— Вось дзе ліха прычапілася! вось капусныя галовы!— абураўся па адрасу палякаў Гарасімка, які прыходзіў увечары пасьля хатняй працы ў лягер.

Аднаго разу, наслухаўшыся шмат пра магчымыя пляны, у якіх парыву і наіўнасьці было больш, як практычных меркаваньняў, ён, нахмурыўшы бровы, сказаў з суроваю упэўненасьцю:

— Тут справа такая... Трэба залаты ключ...

— Які?—не зразумела яго Тацяна Ліхачова.

— А вось...

Гарасімка з віртуознай спрытнасьцю зрабіў пальцам правай рукі загадкавы хабарніцкі жэст.

— Залатым ключом, брат, усе замкі адмыкаюцца і ўсе дзьверы адчыняюцца—гэта яшчэ даўнейшая прыказка, ад дзядоў і прадзедаў жыве.

— Ды кажы бліжэй да справы!—нецярпліва ўставіў сваё слова Косьцік Данчэнка.

— Вельмі проста: грошы трэба. Былі-б грошы—ого!.. Вызваліць іх—раз плюнуць! Яй-богу! Папершае, ад грошай у чалавека розум, як круцёлка, круціцца, а, падругое, палякі грошыкі любяць... Даць добрую жменьку галоўнаму ўраду, даць наглядальнікам, даць начальніку варты з усёю яго сьвітаю—тады што хочаш! Ня тое, што ўцячы дазволяць, а проста на руках з турмы вынесуць. І вокам не маргнеш, як іх ужо няма.

— Дзе-ж гэтакія грошы ўзяць?—падсунуліся шчыльней хлопцы.

— Вось тут-та і закавыка!

— Значыцца, няма чаго і гадаць,—сказаў хтосьці ад расчараваньня.

— Як гэта няма?

Гарасімка аж галаву ўзьняў і калючымі вачыма ўпёрся ў таго, хто гэта сказаў.

— А па маёй думцы, трэба ўсялякія гутаркі пакінуць,— а гаварыць толькі пра гэта,—горача агляну ў ён усіх навокал.

— Дык-жа дарэмна...

— Як гэта дарэмна?

— Дзівак—чалавек! чаго языком малоць на вецер, калі грошай няма?

— А галава ёсьць? Мазгі ёсьць? Пакруці імі. На тое чалавеку і мазгі першага сорту дадзены, каб круціць імі, з усякіх труднасьцяй выйсьце знайсьці.

Гэтыя словы, як зярняты, запалі ў сьвядомасьць кожнага, і шмат хто падумаў, што Гарасімка гаворыць сапраўды верна.

Думка пра хабар для турэмнай адміністрацыі, гэраічныя малюнкі ўцяканьня, небясьпечны пераход праз мяжу, авантурная прывабнасьць посьпеху,—усё гэта вельмі падабалася, хвалявала, зачароўвала. Галоўнае-ж, што дзесяткі юных гарачых сэрцаў нібы перад сабою бачылі ўсю магчымасьць выкананьня пляну Гарасімкі, усе адразу неяк сталі адзін да другога, як ніколі, блізкімі і любымі.

На чацьверты дзень пасьля гэтай размовы ў нязвычайны час, поцемкам, прыбег з Лохвіцаў Косьцік Данчэнка. Выгляд ён меў забянтэжаны, узварушаны, быццам ён нёс у сабе нешта пякучае. Ён засопся, спацеў і, борзда мігаючы вачыма на ўсе бакі, зараз-жа адшукаў у парку Якіма.

— Дзіва, дружа! Вынаходка!—хапаючыся за руку Якіма, зашаптаў ён у самае вуха, каб ніхто ня чуў.—Ішоў я рана лесам, і раптам проста ў галаву стукнула, ледзь сэрца не захліпнулася, мы сапраўды можам грошы здабыць...

— Як?—уліп у яго вачыма Якім.

— Толькі ня сьмейся, будзь ласкаў, заўчэсьня.

— Ну?

Косьцік яшчэ цішэй зашаптаў і ўрыўчата ўздыхнуў:

— Трэба скарбаў шукаць.

— Што-о?..

— Скажаш, брахня? Казкі?.. Пачакай, не перабівай... Слухай... У нас даўно, з прадвеку размовы аб скарбах ходзяць. Аднаго разу Каваль Цітарэнка штук трыццаць залатых кацёлачак на гародзе знайшоў. А калісьці, кажуць, нейкі чалавек пачаў хаваць бацьку і вось у магіле на паўнюсенькі гаршчок з грашыма натрапіў. Гэта яшчэ пры Багдане Хмяльніцкім было... Мяне пасьля Гарасімкавых плянаў, як агнём пякло. Нягледзеўся я на раскопках у профэсара—і вось сягоньня ў лесе, разумееш... знайшоў...

— Скарбы?

— Не яшчэ. Ал-ле... Там павінны быць скарбы! Павінны!

— Нічога не разумею.

— Дык ты слухай. Іду я ля рэчкі, навокал сонца, птушкі, а галава, як у тумане: дзе-б грошы здабыць? Прыходжу неўзабаве пад грудок. Вельмі добра я яго ведаю, разоў тысячу бачыў, але неяк увагі не зьвяртаў, усё роўна як сьляпы. А тут гляджу—і рукі зьнямелі ад шчасьця: магіла! Ты разумееш, адразу здагадаўся, што гэта ня грудок, а насыпаная магіла. Ён толькі дрэвамі зарос, як шапку-нявідзімку адзеў: бо хто ведае, колькі гадоў мінула, як яго насыпалі...

— Няўжо магіла?..—запытаўся Якім, і голас яго міжвольна пераіначыўся ад хваляваньня.

— Я ўпэўнены.

— А калі не?..

— Давай у профэсара запытаем. Пакажам яму,—няхай агледзіць, скажа. Што ён скажа, тое і будзем рабіць: калі капаць—скажам хлопцам і раскапаем чысьценька, колькі сілы будзе, а калі... калі памыліўся я,—ну, тады нікому аніні, каб не сьмяяліся.

Было позна ўжо, калі Якім з Косьцікам Мораплаўцам дайшлі да вёскі і пастукалі ў дзьверы хаты, дзе жыў профэсар.

Якім увайшоў першы. У хаце было яшчэ цямней, як на вуліцы. Астатні водблеск гаснучай зары ледзь чырванеўся за чорным адчыненым вакном.

— А, дарагія юнакі,—узрадаваўся профэсар і падняўся з незаўважанай хлопцамі ў цемры лавы.—Заходзьце, заходзьце. Я ўжо адлятаю: зложыў свае рэчы і сяджу, люблю пастарэчаму вось так шэрай гадзінаю пасядзець. Сёньня астатняя ноч тут,—заўтра зраньня еду.

Якім, трохі хвалюючыся, але ўпэўнена расказаў пра магілу. Кастусь некалькі разоў у часе яго расказу ўстаўляў патрэбныя падрабязнасьці. Расказалі зьдзіўленаму профэсару і пра арышт таварышоў у Варшаве.

— І вось мы вельмі просім вас,—скончыў Якім:—адлажыць хоць на дзень свой ад'езд. Паглядзеце тае магілы: тут уся наша надзея.

Апавяданьне пра арышт узварушыла профэсара так, як-бы яму сказалі пра землятрасеньне ў суседняй вёсцы. Ён даў Косьціку некалькі запытаньняў, стараючыся высьніць сабе форму груда, якога палічылі хлопцы за магілу.

— Цікава...—перайшоў ён некалькі разоў з кута ў куток, напружана круцячы пасмы свае доўгай барады.—У акадэмічным сьпісу мясцовых магіл няма ніякіх пэўных паказаньняў аб гэтай магіле. А апрача таго, хто ведае, магчыма... О, тады гэта будзе надзвычайная вынаходка!. Зразумела, я

ня выеду, пакуль не даведаюся пра ваш таемны груд. І, калі гэта ён зможа паспрыяць таму, каб выратаваць вашых таварышоў, я ўсё далажу, але дапамагу вам у гэтай справе.

Умовіліся, што рана, гадзіне а пятай, усе ўтраіх пойдуць у лес, на бераг Данца.

У Косьціка ад пражытага хваляваньня круцілася і гарэла галава. Да хаты ён ужо не пайшоў: стаяла глыбокая начная цемра, мільгацелі пушністыя летнія зоры, палявая дарога раптоўна гублялася зараз-жа за вёскай,—лепш за ўсё было пераначаваць у лягеры.

Але спаць не хацелася ні Косьціку, ні Якіму. Лежачы ў палатках, сярод няўпыннага цырыканьня конікаў, якія звонка пераклікаліся па ўсім парку, яны да самага ранку гутарылі аб тым, што іх чакала заўтра.

---

РАЗЬДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

## ТАЯМНІЦА МАГІЛЫ

Толькі загарэўся ружовым золатам усход, толькі ўзышло над лесам сонца, як Якім, нібы яго хто штурхануў, зараз прачнуўся ад няяснай, салодкай дрымоты, якая млява абхапіла яго, закалыхала пасьля бяссоннай ночы.

— Косьцік! час...—таркануў ён Мораплаўца ў плячо.

Косьцік трывожна здрыгануўся, расплюшчыў вочы і зараз-жа, як на спрунжынах, усхапіўся на ногі.

— Так, так!.. Хадзем! Не праспалі?..—занепакоіўся ён, прыжмурыўся ад раньняй прахалоды і заклапочана працёр вочы.

Лягер яшчэ спаў глыбокім сном. Над палаткамі сьвежаю вільготнасьцю сінела неба, у парку звонка пераклікаліся птушкі, аднекуль здалёк далятаў працяжны сьпеў пеўняў, чулася спакойнае гаўканьне сабак і, як гукі нябачных труб, глуха даносілася з боку суседняга поля муканьне кароў і іржаньне коняй.

Косьцік з Якімам насьпех умыліся і бягом паляцелі ў вёску, да профэсара.

Профэсар быў ужо напагатове і толькі чакаў іх. У руцэ ён трымаў жалезны прут, компас, рулетку, рэйку і вялікі, у бліскучай жоўтай вокладцы, блёк-нот. Прут і рулетку панёс Якім, рэйку, патрэбную пры вымерах вышыні, узяў Косьцік.

— Мы, як сапраўдныя змоўнікі,—усьміхнуўся профэсар.

І сапраўды, уся дарога здавалася нейкай нязвычайнай, быццам яны з аднае краіны зьбіраліся перайсьці ў другую, поўную цудоўных, шмат надзейных абяцаньняў. Ішлі бадзёра, з напружаным чаканьнем. Проста ў вочы зіяла сонца. Абапал дарогі блішчала срэбрам ад вялікай расы трава. Над Данцом вісеў лёгкі белы туман. Туман паступова ўзьнімаўся ўгару і расплываўся там празрыстаю ракою, а пасьля і зусім зьнікаў. Лес за тым туманам здаваўся нязвычайна сінім, высокім і шчыльным, як сьцяна.

Каля млына, дзе шумела і падала вада з-пад калёс, перайшлі грэбляю на другі бераг і ўвайшлі ў лес. Навокал

быў дзіўны цянёк. Зьвінелі на розныя галасы птушкі, па верхавінах дрэў яскравымі, бліскучымі плямамі гуляла сонца.

— Дзе-ж?—нецярпліва запытаўся Якім.

— Яшчэ далёка. З вярсту. Вунь там...—Косьцік нявыразна махнуў рукой наперад.

Профэсар ішоў, увесь час вельмі ўважліва прыглядаючыся да мясцовасьці, быццам па нейкіх, яму аднаму вядомых, адзнаках хацеў даведацца пра яе даўнейшую гісторыю. Якім таксама аглядаўся на ўсе бакі, але нічога асаблівага не заўважыў... Выгляд лесу быў зусім звычайны.

Нарэшце, Косьцік раптоўна выбег наперад і, паказваючы пальцам, прамовіў:

— Вось!..

Профэсар павярнуў галаву, Якім кінуўся да Косьціка: сярод ясянёў, клёнаў і дубоў, шагоў за сто перад імі, узьнімаўся груд, які зарос кустамі і тонкімі белымі бярозкамі.

Горб груда быў падобны на вялікі, круглы, з крутымі спадамі, бохан хлеба.

Профэсар паправіў акуляры і памаленьку абышоў наўкола груда. Рухі яго набылі лёгкай выразнасьці, якая бывае ў паляўнічых, калі яны гоняць па сьляду зьвера. Раптам ён спыніўся і пачаў углядацца ў кусты лагчыны. Пасьля падышоў бліжэй да крутога спаду гарба і, нахіліўшыся да зямлі, борзда рассунуў густое гальлё, быццам шукаючы ў ім некага, хто там схаваўся.

— Гэта мне не падабаецца,—агледзеўся ён у бок хлопцаў.

Тыя з запытаньнем угледзеліся на тое месца, на якое паказаў профэсар.

— Лісава норка?—не зразумеў Косьцік.

— Не, горш.

На схіле гарба было досыць вялікае заглыбленьне, быццам хто ўдавіў туды край зямлі або зрабіў ямку.

— Можа я памыляюся, але лепш было-б, калі-б гэтай ямкі тут ня было,—сказаў профэсар і, нічога не паясьніўшы, не пастарэчаму борзда стаў узьнімацца на гару.

Зьверху груда быў далёка відаць абрыс лесу, які ўжо дзе-ні-дзе праняўся асеньняю жаўцізною. На захадзе, між дрэў, выглядалі сінія хвалі Данца, а за Данцом бязьмежнымі прасторамі разьбягаліся залатыя нівы палёў з нязьлічанымі мэндлямі снапоў. Але профэсар амаль што не глядзеў навокала,—усю ўвагу яго забрала дзіўная ямка, падобная на плоскі сподачак, на самым цем'і гарба.

— Гэта недарэмна...—сказаў ён, нібы сам да сябе, і паспрабаваў праткнуць у некалькіх месцах прут.

Прут ішоў у зямлю вельмі лёгка.

Якім і Косьцік рупліва і нецярпліва сачылі за кожным рухам профэсара. Кроў шумна білася ў скронях, дыханьне стала ўрыўчатым, сэрца трывожна замірала і ў аднаго і ў другога.

— Ну, сябры,—сказаў нарэшце профэсар, радасна паніжаючы голас да паўшопату.—Вы правы: гэта насыпана магіла. Мяркуючы па разьмеры, тут вялікі склеп. Калі тут пахаваны ваякі пасьля крывавай бойкі, дык, апрача костак забітых людзей і іх зброі, у магіле нічога няма. Калі-ж магіла насыпана над мірным склепам, дык на дне яе могуць быць дарагія вынаходкі: такія вялікія магілы часьцей насыпалі толькі над скляпамі цароў.



Раптам профэсар спыніўся і пачаў углядацца ў кусты лагчыны.

— Якія-ж вынаходкі?—аж загарэліся вочы Якіма.

— Могуць быць надзвычайна каштоўныя.

— Значыцца, капаць?—закрычаў Косьцік.

— Бясспрэчна,—цьвёрда сказаў профэсар.

Ён яшчэ раз паглядзеў на верх гарба, нэрвова працёр хусткаю акуляры і, закладаючы за вуха іх цёмныя рогавыя дужкі, дадаў:

— Тут вялікая адвага, але і вялікая надзея. Скажу вам проста: гэта магіла асаблівая,—ва ўсёй краіне такіх ёсьць толькі дзьве. А ў тых знойдзены вялікія каштоўнасьці...

Гэтыя словы, як крыльлі, якія падхапляюць ад зямлі, усхвалявалі Якіма і Косьціка. Яны ня чулі пад сабою ног, калі праз хвіліну лямалі з рулеткаю наўкола магілы, вымя-

раючы яе з усіх бакоў. Сьледам за імі з разгорнутым блёкнотам хадзіў профэсар, падрахоўваючы і накідаючы на пляне ня толькі агульныя разьмеры, але і самыя драбніцы. Праз поўгадзіны плян быў гатовы: магіла мела 11 мэтраў увышкі, 49 мэтраў па касагору—ад падножжа да верху—і 168 мэтраў наўкола. Яма, якая здалася профэсару западазронаю, была на схіле на процілежным баку ад рэчкі і вызначалася асабліва выразна.

— Цяпер трэба толькі падаць заяву ў лясьніцтва, каб з формальнага боку ня было ніякіх перашкод для таго, каб можна было высечы бярозы і праводзіць раскопку,—і будзем брацца за работу.

— Сягоньня-ж?—з запытаньнем зьвярнуўся Якім.

Профэсар падумаў.

— Магчыма, што і сёньня можна пачаць.

Якім з Косьцікам бягом кінуліся да лесу. У парку толькі што прагучэў ранішні кліч, толькі што ўзьвіўся над лягерам чырвоным птахам сьцяг. Захліпаючыся ад неспадзяванай радасьці, засопшыся ад борздай беганіны, перабіваючы адзін другога, яны расказвалі пра магілы, пра тое, што казаў профэсар.

Нязвычайнае ажыўленьне ўскалыхнула лягер, быццам пранёсься над галовамі моцны, нячуваны вецер, ад подыху якога ніхто ня мог застацца спакойным і абыякім да справы.

Кузьмішчаў зараз-жа загадаў склікаць на сход і сам, як камандуючы арміяй перад цяжкім штурмам крэпасьці, зажадаў, каб атрад бясспрэчна слухаўся яго і строга захоўваў у сабе таямніцу з магілай да сканчэньня працы.

— Калі заўчэсьня разыйдзецца вестка пра нейкія выкапаныя скарбы, могуць знайсьціся бандыты, якія наскочаць на нас і абрабуюць. Тады нашы хлопцы будуць сядзець у польскіх вязьнях нямаведама колькі часу. А таму—не балбатаць падурному, не званіць дарэмна, а трымаць язык за зубамі. Зразумелі?

— Дакляруем маўчаць!..—урачыста ўзьляцелі ўверх наэлектрызаваныя энтузыязмам рукі.

Кузьмішчаў адамкнуў сваю гаспадарскую клуню, выдаў з запасаў былога графа 50 рыдлёвак, дадаў да іх 4 ламы і 8 сякераў і наказаў ня бавіцца са сваімі справамі.

— Ды мы ўраз! Ці доўга нам трэба пашамаць?

— Раз, два—і гатова.

Насьпех пасьнедаўшы, атрад узяў на плечы сваю „зброю“ і выступіў у паход. Усе жадалі нецярпліва баржджэй убачыць гэту цікавую магілу, аж рваліся, каб зараз-жа пачаць раскопкі, заднія рады насядалі на пярэдніх, сьпяшаліся, хваляваліся і былі пераканаты ў тым, што іх чакае нязвычайны

зусім асаблівы і надзейны посьпех. І што бліжэй падыходзілі да месца, тым глыбей і цямней станавіліся ад зацікаўленасьці і чаканьня дзесяткі напружана-ўтопленых у прастору вачэй.

— Дык вось ён які...—з пашанаю закрычала Кацярына, калі сярод лесу адчыніўся круглы каравай вялічэзнага насыпу.

— Здароў, дзядзечка! А ты нішто-б сабе...

— Давядзецца папрэць, як сьлед,—весела і бадзёра абазвалася некалькі задорных галасоў.

Янку Шышкінага, якога празвалі самаробным Рабінзонам, аж страх узяў, і ён нерашуча адгукнуўся:

— Не дамо мы яму рады... Не раскапаем... Дзе-ж гэтакага волата падужаць?

— Што-о?..—напалі на яго хлопцы.—Не раскапаеш? Страху паддаеш! Глядзі, браце, адашлем цябе дахаты,— будзеш сядзець на печы, з кацянятамі забаўляцца.

— Ды я так... Я нічога...—зашаптаў прыніжаным голасам зьбіты з панталыку Янка.—Я толькі дзіўлюся—вялікі вельмі ўжо. Ад раскопкі хіба я адмаўляюся? Наадварот, нават...

— Ну, то-то-ж.

Магіла стаяла ціха і паважна, усім сваім цяжарам усядаючы ў зямлю. У яе мяккіх, круглых абрысах была хмурая пакорлівасьць, быццам ведала яна, якая доля яе чакае.

Прышоў профэсар са сваім памочнікам Васілём Іванавічам.

— Усё ў парадку,—з дабрадушнаю ўсьмешкаю сказаў ён.—Да лясьніцтва паслана заява, а сельсавет папярэджаны, што ваш атрад чыста з навуковаю і вучэбнаю мэтаю будзе рабіць раскопку гэтай, як яе называюць у вёсцы—„Уявінскай Горкі".

Васіль Іванавіч растлумачыў, што пакуль магілу не абчысьцяць ад бяроз і кустоў, раскопкі пачынаць нельга.

Атрад тут-жа вылучыў некалькі чалавек лесарубаў, і работа закіпела. Зазьвінелі сякеры, паляцелі белымі лёгкімі пырскамі трэскі, застагналі, валячыся на зямлю, дрэвы.

— З высечаных галін і лапак раю зараз-жа рабіць будкі,—сказаў профэсар.—Ды каб мацнейшыя былі і дажджу не баяліся! Майце на ўвазе, што тут прыдзецца паставіць добрую варту. Стаўце 4 будкі—па краінах сьвету: з поўначы, з усходу, з захаду і з поўдня. Калі будуць 4 будкі, уначы будзе весялей, а калі раскладзеце багацьце, дык відней пільнаваць будзе, каб не падкраліся якія-небудзь зладзеі.

Пад канец дня на магіле ўсё было высечана. Зьверху да паловы касагору пасьпелі нават пазразаць дзёран. А з

чатырох бакоў вырасьлі прасторныя шчыльна пераплеценыя гальлём будкі для варты.

Пад вечар прышоў Гарасімка і, жартоўна зьвяртаючыся да магілы, падмаргнуў:

— Ну, дзядуля,—не асарамаціся! Будзь нам верным, дапамажы вызваліць таварышоў...

Рана на другі дзень пачаліся раскопкі. Каб нічога не прапусьціць, капалі ўсе разам, разьмясьціўшыся ў шырокі круг, скопвалі магілу шар за шарам ад самага верху. Частка хлопцаў капалі рыдлёўкамі, частка-ж на зробленых сьпешна насілках борзда зносіла зямлю ўніз на палянку, — гэта для таго, каб раскапаная ўнутраная частка магілы не магла засыпацца пасьля зноў.



Рана пачаліся раскопкі.

Працавалі вельмі асьцярожна, прыглядаючыся да кожнай грудкі выкінутай зямлі. Пракапаўшы на адзін штых, выраўнівалі паверхню, абчышчалі яе, каб ясьней бачыць, ці няма якіх-небудзь рэчаў. Васіль Іванавіч рабіў адпаведныя занатоўкі ў асобным сшытку, які называўся дзеньнікам раскопак, і толькі тады браліся капаць далей.

Спачатку нічога не траплялася. Зямля была цьвёрдай, сухой, уся аднолькава чорнай. Пасьля яна стала трохі вільгатнейшай, і работа пайшла лягчэй. Неўзабаве сярод чор-

най зямлі пачалі пападацца кавалкі жоўтай гліны, якая на берагох Данца складала цэлы пласт пад грунтам. Гэта ўжо цалкам падцьвердзіла думку профэсара, што магіла ня прыроднага, а штучнага пахаджэньня. Ясна было, што сотні гадоў таму, у часе капаньня магілы, дабраліся да жоўтай гліны, якая і папала пасьля ў насып.

Гэтак было пракапана больш мэтру ўглыбкі.

Хлопцы замарыліся, спацелі, увагрэліся.

— Няўжо ня будзе нічога?—турбавалася Таццяна.—Капаем, здаецца, вельмі сумленна,—а хоць-бы на сьмех што!

— Вельмі магчыма, што і на дне нічога ня будзе...—нясьмела паглядзеў ёй у вочы самаробны Рабінзон.

— Змарыліся?—засьмяяўся профэсар.—Пачакайце. Майце цярплівасьць. Па нейчаму загаду ў адзін міг нічога ня робіцца.

Калі пасьля абедзеннага перапынку зьнялі яшчэ адзін штых зямлі і выраўнялі паверхню, профэсар узяў сталёвы прут і пачаў асьцярожна забіваць яго ў розных месцах у зямлю. Прут лёгка праходзіў у глыбкі амаль што не на поўмэтра. І раптам з паўночнага боку магілы гостры канец сталёвага прута ўпёрся ў нешта цьвёрдае. Профэсар спыніўся і, наколькі дазваляў грунт, зьлёгку пастукаў,—пачуўся глухі таямнічны, але добра знаёмы археолёгам гук.

— Костка, сябры! Костка!.. Наша бярэ!..—закрычаў радасна стары.

Васіль Іванавіч хутка глянуў на гадзіньнік і зрабіў у дзеньніку адзнаку пра гэты ўрачысты момант.

Ужо вечарэла, сонца пылала стомленым жоўта-гарачым сьвятлом, час быў варочацца назад у лягер, але ніхто не хацеў ісьці. Костка цікавіла і прываблівала ўвагу, утварала найфантастычныя меркаваньні.

— Папрацуем, хлопцы! Капай да перамогі!—крыкнуў нехта рашуча.

— Не, досыць. Адложым далейшую працу да раньня,—запротэставаў профэсар,—а то так за адзін вечар і ўвярэдзіцца можна.

Кінулі жарабёўку, каму стаць першую ноч на варту. Вартавыя ў момант назьбіралі гальля і разлажылі агонь, а атрад з песьнямі пашоў у лягер. Уначы ўсе адчулі, што за дзень яны сапраўды такі парастараліся: усім ім балелі рукі, нылі з няпрывычкі плечы і горача стукала ў жылах натруджаная, стомленая за дзень кроў. Але сон, быццам мяккім крылом, закрыў і прыпыніў гэту боль.

Толькі што ўзышло сонца, як зноў усхадзіліся капаць. Кузьмішчаў даў загад, каб абед прывезьлі ў чыгунох проста ў лес: гэта давала магчымасьць не адрывацца сярод дня ад

рупнае працы. Там, дзе ўчора сталёвы прут натрапіў на костку, адкапалі чалавечы чэрап. Сьледам за чэрапам зараз-жа знайшлі і касьцяк. Васіль Іванавіч адзначыў у сябя разьмяшчэньне касьцяка,—і рыдлёўкі жвава і заўзята ўразаліся далей. Пасярод магілы паказаліся дробныя костачкі, відавочна птушыныя. Профэсар уважна агледзеў іх і асьцярожна палажыў набок.

— Лавецкія арлы,—сказаў ён з выглядам чалавека, які ўмее лёгка і проста расчыняць найбольшыя таямніцы раскапанай старасьветчыны.

— З даўных часоў, калі зброя была прымітыўнай, лоўля адбывалася найчасьцей пры дапамозе спэцыяльна вымуштраваных стэпавых арлоў. Такія арлы падляталі і білі ня толькі дзічыну і зайцаў, але нават лісіц і ваўкоў

Неўзабаве пачалі трапляцца чарапы ад глінянай пасуды, бронзавыя гузікі, званочкі з конскіх вобруцяй, залезныя цуглі.

Пасьля ў цэнтры насыпу знайшлі вялікую кучу конскіх і людзкіх касьцякоў, вугольля, попелу, напалову спарахнелыя, р"чавыя часткі цяжкіх, вельмі тоўстых калёс.

На адным касьцяку была залезная луска, але так належана, што можна было думаць, ці не нашыта яна на нейкую моцную і разам з тым гнуткую скуру. Гэта луска зрабіла на профэсара наймацнейшае ўражаньне.

— Вось глядзеце,—зьвярнуўся ён да піонэраў,—здаецца, простая рэч. А тымчасам яна адразу гаворыць пра тое, з якою эпохаю мы маем справу. Такі панцыр, у якім луска нашыта на скуру, сьведчыць аб тым, што перад намі склеп скітаў. Славяне такіх панцыраў ня ўжывалі, а насілі панцыры, зробленыя з залеза. Што-ж гэта за куча костак? Ля іх няма ніякіх каштоўнасьцяй. Усяго толькі некалькі гліняных чарапоў, бронзавыя гузікі і цуглі. І ўсе падобныя адзін на аднаго! Васіль Іванавіч налічыў пяцьдзесят людзкіх чарапоў і гэтулькі-ж конскіх... Гэта ўлюблёныя слугі і ўлюблёныя коні нейкага скіцкага цара або значнага вайсковага правадыра, які ляжыць у глыбіне пад імі. У скітаў быў звычай: калі паміраў цар, яны набальзамоўвалі яго цела і на працягу сарака дзён вазілі сярод падуладных яму пляменьняў і народаў. Падначаленыя, каб даказаць тое, што яны смуткуюць, адразалі сабе часткі вушэй, разьдзіралі скуру на чале, рабілі надрэзы на ноздрах, падстрыгалі валасы. Калі міналі сорак дзён разьездаў, мерцьвяка падвозілі да выкапанага глыбока ў зямлі склепа, урачыста хавалі, прыводзілі туды адну з жонак цара, кухара, стаеннага, найбліжэйшага слугу, вястуна і, нарэшце, верхавых коняй,—усіх іх душылі

і хавалі навакол царскага склепа. Пасьля насыпалі высокую магілу.

— Вось жывалупы! — неяк міжвольна вырвалася ў Тацяны.

— Мінаў год і тады адбываліся шматлюдныя памінкі па цару, гэтак званая трызна,—казаў далей профэсар.— Для гэтага выбіралі як мага больш слуг нябожчыка, бралі гэтулькі-ж коняй, душылі тых і другіх і хавалі на ўзгорку магілы. Ламалі тую павозку, на якой вазілі труп цара, і таксама закапвалі ў магілу. Зьверху-ж насыпалі новы тоўсты шар зямлі... Мы вось якраз і знайшлі страшныя сьляды гэтай дзікай трызны. Трэба спадзявацца, што знойдзем і цара, у пашану якога задушана гэтулькі людзей.

— Цяпер то ўжо нідзе не падзенецца,—засьмяяўся Кузьмішчаў, выціраючы з ілба пот.

— Не ўцячэ!..

— Мы яму рэбры палічым,—жартаваў хтосьці з задніх радоў і тут-жа, усьміхнуўшыся, дадаў:—калі яшчэ не перагнілі...

Знойдзеныя чарапы, косткі, гузікі, чарапы ад глінянай пасуды і цуглі вобрацяй палажылі ў знарочастых скрынках, якія, па заказу профэсара, зрабіў вясковы сталяр. Дзьверцы скрынак, векі пазабівалі цьвікамі і паставілі ўсё гэта ў аднэй вялікай будцы.

— І на якое ліха такое барахло патрэбна!..—дзівіўся пра сябе сталяр.—Ох, ня чыстая тут справа, няхай я прападу на месцы, ня чыстая!..

Раскопку, пасьля вынаходкі сьлядоў трызны, рабілі яшчэ больш заўзята. Хлопцы намагаліся з усіх сіл, каб хутчэй дакапацца да царскай магілы і заўладаць тымі скарбамі, аб існаваньні якіх яны ўжо былі ўпэўненымі. Кузьмішчаў заўважыў недаверліва-хітрыя сталяровы погляды і нейкую западазроную постаць, якая прайшла рана праз лес; у яго зьявілася сумненьне, ці можна далей аставацца тут атрадуаднаму без надзейнай абароны, і ён паслаў Лаўрухіну на завод тэлеграму... У тэлеграме ён прасіў яго ўзяць водпуск і прыехаць у лягер па „нязвычайна важнай, пільнай справе". Ён спадзяваўся, што Лаўрухін будзе жыць у аднэй з будак, дабудзе стрэльбу і будзе спадзейным абаронцам іх раскопак.

Неяк аднаго разу на варту, якая станавілася ўжо па прызначэньню, а не па жарабёўцы, папалі сярод іншых і Якім з Кастусём,

— Эх, Гарасімку-б нам!—падумаў сабе Якім.

— Так, хлопец ня дрэнны.

— А апавядаць штукар які, як байкар. На ўсю ноч было-б што слухаць...

Паселі ў будцы з касьцякамі. Было трохі страшнавата ад такога суседзтва, але справа вымагала быць сьмелым і мужлівым. Разьмясьцілі перад уваходам багацьце. За магілаю і па бакох яе гарэла яшчэ тры вогнішчы. Ноч ад гэтага здавалася непараўнальна чорнаю. Раскапаная да паловы магіла, як разьбітая знарадамі паганская бажніца, стаяла страшнаю, таемнаю грудаю.

Наўкола сумна чарнелі сьвежыя земляныя насыпы, і Якіму стала ўсьцішна, калі ён уявіў, як над гэтаю вялікаю магілаю шмат вякоў таму назад, можа вось там-жа пры сьвеце агнёў адбывалася трызна, як біліся ахопленыя перад сьмяртэльным жахам ні ў чым невінаватыя слугі, а іх душылі над магілаю спарахнелага цара, як хрэплі і ў корчаньні кідаліся стэповыя скакуны, калі іх гордыя шыі зацягваліся петлямі-арканамі, як гара конскіх і людзкіх трупаў расла над магілаю і як бясконца доўга цягнулася тады ноч.

Назаўтра рана прыехаў Лаўрухін, і з яго прыездам усе пачалі сябе адчуваць сьмялей.

У напружанай працы прайшло яшчэ некалькі дзён. Ня было ніводнага піонэра без мазольных пухіроў на руках.

Тацяна і Кацярына панамульвалі сабе рукі да крыві, але пазавязвалі іх хустачкамі і так працавалі далей, не адстаючы ад іншых. Нават Янка Шышкін працаваў да поту і пакорліва маўчаў, не зважаючы на тое, што цела ад капаньня ныла, як пабітае.

Гарасімка выпрасіўся ў свайго гаспадара на дзесяць дзён, абяцаючы адслужыць яму за гэта цэлы месяц. Ён працаваў з нейкім азьвярэньнем і быццам зусім не адчуваў утомы. Шчокі яго паўпадалі, пахуднялі і толькі гострыя прашнарлівыя шэра-зялёныя вочы ўвесь час гарэлі ўпартым агнём.

— Грош нам цана, калі мы хлопцаў ня вызвалім,—казаў ён, націскаючы на рыдлёўку, якая ў яго ўмелых руках рэзала зямлю, як машына.

Пад канец тыдню ўся магіла была скапана аж да асновы зямлі.

Наўкола таго месца, дзе стаяла магіла, было насыпана шырокае кола чорнай мяккай зямлі, перамешанай з глінаю. І калі зраўналі пляцоўку, дык ясна адзначыліся абрысы склепа, які ішоў яшчэ далей углыбкі. Хлопцы радаваліся.

Але профэсар зусім неспадзявана пачаў вельмі непакоіцца... Яго сівыя брові нахмураліся, вочы неспакойна звузіліся і быццам схаваліся пад акулярамі. Гэта не абышлося незаўважаным Якімам.

— Вам нездаровіцца?—клапатліва запытаўся ён у профэсара.—Калі што трэба, скажэце—мы ўсё для вас зробім.

Ахоплены жаласьлівасьцю ад гэтай цёплай і шчырай спагады, профэсар нерашуча паправіў акуляры, пасьля са смуткам махнуў рукою і пабацькаўскаму проста сказаў:

— Не, мілы, дзякую! Я здаровы. А вось з нашай справай, здаецца, нешта не зусім добра...

Якім уздрыгануўся. А профэсар многазначна дадаў:

— Так, так...

З усіх бакоў згрудзіліся піонэры.

— Памятаеце ту ю яму падлагчынаю, на якую я паказваў? Вось яна. Глядзеце ўважна. Нічога ня бачыце?..

Дзесяткі вачэй, як іголкі, пільна ўпяліся ў зямлю...

І нічога не разумеючы, усе завярнуліся ў бок профэсара: ад ямы няясным сьляпым сьледам вызначаліся ўрыўкі засыпанага раўчака, які быў падобен на вельмі шырокую нару крата. Нара ўваходзіла ў сярэдзіну магілы і траўлялася ў яе глыбіні.

— Што гэта?—з трывогай узбурыліся напалоханыя хлопцы.

— Падкоп.

— Яшчэ-б што?—ахнула і акамянела ад неспадзеўкі Кацярына.

— Вельмі проста. Знайшліся нейкія малайцы, якія хацелі папрабаваць шчасьця і пралезьці за скарбамі да самага магільнага склепа. Наогул скіцкія магілы з даўных часоў раз-у-раз прыцягвалі да сябе ўвагу ўсялякіх шукальнікаў лёгкай нажывы. Шмат з іх разграбавана яшчэ з даўных часоў.

— Дык што-ж... Усё прапала?—з дрыжэньнем у голасе запыталася Таццяна.

— Няўжо мы дарэмна мучыліся?—з паніжаным тонам у голасе, з адчаем агледзеліся ў бок профэсара.

— Хто ведае... Падкоп—справа цёмная...—панура прамовіў той, стараючыся хоць чым-небудзь іх супакоіць.—Мы, капаючы зямлю, вядзем пэўную гульню. Ад нас нішто не схаваецца. Яны-ж капаліся, як сьляпыя. Выпадкова толькі маглі натрапіць на склеп цара. Але маглі і абмінуць яго.

— Тады капайма далей!—цьвёрда заявіў Гарасімка.— Час не чакае. Пракапайма яшчэ глыбей. Тут трэба справу паставіць на астатнюю карту: ці наша біта, ці іх крыта!

Пачаліся цяжкія, хмурныя дні. Капалі панура, з нейкім абурэньнем і злосьцю на тых невядомых старажытных, што капаліся ў гэтай магіле. Ня чутно было ні рогату, ні вясёлых бесклапотных гутарак. Уначы пастарому раскладалі вогнішча,—ад вячэрняй зары да сьвітаньня,—і начная варта была падобнай на вайсковы стан перад астатнім рукапашным боем.

— Ня бойцеся, хлопцы, не паддавайцеся!—Пакрыкваў дабрадушна Лаўрухін.—Яшчэ невядома, чыя возьме.

— Наша возьме!—упэўнена бліскаў вачыма Гарасімка.

Раскапанае кола звузілася: раскопвалі толькі тую частку, якую займала сама магіла.

І на адзінаццаты дзень у асяродку магілы, на глыбіні на чатыры з паловай мэтры над паверхняй зямлі, урэшце выкрылі труну, складзеную з вялікіх каменных пліт. Яна мела форму трапэцыі: на шэсьць мэтраў удаўжкі, на пяць увышкі і на чатыры мэтры між асновамі. Гарачкавае хваляваньне ахапіла атрад. Кожную грудку выкапанай зямлі разглядалі з вялікай увагай, быццам з кожнае яе маглі блісnуць залатыя самародкі.

Нарэшце, знайшлі адзнакі ложа. Ля яго ляжалі раскіданыя напалову спарахнелыя косткі людзкога касьцяка.

Профэсар зьбялеў, як палатно. Ногі яго анямелі, вочы расшырыліся.

— Паграбавана...—хрыпла вымавіў ён і вяла апусьціўся на першы камень, які папаўся на вочы.

Васіль Іванавіч камячыў скорчанымі рукамі тоўсты сшытак дзеньніка раскопак. Хлопцы маўчалі, як прыбітыя. Такое непакойлівае маўчаньне ахапляе людзей толькі ў той момант, калі на іх вачох здарыцца сьмерць.

Сярод гэтай цішыні з далёкага краю магілы пачулася горкае, няспыннае ўсхліпваньне. У Якіма сэрца стукала цяжкімі ўдарамі. Ён, як у тумане, узьняў вочы: зачыніўшы вочы рукамі і адвярнуўшыся ў куток, плакала Тацяна,—плакала ад крыўды, безнадзейнасьці, ад страты апошняй крыніцы, якая-б адратавала арыштаваных.

— А гэта што?.. Вось тут?.. Вось?..—зьнячэўку вылецеў голас, які зьвінеў і захліпаўся.

Гэта крычаў Гарасімка, учапіўшыся за нешта цяжкое каля ўсходняе сьцяны.

Профэсар міжвольна ўзьняў галаву. Устрапянуўся. Замёр. І раптам борзда падскочыў: напружваючыся з усёй сілы, Гарасімка адвальваў уціснутую ў сьцяну каменную пліту, а за плітою відаць быў калідор, які вёў некуды ў глыб падзямельля.

---

## РАЗЬДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

# У КАЗЯМАЦЕ ЦЫТАДЭЛІ

Крывава ўзышло сонца над Варшавай тае раніцы, калі пасьля арышту Васіль Аўдзееў прачнуўся ў цёмнай каморы вязьні. Камора зьмяшчалася ў вільготнай, цёмнай нары. Праз краты прыціснутага стольлю вакна было відаць ранішняе неба, залітае трывожым агнём усходу. Агонь гэты быў цьмяна-ружовы і каламутны, які нібы прадказваў надыходзячыя страшэнныя бойкі, што спустошваючым ветрам пранясуцца над палацамі мінулых каралёў і магнатаў.

Усьлед за Васілём прачнуўся Козыраў, пасьля Алесь Шыла і, нарэшце, усе іншыя.

Учора ўвечары ў цемры, стоячы пад дзьвярыма, Стась Зялінскі чуў, як у калідоры вёў гутарку той афіцэр, які рабіў допыт, з нейкім чалавекам, і той чалавек з павагаю аб нечым у яго распытваў.

— Нічога. Разблытаем. Вузьлік у руках маем надзейны,— задаволена сказаў знаёмы вяльможны голас.

А другі, хрыплівы і сіпаты ад гарэлкі, зараз-жа запытаўся:

— У якую турму загадана іх перавезьці,—у Макатоўскую ці ў Павіяцкую?

— Ні ў тую, ні ў другую.

— Тут трымаць?

— Не. Заўтра пасьля допыту накіраваць у цытадэль (крэпасьць).

— Разумею...—з захапленьнем і падначаленай далікатнасьцю вымавіў сіпаты голас.

І ўсё сьціхла. Толькі грукат дзьвёх пар ног няясна загубіўся ў далячыні калідору.

— Вось ліхадзеі, што выдумалі...—абурана сьціснуў кулакі Козыраў, калі Стась пераказаў яму пра тое, што пачуў у калідоры.

Абое яны ведалі з прачытаных кніжак, што Варшаўскую цытадэль збудаваў люты цар Мікалай Першы на тым месцы, дзе былі муры старажытнай фортэцы, што перад

сусьветнаю вайною там, у славутым дзесятым павільёне, мучылася не адна сотня расійскіх ды польскіх рэволюцыянэраў, што гэта быў нязвычайна моцны каменны мяшок, адкуль людзі выходзілі толькі або на катаргу або на шыбеніцу.

Увесь дзень прайшоў у несупакойным, цяжкім спадзяваньні. Мучыла невядомасьць: што будзе далей. Няўжо сапраўды будуць судзіць? Няўжо так ня скончыцца гэта здарэньне, якое нагадвае сабою дзікі сон?

Васіль Аўдзееў, больш за ўсіх верыў у тое, што вызваляць без усялякага суда.

— Няўжо яны не разумеюць, што нас дарэмна арыштавалі?

Але Козыраў з вялікім сумненьнем адносіўся да абнадзейваючых думак і размоваў:

— Хто іх, чарцей, ведае, што ў іх у галаве...

Перад вечарам паклікалі на допыт Лявона Штэйнбэрга. Румяны, тоўсташчокі паручык, выблісківаючы шклечкамі моднага чатырохкутнага пэнснэ, зьняважліва агляну ў яго з галавы да пят і злосна прыкусіў ніжнюю губу:

— Бальшавік?

Лявон з спакойнай цьвёрдасьцю адказаў:

— Бальшавік.

— Партыец?..

— Не, пакуль яшчэ комсамолец.

— Чаго табе трэба ў Польшчы? Чаго ты сюды прыехаў?

Чорныя Лявонавы вочы гостра заблішчалі:

— Прашу гаварыць са мной на „вы“. Бо іначай я ня буду вам нічога адказваць.

— Вось як?

— Так.

Паручык дзіка прыжмурыўся, адным махам паправіў пэнснэ і сумысьля задзірліва, быццам хочучы ўкалоць, працяжна запытаўся:

— Ты што-ж, правaжаты сярод сваіх прыяцеляў?

Лявон моўчкі выпрастаўся.

— Ня чуеш?

Лявонавы вочы проста з пагардай глядзелі ў злосныя чатырохкутныя шклечкі.

— Я пытаюся!—падкінуў уверх паручык падбародзьдзе і пад ім, на каўнярах, як абскубаныя гусакі, паказаліся два польскія арлы. — Ну?

Лявон маўчаў.

— Папераджаю: маўчанка да дабра не давядзе. Дзе вы дасталі ўзрыўныя матар'ялы? Раю прызнацца, бо іначай

памілаваньня ня будзе. Хто кіраваў гэтаю справаю? Хто стаяў на чале змовы?

Але колькі пытаньняў паручык не даваў, ні на адно з іх Лявон не адказаў.

Просты, суровы, поўны пачуцьця свае вартасьці, ён сьмела стаяў перад выглянцаваным нязграбна апранутым у фрэнчы афіцэрам.

— Ну, пачакай!—з пагрозай стукнуў афіцэр кулаком па стале.—Я табе пакажу, як у маўчанку гуляць!



— Я пытаюся!—падкінуў уверх паручык, падбародзьдзе.

І, адвярнуўшыся ў бок, ён крыкнуў на вартавога жандара:

— Адвесьці!

Пасьля выклікалі па чарзе і іншых.

Паручык зьмяніў тон і паязуіцку мяккім, ласкавым галасам даваў шмат зусім неспадзяваных запытаньняў, спадзяючыся злавіць на раптоўным, неабмеркаваным адказе. Але таму, што хлопцы ніякай віны ня мелі, з усіх хітрыкаў сьледчага нічога ня выходзіла. Паручык злаваўся ўсё болей і болей.

Сярод начы ў камору ўвалілася шэсьць чалавек здаравенных жандараў.

— Рукі за сьпіну!—загадаў старэйшы з іх.

На бярэмі яго памочніка зазьвінелі ланцугі ручных кайданаў...

— Няўжо ня сорамна?—абурана запытаўся Козыраў.

— Не разгаварваць!

Хлопцаў, як грабежнікаў, раптоўна закавалі і вывелі на двор.

Была цёмная ветраная ноч. Пад'ехала чорная нязграбная карэта, над перадком якой узьвіваўся клубок смольнага агню. Вецер разьвейваў і рваў чаднае полымя, як жалобны сьцяг. Ад гэтага і ноч, і людзі, і коні здаваліся нястрывана страшнымі, злавеснымі.

У Козырава раптоўна прамільганула думка: „Пэўна ў гэтай карэце адвезьлі не адзін дзесятак засуджаных на сьмерць"...

Глухая сярэдзіна чорнай клеткі дыхнула на яго сьмяртэльным жахам. У карэце ня было ніводнага ваконца. Густы змрок, нібы чутны пад рукамі, напаўняў яе ўсю. Хлопцаў сілаю шпурнулі туды, як пазьвязваных бараноў.

— Куды нас павязуць?—крыкнуў Лявон.

— Маўчаць!—палахліва абарваў яго запытаньне адзін з жандараў.

Коні паляцелі і карэта цяжка пакацілася. Ехалі вельмі доўга. Шмат разоў заварачвалі то направа, то налева.

Старыя рысоры гулі бесьперапынным гудам. На выбоінах і раўчаках неміласэрдна трэсла і падкідала. Ад горкае крыўды, няпрыемнай язды і галоднага дня некаторых пачало ванітаваць.

— У галаве круціцца,—першы скардзіўся Стась.

— І ў мяне,—нябачным водгукам адказаў Максім Бурчак.

Нарэшце, карэта спынілася. Нехта саскочыў з перадка. Дзвынкнула вісячая калодка, адкінулася залезная накладка—і дзьверцы расчыніліся.

— Выходзь!—матнуў галавою жандар.

З цемры перад карэтаю выступалі вялізарныя муры фортэцы. За мурамі ў розных мясцох гарэлі на высокіх слупах электрычныя ліхтары. Навакол фортэцы, як вужака, выгінаўся шырокі роў, поўны цёмнае вады. Стаяла цяжкая страшная цішыня—і толькі здалёк, з боку горада даляталі нявыразныя, ледзь чутныя выгукі людзей.

Ад брамы асьцярожна адлучылася постаць вартавога з карабінам на плячох. Ён падышоў да рова і аб нечым запытаўся. Адзін з жандараў адказаў таксама нешта назразумелае—напэўна, паздароваўся. Вартаўнік адвярнуўся да брамы, памацаў рукою па сьцяне, націснуў гузік званка—і хвіліны праз дзьве аднекуль выскачыла куча жаўнераў. Мост над ровам пачаў спускацца. Цяжкая брама павольна адчынялася і хлопцы ўвайшлі ў страшную прастору, якая пачыналася за тоўстымі каменнымі мурамі. У сярэдзіне цытадэльнай ага-

рожы выразаліся маўклівыя горы будынкаў; дзе-ні-дзе вызначаліся сумныя постаці вартаўнікоў.

— Куды?—закрычаў адзін з іх.

— У дзесяты,—адказалі жандары.

Паміж будынкаў былі нейкія пустыры, руіны, ямы... З правага боку цягнула халоднаю рэчнаю вільготнасьцю: з таго боку, адкуль прыехалі, была шырокая празрыстая прагаліна, як жоўта-белая істужка, якая ўначы заўсёды стаіць над вялікімі гарадамі.

Ісьці з завязанымі рукамі за сьпіною было цяжка. Алесь у цемры кожную хвіліну спатыкаўся і ад абразы і перапалоху гатовы быў вось-вось заплакаць. Козыраў і Лявон ішлі, сьціснуўшы зубы, і злосна глядзелі ў патыліцу жандару, які ішоў наперадзе іх. Стась, Максім Бурчак і Хведарка Качура, спусьціўшы вочы ўніз, ішлі ззаду ад усіх. Але вось у самым канцы будынкаў цытадэлі вырас перад імі дзесяты павільён. Чырвоназаводцаў завялі ў вялізную канцылярыю. Яна выглядала, як трупярня, цёмна асьветленая слабаю электрычнаю лямпачкаю, якая зьвісала з пахмурай каменнай столі.

Вартавы, які быў чымсьці падобны на портрэты маршалка Пілсудзкага, разгарнуў брудную, запэцканую кнігу і пачаў запісваць туды прыведзеных.

— Ого!—узьняў ён залітыя ад сытасьці вочы на закутых у кайданы піонэраў, калі азнаёміўся з паперай, якая далучалася для ведама адміністрацыі:—Добрыя птушкі! З гэткіх гадоў і ўжо ўзрывы рыхтуюць.

— „Сам ты птушка“,—вылаяўся ў думках Алесь і зьняважліва шмаргануў носам,

Адзін з вартаўнікоў нахіліўся да вуха дяглядальніка і нешта патаемнае зашаптаў. Даглядальнік з абуранай западозранасьцю завярнуў свае вочы ў бок Лявона.

— Гэты?

— Так,—моргнуў жандар.

— Разумею.

— Пан Дулемба,—казаў далей у поўголаса вартаўнік,— скажэце аб гэтым таксама палкоўніку Вяржбіцкаму...

— Добра.

Дулемба памаршальску з стукам зачыніў кнігу і сказаў жандарам:

— Зьнімеце з іх гэтыя прыкрасы: адгэтуль ужо не ўцякуць. Тут, як у пана-бога.

Жандары зьнялі з Чырвоназаводцаў жалезныя ручныя кайданы.

— Ну, дынамітныя гэроі,—з пагардай пакруціў Дулемба свае доўгія рудыя, вусы,—хадзем!



Пад'ехала чорная нязграбная карэта.

І быццам заганяючы, махнуў рукой на доўгі калідор.

У шырокім, напалову цёмным калідоры падлога была выбрукавана чырвонаю цэглаю, як у хляве. За доўгія дзесяцігодзьдзі цэгла выцерлася, выбілася ад тысяч ног і парабілася на ямкі. Тут хадзілі ўзад і ўперад два вартаўнікі. Іх падкаваныя ногі моцна грукалі пад панурым скляпеньнем. Дулемба спыніўся каля аднэй каморы, адамкнуў цяжкія дубовыя дзьверы і штурхануў туды Чырвоназаводцаў.

— Да заўтра,—многазначна прамармытаў ён.—А там пабачым.

Пачуцьце адарванасьці ад сьвету, прыгнечанасьць і адчай ахапілі хлопцаў, калі, жудасна грукнуўшы, зачыніліся



Рабочага білі ручкамі рэвальвэраў па галаве.

дзьверы, і яны засталіся ў бруднай цеснай каморы. Больш за ўсё прыгнечвала безнадзейнасьць, пачуцьцё таго, што нельга апавясьціць сваіх пра тую недарэчнасьць, якая з імі здарылася, і што яшчэ невядома, да якіх цяжкіх дзікіх вынікаў яна можа прывесьці.

Рэшта ночы прайшла ў трывожным нэрвовым сьне і кашмарах.

Сьвітаньне зноў было крывавае і каламутнае—быццам прадказвала нешта нядобрае Варшаве ці, прынамсі, долі арыштаваных Чырвоназаводцаў.

Раніца пачалася страшнымі падзеямі.

На допыт выклікалі адразу дваіх—Козырава і Штэйнбэрга. Дулемба, як тоўстая спрунжынавая лялька, круціўся перад палкоўнікам, мітусіўся, лісьліва ўсьміхаўся і кожную хвіліну кланяўся з хітраю далікатнасьцю. Кожны рух яго казаў за тое, што за грошы ён гатоў быў учыніць найбольшую кару, толькі-б палкоўнік яму аб гэтым хоць чуць напомніў.

Але не пасьпеў палкоўнік пачаць допыт, як знадворку ўваліўся клубок чалавечых цел, якія тузаліся, спрачаліся і біліся. Гэта два жандары цягнулі маладога рабочага. Рабочы ўпіраўся, вырываўся, біўся. Адзеньне на ім было зусім парванае. Адзін з жандараў люта ўдарыў яго кулаком у твар.

Рабочы несамавіта закрычаў:

— Падлюгі!.. Як вы адважваецеся?.. Паскуды!

Палкоўнік адразу зьбялеў і падскочыўшы закрычаў:

— Што-о! Скандалісты?.. Зьняважаць дзяржаўных службоўцаў? У халодную яго! Заспакоіць, як сьлед!..

Жандары ў дзікім азьвярэньні накінуліся, падхапілі рабочага і пацягнулі па калідоры. Лявон Штэйнбэрг агляну́ўся і бачыў, як яны білі рабочага ручкамі рэвальвэраў па галаве, па плячох, па грудзях, па твары і як, расплываючыся, лілася з яго кроў.

Горкі лямант роспачы пачу́ўся пад скляпеньнем калідору, але праз хвіліну ён заціх: рабочага ўпхнулі ў нейкую глухую камору і ўсё замоўкла, толькі здалёк нешта прыглушана і вельмі няясна зьвінела, як гудзеньне камара.

Тады палкоўнік нэрвова напаў на Козырава і Лявона.

— Змоўшчыкі?.. Узрывы рыхтуеце? Людзей забіваць?..

— Аб чым вы напамінаеце?—спыніў яго Козыраў.

— Я? Напамінаю?

— Так, і найганебным спосабам!—адгукну́ўся Лявон.

Палкоўнік так і затрапятаўся:

— Што?..—закрычаў ён.—Што ты сказаў?

— Тое, што вы чулі.

— З кім ты гаворыш, смаркач?..

— Будзьце ласкавы, бяз лаянкі!—цьвёрда пажадаў Лявон. Мы ня вашы падданыя. Вы ня маеце права трымаць нас у турме з-за ўсялякай дурноты, якая вам у галаву налезе.

— Ого, Так? Так?..—забегаў палкоўнік.—Ня маю права? У карцар яго. У сьмярдзючую яму!

Тыя самыя два жандары, якія толькі што катавалі рабочага, бягом кінуліся к Лявону і, выкручваючы рукі, пацягнулі яго ў карцар.

---

## РАЗЬДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

# ПРАЦЯГ РАСКОПАК

Каменная пліта, якую вывернуў Гарасімка, павалілася барждэй, чым пасьпеў падбегчы профэсар. У глінянай сьцяне магілы, якая была, як незайманая падлога, адчыніўся вузкі, цёмны праход. З яго патаемнай дзіркі веяла вільгатнасьцю і нямым змрокам.

Хлопцы няспыннаю хмараю кінуліся да праходу, быццам іх віхрам сарвала.

— Стойце! — крыкнуў профэсар. — Асьцярожна, пачакайце!

Ён адвёў у бок нецярплівых і, сагнуўшыся, прасунуўся у цёмную дзірку таемнага праходу. Чыркануў некалькі запалак. Разгледзеў. Калідор наглуха ўпіраўся ў крывы насып зямлі, сьцены з пагрозаю навісьлі, прыгнуліся, звузіліся,—і больш ня было нічога. Але ў самым канцы, з-пад краю землянога схілу, нешта нявыразна жаўцела.

Борзда запальваючы запалку за запалкай, апякаючы ад хваляваньня пальцы, профэсар зрабіў некалькі шагоў наперад, нахіліўся над нечым жаўтаватым, хвіліну рупліва разглядаў—і раптам з тым-жа ўзварушаным настроем адвярнуўся назад да выхаду.

Дзесяткі вачэй з пільным чаканьнем упіліся ў яго.

— Ну, здаецца, натрапілі на шчасьце!..—радасна замахаў ён рукамі, быццам птушка перад тым, як ўзьнімаецца ляцець.—Гэты праход, бясспрэчна, вядзе ў нейкую другую магільную камору. Столь там абвалілася і магчыма ўсю прастору ходу засыпала. Але, што найболей зьдзівіла мяне ў тым, што я ўбачыў, дык гэта сьляды рабаўнікоў.

— Тут? Цяпер? Рабаўнікі?..—пасыпаліся перапалоханыя галасы і ўсе занепакоіліся.

Усхваляваны Гарасімка, ня памятаючы сябе, дзіка закрычаў:

— Таварыш Лаўрухін, вінтоўку сюды! Барджэй!..

— Вінтоўку!.. Вінтоўку!..—несамавіта падхапілі перапалоханыя, зьбітыя з панталыку дзяўчаты.

— Ды не! Не,—міжвольна ўсьміхнуўся профэсар.—Якую там вінтоўку?

Але, як карабельны вахтавы, які пачуўшы кліч трывогі сьпяшаецца на вышкі, гэтак ляцеў ужо па раскапаных глыбах і ямах Лаўрухін, закладаючы на хаду набой і грозна трасучы вінтоўкай.

— Ды пачакайце! Супакойцеся. Дайце слова сказаць...—радасна сьмяяўся профэсар.—Калі толькі я не памыляюся, рабаўнікі загінулі тут гадоў пяцьсот таму назад.

— Як?—аслупянелі ад неспадзяваньня піонэры.—Пяцьсот гадоў? Адкуль-жа вы ведаеце?..

— Там, у калідоры, дзе заваліўся праход, тарчаць косткі ног, засыпаныя больш, як да кален. Косткі ляжаць так, як гэта можа быць у чалавека, які ўпаў тварам уніз; калі-б гэта быў пахаваны дык яго касьцяк ляжаў-бы, зразумела, галавой да цара, каб паказаць, што і мёртвыя ўпадаюць ніц перад вялічавасьцю ўладара. Пятамі-ж да царскай магілы нікога не маглі хаваць.

— Значыць?..

— Значыць... Давайце адкопваць засыпаны праход.

Ніколі яшчэ ня быў чырвоназаводзкі атрад у гэткім зьбянтэжаным становішчы, як пасьля тых слоў профэсара, ніколі яшчэ ад самага пачатку раскопак рыдлёўкі не працавалі з такою ўпартаю хуткасьцю і спрытнасьцю. Раскапаная магіла стала падобнай на вялізарны муравейнік, які кіпіць ад руху, мітусяніны, ад упартага снаваньня безьлічы рук. Лаўрухін кінуў вінтоўку ў куток спарахнелага царскага ложа, выхапіў у самаробнага Рабінзона рыдлёўку і пачаў капаць, як леў. Сіла яго была нязьмернай—зямлі вылятала адразу з аднаго маху гэтулькі шмат, што здавалася, быццам яна выпампоўвалася нейкай вялізарнай машынай. Росны пот капаў з піонэрскіх аблічча у клейкую жоўтую гліну.

Праз гадзіну ўся зямля над патаемным праходам была скапанай. І калі зраўналі новы пляц, адчынілася цудоўнае відовішча: чэрап і рабрыны касьцяка, які ляжаў ніцам, быў расьціснуты зямлёю, ля касьцей рук ляжала куча залатых бляшак, пярсьцёнкаў, брасьлетаў і дзьве вялізныя бронзавыя вазы. Расьціснуты чэрап ляжаў якраз на парозе каморы, якая злучалася калідорам з царскай магілай. Якім штурхануў некалькі разоў ломам глухую сьцяну за чэрапам і раптам пахіснуўся: лом прабіў гліну і папаў у парожняе месца. Якім ня вытрымаў раўнавагі і ўпаў. Калі кінуліся раскопваць гэта месца, адтуль дзьмухнула вільготнаю, цяжкаю прыдухаю: камора была шчыльна завалена зямлёю. Кузьмішчаў сьмела палез у чорную дзірку.

— Што вы робіце?—кінуўся да яго профэсар,—хочаце, каб і вас задушыла?..

Узяліся капаць далей, і пад вечар можна было ўжо ўваходзіць у камору зусім не баючыся прыдухі. Пасярод яе ляжаў у конвульсыйна раскінутай позе руда-шэры касьцяк. Каля яго ў вялікім беспарадку ляжалі раскіданыя розныя каштоўныя рэчы,—ня было сумненьня, што гэта другі рабаўнік, які ня мог ужо выйсьці наверх, калі абваліўся праход і і задыхнуўся ў каморы. Сярод шмат якіх рэчаў, пазьніманых з трупа цара, асабліва вызначаўся залаты ланцуг, зроблены



Пасярод каморы ляжаў руда-шэры касьцяк.

з вялікіх грыўняў, і цяжкі меч, з ручкаю, вылужанаю золатам і аздобленаю самацьветамі.

Радасьць атраду была як неўгамоннае шчабятаньне птушак, перад усходам сонца вясной. Ад радасьці Кацярына і Тацяна абнімаліся, хлопцы падскаквалі і гаманліваю гурбою абступілі профэсара. Цяпер профэсар сапраўды здаваўся чараўніком, які паказваў яшчэ нікім нячутныя дзівы. Стары сам сьвяціўся ад радасьці ня менш, як піонэры. Ён быў зусім задаволены гэтым посьпехам, і разам з тым, быў захоплены думкамі пра тыя нязвычайныя для навукі здабыткі, якія нясе раскопка гэтай цудоўнай магілы. На падставе знойдзеных рэчаў можна было зрабіць дапушчэньне, што гэтай магіле блізка каля двух з паловаю тысяч гадоў.

— Цяпер ведайце, што нашы хлопцы на волі!—радаваўся Лаўрухін.

— Хопіць?—падміргнуў Гарасімка.

— Усіх вартаўнікоў з трыбухамі пяць разоў купіць можна.

— Няхай царскія скарбы паслужаць рэволюцыі...—паюнацкаму задорліва ўсьміхаўся Кузьмішчаў.

— Бяры і цара ў прыдатак,—прапанаваў нехта Лаўрухіну.

— А на якое ліха ён?

— Дык мы яго зараз-жа тут раскалоцім за тое, што людзей душыў.

— Навошта так. Лепш у заводзкі музэй аддаць: трэба-ж гэткае страхоцьце і іншым паказаць.

На сьпешнай нарадзе ўмовіліся, што Лаўрухін, Якім Шчыглоў і Тацяна Ліхачова, не чакаючы канца раскопак, з ранішнім цягнікам едуць у горад і аддаюць знойдзеныя скарбы ў дзяржаўны банк, каб зараз-жа можна было распачаць справу вызваленьня таварышоў з варшаўскай цытадэлі.

— Я гэту справу раз-два і гатова,—абяцаў Лаўрухін.

Усю ноч навокал магілы гарэлі высокія агні. Першы раз за ўвесь час профэсар не пайшоў начаваць на вёску,— ён застаўся разам з вартаўнікамі ў будцы, быццам камандзір перад рашучым боем. Лік вартаўнікоў павялічылі ў тры разы. Яны па чарзе цягалі на вогнішча хмызьнякі. Ярка гарэла вялікае полымя, разьліваўся шырока жар, вогненымі птушкамі кружыліся ўверсе іскры,—ноч далёка адступала за асьветленае агнём кола. Якіму таксама выпала гэтай ноччу вартаваць, але не зважаючы на зморанасьць, сэрца яго білася неяк лёгка, як птушка.

Досьвіткамі, пільна спакаваўшы скарбы, Лаўрухін, Якім і Тацяна селі на цягнік. Ехалі з гарачаю нецярплівасьцю, быццам наэлектрызаваныя. Ім здавалася, што не дачакаюцца калі-ж, нарэшце, пакажуцца знаёмыя коміны заводаў.

У банку гэта знаходка зрабіла зусім выключнае і моцнае ўражаньне. Залаты ланцуг важыў амаль цэлы кілёграм і, як археолёгічная рэдкасьць, ня меў цаны. Самацьветы, якія аздаблялі меч, не зважаючы на грубасьць сваёй адшліфоўкі, дзівілі ўсіх сваёю рэдкаю чыстатою і празрыстасьцю.

— Нам нічога ня трэба, ніводнай капейкі,—горача і проста заявіў Якім.—Нам патрэбна толькі некалькі тысяч, каб вызваліць таварышоў. А рэшту няхай забірае дзяржава.

А другой гадзіне дня Лаўрухін атрымаў патрэбныя яму грошы і ўжо ехаў борздым цягнікам на польскую граніцу, а Якім і Тацяна, як на крыльлях, зьвярталіся ў лягер да няскончаных раскопак.

---

Мінуў дзень і мінула ноч. Зноў настаў дзень, і зноў настала ноч. Калматым чорным крылом распасьцерлася над палямі і лясамі цемра. Яшчэ з вечара ўсё неба было заслана цяжкімі кавалкамі хмар, якія густа выпаўзалі з-за небасхілу. Дзесьці вельмі далёка нямымі ўзмахамі бліскалі астатнія асеньнія бліскавіцы. Іхнія палоскі трапяталіся грозна,

злавесна, быццам бесьперапынку. Трывожна адбіваючыся ў цёмнай вадзе ракі, бліскавіцы кожную хвіліну патухалі, таксама як кожную хвіліну і зьяўляліся. Каля ракі Збруча канчалася Савецкая зямля, за Збручам цёмнай палосаю пачыналася Польшча. Гэткая цемра і гэткая цішыня былі наўкола, што здавалася, быццам дзесяткі вёрст уздоўж рэчкі ня было ніводнай людзкой істоты. Але гэта толькі так здавалася: за Збручам блізка адна ад другой прытаіліся польскія заставы,— там у баявой падрыхтаванасьці стаялі жаўнеры, якія пільна сачылі за Савецкім берагам; там у набітых карабінах драмалі тысячы куль, гатовых скасіць кожную западозраную постаць, якая адважылася-б пераплысьці праз маўклівыя воды Збруча; адтуль пільна прыслухоўваліся вушы жандараў, ахароньнікаў і шпіёнаў.

Што гэта?.. Хлюпаньне вясла? Ці ўначы гуляючы пад мігаценьнем бліскавіцы, успляснула рыба? А можа, проста выпадкова даляцеў водгук далёкіх млынавых калёс?..

У глухой цемры, сярод кустоў і чароту, каля берагу, пад сеткаю густога вербалозу, незаўважана праскочыў човен. Човен быў малы, вузкі і чорны, як ноч. У чоўне, прыгнуўшыся да берагоў яго, сядзела двое: стары рыбак і малады, здаровы, наліты неперваможнаю сілаю чалавек.

Вось човен падплыў да берагу, зьліўся з яго чорнаю смуглявасьцю. З чоўна ўзьнялася высокая постаць і ступіла ў цемру. Праз хвіліну яна зьнікла ў кустох, як растала. Човен павярнуўся назад. Раз-два захістаўся, пасьля зьнік у працілеглым баку.

За гарою, над Польшчаю, зіхацелі вогненыя бліскавіцы.

---

РАЗЬДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

## СТРАШНЫ ПРАХОД

Горка і цяжка праходзілі дні за турэмнымі кратамі. У каморы, дзе зьмяшчаліся хлопцы, стаяла вечная духота, ад яе пачынала балець галава, нібы ад таго, што галаву налівалі мутным волавам; пыл быў страшэнна брудны, ад падлогі несла гострым смуродам, па сьценах і кутках поўзалі розныя „шкоднікі". Але найбольш бруднаю была тая цёмная частка падлогі, якая адводзілася для сну: туды гадка было і паглядзець. Уначы неміласэрдна дапякалі блохі, яны кусаліся, як крапіва, і ад гэтага бесьперастанку сьвярбела ўсё цела. Даваўся ў знак і голад. Ад рэдкага агіднага „супу", які давалі адзін раз на дзень, увесь час бурчала ў жыватох і нудзіла, як ад мыла.

Васіль Аўдзееў засмуткаваў. Ён ясна ўяўляў сабе, як дома мучылася і бедавала матка, як яна, турбуючыся за яго долю, каялася, што пусьціла ў Гамбург. Вочы яго запалі, сталі вялікімі, цемнымі, напруджанымі. Уначы часта яму сьніўся лягер, гульні, экскурсіі, сад, вогнішча... Ён прахапляўся,—і зараз-жа крыўдна сьціскалася яго сэрца.

На допыты з пэўнай акуратнасьцю, як па раскладу, выклікалі ўжо другі дзень. Сьледчы з дэфэнзывы, палкоўнік Вяржбіцкі кожны раз вымагаў ад іх, каб яны прызналіся.

— Скажэце, хто прымаў удзел у змове,—казаў ён. Назавеце прозьвішча, адрас, і я зараз-жа загадаю вас вызваліць.

Васіль зьдзіўлена адказваў:

— Але-ж я нічога ня ведаю. Ні пра ўзрыўны матар'ял, ні пра змову. Зразумейце гэта...

— А хто ведае? Козыраў?

— Не.

— А хто-ж?

— Вы пытаецеся так, быццам я знахар ці варажбіт які...

Палкоўнік на хвілінку нездаволена прыжмурыўся, праціпаючы Васіля злоснымі вачыма, пасьля раптам сказаў:

— Ды не прытварайцеся, ня выкручвайцеся! У нас ёсьць зусім пэўныя весткі, што вас прыслалі сюды шпіёніць і дапамагаць змоўнікам.

— А ў нас такіх вестак няма.

— Падумайце харашэнька.

— Чаго-ж тут думаць?

Палкоўнік з хітрым спачуваньнем апускаў плечы!

— Дзіўлюся з вас. Вы—разумны, здатны юнак і самі сябе трымаеце ў турме, няхай ужо такі дурань, як Штэйнбэрг, ці пустамеля Стралкоў сядзяць сабе ў волю. Але вы... вы, хто кожную хвіліну можа выехаць к сабе дамоў, трэба толькі...

— Чаго вы ад мяне хочаце?

— Каб вы шчыра і дакладна ва ўсім прызналіся.

— У чым?..

— Чаго вы прыехалі ў Польшчу?

Васіль пачаў злаваць:

— Але-ж я ўжо некалькі разоў расказваў вам гісторыю нашай вандроўкі. Што-ж мне цяпер больш выдумляць? Брахаць?..

Вяржбіцкі ліслівым, ціхім голасам зноў пачынаў угаварваць, а Васіль зусім пераставаў адказваць. Ён дэманстратыўна маўчаў, дзівячыся з тупой упартасьці палкоўніка. Тады Дулемба забіраў Васіля назад і выклікаў на допыт каго-небудзь іншага.

— І чаго яны валэндаюцца?—Не разумеў Козыраў.— Чаго трымаюць нас? Паны задрыпаныя!

Раніцай за высокімі кратамі, там, дзе пачынаўся блакіт неба, часта чуваць было заклапочанае шчабятаньне вераб'ёў. Напэўна, дзе-небудзь тут недалёка былі іх гнёзды. Іншы раз яны падляталі і садзіліся ля самага вакна. З цікавасьцю нахілялі галоўкі, заглядалі ў турму, і цвырыкалі бесьперастанку. Алесь Шыла горача зайздросьціў шчасьцю вераб'ёў, зайздросьціў іх бязьмежнай, нічым ня зьвязанай волі, магчымасьці лятаць, куды хочуць,—і цэлымі гадзінамі прыглядаўся да незразумелага крылатага жыцьця.

Аднаго разу, калі вераб'і асабліва задорна расцвырыкаліся, ён парашыў:

— Глядзеце, хлопцы, яны зьмену чуюць! Вось калі вырыкаюць...

— На дождж,—абыяка адказаў Максім Бурчак.

— Ну, не. Ня тая вымова...

Сапраўды, пад вечар неспадзявана зазьвінеў у дзьверах ключ—а гэты звон стралою жаліў сэрца раз-у-раз,—адчыніліся дзьверы, і неяк нязвычайна хвалюючыся ўвайшоў Дулемба.

— Козыраў, на допыт,—сказаў ён.

Козыраў вышаў. Дулемба павёў яго калідорам, але ня ў той бок, куды раней вадзіў. Цямнела, агню яшчэ не палілі,—а таму калідор здаваўся асабліва гнятучым і страшным.

У самым канцы калідору, у цесным закутку Дулемба спыніўся, адамкнуў дзьверы і прапусьціў перад сабою Козырава. Козыраў ступіў у чорную яму і міжвольна скуліўся. Гэта быў зусім цёмны патаемны карцар з мяккімі сьценкамі, гук праз якія ня мог праходзіць. Тут катавалі турэмнікаў—бязгучныя сьцены патрэбны былі, каб заглушыць людзкі голас, каб заглушыць лямант і енкі, зрабіць іх нячутнымі ня толькі ва ўсім павільёне, але нават і ў калідоры за дзьвярыма: кожны гук тут зараз-жа зьнікаў як у абсолютнай пустэчы. Дулемба павярнуў выключацель, пад самаю стольлю загарэлася чырвона-жоўтая пахмурая лямпачка. Цяжкія дзьверы шчыльна зачыніліся,—як у жмуце бавоўны, туманна зазьвінеў у замку ключ. Стала несьцярпіма глуха.

— Хочаце дамоў, на Украіну?..—быццам змоўнік і шпіён прашаптаў Дулемба.

Твар яго раптам зьмяніўся. Заместа тупой лютасьці, зьявілася баязьлівая заклапочанасьць.

Козыраў недаверліва прыслухаўся.

А Дулемба, ня гледзячы ў вочы, казаў далей:

— Згаджаецеся ўцячы? Сёньня-ж? Уначы?..

— Гэта што, правакацыя?

— Вы мне ня верыце? Не?—занепакоіўся, заморгаў вачыма Дулемба.

— Ня веру.

— Чытайце!

Дулемба выхапіў з кішэні свайго мундзіра зложаную ў некалькі столак запіску. Козыраў разгарнуў і задыхнуўся ад нечаканасьці,—там стаялі напісаныя алоўкам словы: „Хлопцы, я прыехаў да вас. Гэты чалавек выведзе вас з турмы. Буду чакаць каля звалішчаў на беразе Віслы. Лаўрухін".

Кроў бурнай хваляю ўдарыла ў галаву Козыраву. Ад шалёнага хваляваньня задрыжэлі рукі і ногі.

— Ну?—радасна ўжо запытаў Дулемба, і вочы яго хітра прыжмурыліся.

— Калі-ж? Як?.. Баржджэй!

— А той?.. Штэйнбэрг? З вамі пойдзе? Ці...

— Абавязкова! Чуеце?..—здрыгануўся і кінуўся да Дулембы Козыраў. Ён зразумеў, што Дулемба падкуплены, што за гэту справу яму абяцаны добрыя грошы, што ўвесь ён цяпер пад уладаю таго будучага золата, якое зламала, згібала яго турэмную душу і з прагнасьцю штурхае на такія

ўчынкі. З упэўненасьцю гаспадара моманту, Козыраў горача і ўпарта сказаў:

— Калі вы толькі пакінеце Штэйнбэрга ў турме, мы ня выйдзем. Зразумелі? Тады вы нічога не атрымаеце.

— А вам вядома, што калі заўважаць вартаўнікі, дык страляць будуць на сьмерць?

— Вядзеце так, каб не заўважылі.

Дулемба хітравата аглянуўся, выцягнуў шыю і борзьдзенька зашаптаў:

— Вось вам долата. У вашай каморы пад падлогай, якраз у левым кутку ёсьць тайнік для падслухоўваньня размоў арыштаваных. Там заўсёды сядзіць чалавек. Але пасьля дванаццатай гадзіны ўначы ён ідзе спаць. Калі ён пойдзе, я нібы робячы начны абыход, буду пад вакенцам вашай каморы і, быццам незнарок, дзынгну замком. Гэта—вам знак. Лезьце тады ўдваіх у кут і вываpачвайце долатам крайнюю дошку. Каб чутней былі размовы, яна ня шчыльна прыстае. Пасьля вам усім трэба асьцярожна спусьціцца пад падлогу. Толькі абавязкова захапіць трэба з сабой долата. Не забудзьцеся. У каморы не павінна застацца ніякіх сьлядоў, ніякіх доказаў, па якіх можна было-б пасьля адшукаць таго, з чыёй дапамогай вы ўцяклі... Як залезеце пад падлогу, пашукайце ў кутку ход і лезьце ў яго сьмела: ён, як норка, вядзе да вузкага падзямельнага праходу, які пракапалі на месцы старых узгоркаў фортэцы яшчэ гадоў трыста таму, у часе, калі швэцкі кароль Карла X наступаў на Варшаву. Пры царох аб гэтым праходзе ніхто ня ведаў. Яго выпадкова знайшлі ў 19-м годзе, калі вашы бальшавікі наступалі на Варшаву... Праходам пройдзеце вобмацкам з правага боку—шагоў з пяцьдзесят і спынецеся. Туды прыду я і павяду вас далей...

У Козырава ад вялікага наплыву крыві гарэлі вушы, хістаўся пад нагамі турэмны калідор, ластаўкаю трапяталася сэрца, калі ён наперадзе Дулембы, які ішоў падзынгіваючы ключамі, вяртаўся назад у камору, трымаючы схаванае пад сарочкаю лязом угору тоўсьценькае долата з драўлянаю калодачкай.

Хлопцы былі надзвычайна зьдзіўлены навіною, якую прынёс Козыраў. Стась ад неспадзяваньня застыў на месцы. Зеленавата-жоўтыя стэповыя вочы Хведаркі Качуры загарэліся шырокім казацкім шчасьцем, як загараліся, напэўна, у яго далёкіх продкаў пасьля ўдалых уцяканьняў з турэцкай няволі. Алесь Шыла нэрвова калаціўся.

— Спакойна!—суровым ціхім голасам папярэдзіў Козыраў.—Не забывайцеся, што за намі кожную хвіліну могуць наглядаць праз вакенцы у дзьвярах. Ніводзін чорт не паві-

нен заўважыць нашага ўзбурэньня. Калі-ж на нас у гэтым зьявіцца западозранасьць,—тады канец. Прапалі тады ўсе нашы надзеі.

Каб стрымаць напорны крык радасьці, Алесь Шыла ўпаў ніцам на падлогу: лежачы такім чынам, лягчэй было стрымаць язык, лягчэй супакоіць ад свавольных рухаў рукі і ногі.

Праз паўгадзіны вызвалілі з карцару Лявона Штэйнбэрга. Ён прышоў злосны, пахмуры, галодны і ўвесь брудны. У карцары ня было ні падлогі, ні ложка,—ён спаў там на сырой зямлі, дзе было поўна ўсякага бруду. Калі Козыраў ледзь чутна паціханьку расказаў яму пра размовы з Дулембаю і пра запіску Лаўрухіна, Лявон адразу пацяплеў, вочы сталі мяккімі, яснымі, быццам у грудзёх у яго загарэўся агонь.

— Ах, як гэта добра...—горача і нецярпліва ўздыхнуў ён.

Пайшла вячэрняя праверка. Начная ўнутраная варта, заступаючы на зьмену, пералічыла і прыняла каморы. Час цягнуўся павольна, несьцярпіма, цяжка напружана. Здавалася ён не праходзіць, і поўначы ніколі ня будзе.

Але вось таемным многазначным клічам раздалося доўгачаканае дзынканьне замка. Пасьля чуваць было, як выходзілі, зьнікалі на калідоры шагі. Калі яны сьціхлі, Козыраў і Штэйнбэрг кінуліся ў куток падлогі.

Падлога была клейкай, сьмярдзючай, бруднай. У поцемку з трудом намацалі тую дошку, якую патрэбна былоададраць, і пачалі працаваць долатам, асьцярожна, каб ня стукнуць, ня скрыпнуць, не загубіць з самага пачатку ўсю справу. Неўзабаве дошка падалася, за падважаны канец яе можна было ўхапіцца пальцамі, а праз некалькі хвілін і зусім выцягнуць.

Ніхто з сямі арыштаваных чырвоназаводцаў не рабіў за ўсё сваё жыцьцё такіх спрытных, ціханькіх рухаў, як цяпер, калі ў адчыненую вузкую дзірку пачалі яны злазіць пад падлогу. Козыраў, быццам паўстанцкі павадыр, поўз наперадзе. Сапраўды, у кутку, у фундаманце, была нара і ёю прапаўзьлі яны да падзямельнага праходу. Адчувалася, што ён вельмі заблытаны, нізкі і доўгі. Папаўзьлі з правага боку. Было нязвычайна глуха і вусьцішна, быццам у зачараваным зямельным коле, якому няма канца-краю, і што з яго ніколі ўжо ня можна выйсьці на белы сьвет. Міжвольна ўспомніліся поўныя жаху старыя, пахмурыя казкі і лягэнды, якія калісьці доўгімі зімовымі вечарамі даводзілася чуць ад дзядоў і бабуль,—яны апавядалі пра людзкую пагібель—такія страхі, што валасы дубка ўставалі на галаве.

— А што, калі мы ў пастку папаліся?..—зашаптаў зьнянацку Максім Бурчак.

Яму ніхто не адказаў, таму што пачуцьцё гэткай небясьпекі аднолькава данімала і прыгнятала ўсіх. Лявонавы думкі ляцелі ў бязьмежным горкім вагні. Ён ужо нічому не даваў веры, ня верыў нават таму, што ёсьць запіска ад Лаўрухіна, яму здавалася, што подкуп рэч немажлівая, што ўцякаць ня можна і не чакаў ніякага ратунку.—„І чаго можна чакаць“,—здавалася яму,—„на што спадзявацца ў гэтай цытадэлі, пабудаванай бязьлітасным з усіх тых катаў, якія сядзелі на царскім троне?“ Ён ведаў, што ў гэтай цытадэлі ня раз пралівалася кроў праз ласку ўпартага загаду цара.. Што з таго, што турма перайшла ў спадчыну да Польшчы, да рэспублікі? Але-ж фактычна яна папала ў рукі паноў, якія мараць пра каралёў, пра раскошу прыдворнага жыцьця,



... перад хлопцамі выступіла постаць Дулембы.

пра найбольшае задавальненьне сваіх плянаў. Хіба пасаромяюцца гэтыя людзі, хіба пабаяцца яны новай крыві, новых здрадаў, забойстваў.

Прапаўзьлі шагоў сорак і спыніліся.

— Што рабіць?—запытаўся Васіль Аўдзееў.

— Пачакаем...—прыгнечана, у трывозе і нерашучасьці, але выразна сказаў Козыраў.

Аж раптам збоку недзе вельмі далёка, глуха хруснулі дзьверы. Чуваць было, як нехта перабягаў борздымі, асьцярожнымі шагамі. Стала вельмі страшна. Хлопцы амаль спынілі дыханьне і зьбіліся ў цесны гурт. Паперадзе зьнянацку водблескам мільганула на сьцяне сьветлая пляма. Яна ішла з таго боку, адкуль выраслі і набліжаліся нявыразныя шагі. Нарэшце шагі спыніліся зусім блізка. Мякка засьвяціўся дрыжачы агонь,—перад хлопцамі выступіла, трывожна аглядаючыся, постаць Дулембы з конвульсыйна сьціснутым у кулаку ручным электрычным ліхтарыкам. Дулемба моўчкі,

сьпешна, махнуў рукою да сябе, пасьля павярнуўся і борзда пайшоў тунелем у бок. Чырвоназаводцы, як цені, ціхенькімі шагамі, ледзьве пасьпяваючы, кінуліся за ім.

Ішлі вельмі доўга, здавалася тунелю ня было канца. Ад напружаньня і страху дрыжыкі бегалі па ўсім целе, калі дзе-небудзь з боку пад дрыжачым электрычным сьветам перабягаў пацук. Мінулі некалькі цяжкіх цёмных дзьвярэй, якія вялі невядома куды. Ад гэтых дзьвярэй веяла крывёю і жахам.

І раптам ліхтарык патух. Зьявілася поўная цемра. Але Дулемба ўсё-ж такі ішоў наперад ня спыняючыся. Дзьмухнула халадком, вільготнасьцю, быццам ад рэчкі. Ад сьвежага паветра соладка закружылася галава; пахла квяцістаю васеньняю канюшынаю. Тунель крута павярнуўся ўгору. Праз хвіліну сярод чорнай агарожы з густога тонкага гальля блiснулі зоркі і пацягнула ветрам,

— Ну...—спыніўся Дулемба.—Тут канец. Лезьце на гору і бяжэце проста на дарогу: там вас чакае ваш чалавек. А долата ўзялі... Так? Кіньце яго, як найдалей адгэтуль!..

Сказаўшы гэта, Дулемба пачаў борзда спускацца назад у тунель.

Козыраў вылез на паверхню зямлі. За ім вылезьлі і ўсе іншыя. Разгледзеліся. Сапраўды, тунель выходзіў на паверхню, у вышыні была чорная зорная ноч, з працілеглага боку здалёк зіялі цьмяныя агні Варшавы. За рэчкай, прыблізна за вярсту ад іх узьнімаліся цяжкія абрысы цытадэлі. Зусім неспадзявана адтуль, як меч, узьвіхрыўся белы прамень прожэктара. Вобмацкам ён папоўз па ваколіцах, затрымаўся на момант на хлопцах, асьляпіў іх сілаю свайго сьмяртэльнага сьвятла. Грымнулі адзін за другім два стрэлы. Кулі жудасна пранізалі вышыню. Спалоханыя хлопцы кінуліся бегчы, як мага. Сьвет прожэктара затрапятаў, загайдаўся. Частымі ляскоткамі забухалі, зацокалі стрэлы.

— Кладзіся!.. Кладзіся!..—глуха выгукнуў Козыраў.

Раптам Алесь Шыла пачуў, як штосьці вагністае апякло яго, быццам укусіла пчала. Ён схапіўся рукою за ўкушанае вуха, і адчуў на пальцах клейкую, цёплую кроў, якая цякла па шыі за каўнер сарочкі...

---

## РАЗЬДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

# ТЫСЯЧАГОДНІЯ СКАРБЫ

Пасьля ад'езду Лаўрухіна раскопка магілы ня спынілася: кожны новы дзень знаходзілі пад пластамі шчыльнай зямлі гэткія неспадзяваныя знаходкі, што, не зважаючы на зморанасьць, атрад упарта працаваў усё далей і далей. Капаць было, як чытаць нязвычайна цікавую кнігу, дзе кожная старонка вабіла і захапляла. Профэсар, як мудрэц, які ўсё бачыць і ўсё ведае, ад якога мінуўшчына нічога схаваць ня можа, расказваў пра жыцьцё, якое адышло на шмат вякоў у старасьветчыну, і яго апавяданьні пра пачатак існаваньня магілы ўставалі перад вачыма ў загадкавых лягэндарных вобразах. Пільна разглядаючы кожную знойдзеную рэч, ён з руплівай уважлівасьцю правяраў шаг за шагам усю гісторыю падкопу, жаданае шуканьне скарбаў і страшную долю рабаўнікоў, якія за сваю адважную сьмеласьць загінулі: яны нічога не пасьпелі забраць—праход заваліўся і расьціснуў іх, як кратоў. Прасторнае дно магілы выяўляла з сябе вельмі складаную сыстэму склепа. З цэнтральнай усыпальні ішлі калідоры ў вялікія і малыя падзямельлі, заваленыя зямлёю яшчэ перад тым, як туды дайшлі рабаўнікі.

— Вось, глядзеце,—казаў профэсар, паказваючы на розныя сьляды, якія даводзілі грунтоўнасьць яго думкі.—Рабаўнікі абмінулі галоўныя скарбы, зусім іх не заўважыўшы: перад імі была ўжо суцэльная зямля, якая ўсё схавала.

У паўднёва-ўсходнім падзямельлі знайшлі рэшткі двох касьцякоў. Па левых бакох у кожнага з іх ляжалі цяжкія мячы, шмат наканечнікаў ад стрэл, сьляды тканін, сотні залатых бляшак і гузікаў. Бляшкі і гузікі былі калісьці панашыванымі на розныя часткі ўбёраў, якія віселі тут-жа на сьценках—у пластох зямлі яшчэ захаваліся пазабіваныя жалезныя пруты. З паўночнага боку да галоўнай каморы прылягала камора, у якой зьмяшчаўся чалавечы касьцяк і цэлая куча загадкавых рэчаў. Тут знайшлася вельмі самабытная круглая бронзавая люстэрка, шмат залатых гузікаў і іншае багацьце.

Але найцікавейшае падзямельле было з паўднёва-заходняга боку. Яно было завалена глінаю, але калі гліну раскапалі, дык знайшлі там жаночы склеп. Ён вельмі добра захаваўся і зьдзіўляў вялікаю колькасьцю і каштоўнасьцю дарагіх рэчаў.

— Ой, бацюшкі!.. — войкнула Тацяна. — Самацьветаў колькі!—А золата! Ой-ёй-ёй!..

Прафэсар аглядзеў касьцяк, уважна акінуў поглядам рэчы і, быццам важачы кожную характэрную рысу, сказаў:

— Гэта, бясспрэчна, царыца. Яна павінна была пайсьці ў магілу за сваім мужам і ўладаром-царом. Паглядзеце на чэрап, якія ў ім моцныя белыя зубы, і ўсе цэлыя, амаль няма папсутых. Гэта кажа за тое, што царыца была маладая. Але маладосьць яе не адратавала. Неміласэрдны звычай быў мацнейшы за жыцьцё: царыцу задушылі і багата і раскошна пахавалі.

— Дзякуй за такое багацьце...—нахмурыла свой высокі лоб Кацярына.

Пад касьцяком знаць былі сьляды драўлянага саркафагу—захаваліся лініі спарахнелага дрэва з адбіткамі на гліне сіняй, зялёнай і жоўтай фарбаў тканіны, якімі выслаы быў саркафах. Царыца ляжала тварам у бок галоўнай магілы. Увесь касьцяк яе быў усыпаны залатымі рэчамі,—тканіны-ж і ўбёры, якімі спавівалі некалі труп, цяпер спарахнелі. Наўкола шыі быў залаты цяжкі абруч, больш фунта вагою з выбітымі вобразамі ільвоў на канцах. Ля вушэй ляжалі залатыя завушніцы, якія складаліся з вялікіх кольцаў з падвескамі на ланцужкох. Лоб зачыняўся штампаванаю залатою пліткаю. Наўкола галавы і грудзей ляжала 52 вялікія залатыя бляшкі. На кожнай быў вобраз жанчыны з люстэркай у руцэ, і маладога паніча перад ёю. Гэтыя бляшкі ўпрыгожвалі галаўны ўбёр, які спадаў на плечы. Мяркуючы па сьлядох, якія яшчэ засталіся, самы ўбёр быў з тонкай тканіны жоўтага колеру. На касьцях рук ляжалі залатыя брасьлеты, а ўсе пальцы былі ўпрыгожаны залатымі пярсьцёнкамі. Ля правай рукі ляжала бронзавая люстэрка, з касьцяной ручкаю; яна яшчэ і дасюль зьмяшчалася пад косткамі пальцаў. Праз адзін мэтр ад царыцы ляжаў касьцяк досыць бедна пахаваны, наўкола яго стаяла дванаццаць гліняных пасудзін: напэўна, тут ляжаў слуга царыцы. Трохі з боку была вялікая срэбная ваза, абклееная золатам, з прыгожа намаляванымі сцэнкамі з жыцьця скітаў. Ля вазы ляжала срэбная талерка. Прафэсар доўга разглядаў знаходку.

— Гэтай вазе цаны няма,—прамовіў ён усхвалявана.— Нічога падобнага па прыгожасьці і тонкасьці вырабу не траплялася яшчэ ні ў воднай магіле.

— А для чаго яе ўжывалі?—запытаўся Якім.

— Мабыць, на віно, або на кумыс. Кумыс быў найлепшым напіткам у скітаў.

— Колькі такая ваза можа каштаваць?—загарэлася цікавасьцю Вера Жукова.

— Нямала,—усьміхнуўся профэсар.

— Ну, а ўсё-ж такі?

— Ды вось калі-б дзяржава захацела прадаць, амэрыканцы з ахвотаю далі-б за яе не адну сотню тысяч даляраў.

— Ого...

— Купі, Вера,—падмаргнуў нехта, весела ўсьміхаючыся.

— Ды хіба я да таго вярну,—занепакоілася Вера.

У падзямельлях, якія былі на паўночным баку, знайшлі яшчэ пяць магіл: тры конскія і дзьве людзкія. У конскіх налічылі адзінаццаць каніных касьцякоў з багатай збруяй. На доўгіх чарапах коняй ясьнелі залатыя бляшкі ад вуздэчак з вобразамі крылатых львоў і цяжкія срэбныя цуглі. У двух астатніх магілах знойдзены былі скляпы з чалавечымі касьцякамі. Касьцякі ляжалі галовамі ў бок галоўнай магілы, з распасьцёртымі рукамі, тварам да зямлі. Напэўна, гэта ляжалі задушаныя пасьля сьмерці цара рабы. Хаваючы, іх целам надалі такое становішча, што быццам яны ўпалі ніц перад саркафагам свайго ўладара.

Скрынак са знаходкамі прыбывала кожны дзень. Профэсар паслаў у акадэмію навук дакладныя весткі пра знойдзеную магілу і пра тое, што ён затрымаўся да канца раскопак.

Ліст профэсара зрабіў вялікае ўражаньне. Харкаўскія, Менскія і Маскоўскія газэты зьмяшчалі вялікія артыкулы пра вынікі раскопак. Чужаземныя археолёгі з цікавасьцю чакалі апошніх паведамленьняў аб усіх знаходках. Наўкола магілы вырастала гучная слава. Але яшчэ ніхто ня ведаў, якім чынам яна знойдзена. Рыхтуючы апошнія паведамленьні, профэсар з сумленнасьцю гісторыка расказваў, якая роля ва ўсёй гэтай справе належала чырвона-слабодзкаму атраду, пісаў пра нязвычайную самаахвярнасьць піонэраў і прасіў акадэмію падаць прапанову ў Саўнарком аб узнагародзе атраду за зробленыя паслугі для навукі.

— Ніякай нам узнагароды ня трэба,—горача заявіў Якім, калі даведаўся пра тое, чаго хацеў профэсар.—Найбольшая была-б для нас узнагарода тая, каб як мага барджджэй удалося вызваліць хлопцаў і каб яны вярнуліся дамоў.

Але час мінуў, а з Польшчы ніякіх вестак ня было.

— Дзе-ж Лаўрухін?—непакоіліся ўсе.

— Напэўна што-небудзь здарылася...

— Хіба ён на лёгкую справу пайшоў? Пачакайце, вернецца...—супакойваў Кузьмішчаў.

— А калі засыпаўся?..—трывожна ўзьнімаў бровы Гарасімка, і нават натапыраныя валасы яго зьяжджалі назад разам са скураю.

— Ов-ва!..—цьвёрда пярэчыў Якім.—Не такі чалавек, каб засыпацца.

— А хто ведае...

— А вось пабачыш!

Але раскопкі падыходзілі да канца, а пра Лаўрухіна і пра арыштаваных таварышоў ня было ні слуху, ні духу. Лес наўкола раскопак пажаўцеў і радзеў з кожным днём. Замільгацелі трывожным золатам бярозы, загарэліся чырвонаю медзьдзю дубы, пачалі асыпацца шырокалістыя кляны. Неба стала аж вельмі сіняе, высокае, пустое. З поўдню цэлымі днямі дзьмуў сухавей, а па начох ад рэзкага васеньняга холаду піонэры курчыліся нават у найцяплейшых і шчыльна сплеценых будках. Нарэшце з гораду прышоў наказ пакідаць лягер і варочацца дамоў. Гэта яшчэ больш узмацніла сум і трывогу з прычыны доўгага маўчаньня Лаўрухіна. Увечары атрымалі газэты, дзе была надрукавана такая неспадзяваная тэлеграма, якая быццам нажом разанула ўсіх. „У Варшаве,—пісалі газэты,—пайшлі чуткі, што нібы арыштаваным украінскім камсамольцам удалося ўцячы з турмы. Начальнік паліцыі на запытаньне корэспондэнтаў аб правільнасьці гэтага сказаў, што праўда, але пры гэтым заявіў, што, дзякуючы своечасова ўжытым захадам, агэнты вышуку ўжо натрапілі на сьляды ўцекачоў і што затрыманьне іх трэба чакаць кожную хвіліну“.

---

## РАЗЬДЗЕЛ СЕМНАЦЦАТЫ.

# КАНЕЦ АПОВЕСЬЦІ.

Замяшаньне, узбуранасьць і напружаны настрой з надзеямі на шчасьлівы канец ахапілі лягер. Складаючы рэчы, ніхто ня мог супакоіцца. З нецярплівасьцю, з трывожным заміраньнем сэрца чакалі новых вестак.

— Барждҗэй-бы ўжо на станцыю...—мітусіліся ля вазоў з клункамі.—Там, напэўна, ёсьць сьвежая газэта.

— Можа, цяпер сама-што вырашаецца доля нашых хлопцаў,—з пацямнелымі вачыма казала Тацяна.

— А мне здаецца,—ужо вырашылася...—сумна хістала галавой Кацярына.

— Злавілі?

— Напэўна. Куды яны, ня ведаючы дарогі, уцякуць?

— А Лаўрухін нашто?

— А ты ведаеш, дзе ён? Можа Лаўрухін сам папаўся за краты?..

— Мне здаецца таксама...—засмучана згаджаўся самаробны Рабінзон.—Калі пішуць „натрапілі на сьлед", значыцца Лаўрухіна злавілі ў якую-небудзь пастку, што ён і не апомніўся. У іх, праклятых, напэўна, на кожным шагу пасткі пастаўлены.

Профэсар і Васіль Іванавіч напакоўвалі свае скрынкі з магільнымі знаходкамі і косткамі разам з Чырвоназаводзкім атрадам: умовіліся выехаць у адзін дзень. Гарасімка, праводзячы сваіх новых таварышоў, быў сумны і цёмны, як ніколі. Немагчымасьць даведацца, што будзе з уцекачамі з турмы, ці пашанцуе ім схавацца ад польскіх паліцэйскіх, пачуцьцё самотнасьці і блізкай адарванасьці ад гэтага кіпучага юнага сьвету, з якім ён так зсябраваўся за лета,—усё гэта цяжка адбілася на ім.

— Прападу я тут бяз вас...—горка і ціха сказаў ён Якіму на разьвітаньні.

— Гарасімка, што ты? Дружа!..

— На завод-бы мне.

— Будзь пэўны: адслужыш свой час—і месца для цябе знойдзецца. Мы-ж табе абяцалі.

— А як-жа з хлопцамі?

— Напішам.

— Глядзі-ж, Якім,—абавязкова. Ня будзе ліста,—сам уцяку ў горад даведацца, не ўцярплю. Мне іх так шкода... што і сказаць ня можна...

Якім паглядзеў у вочы Гарасімкі: яны гарэлі цяжкім сумам.

І, пакуль не адышлі з вярсту, гэты сумны агонь вачэй бачылі тыя, хто азіраўся ў бок выгашоўскай сядзібы.



— Кузьмішчаў, телеграма!—закрычаў Якім.

Калі падводы прыехалі на станцыю, да пярэдняга гуртка піонэраў падышоў чалавек з скураною торбаю, перакінутаю праз плячо і з тэлеграфным значком на старой, замурзанай шапцы.

— Ці вы ня з лягеру?—запытаўся ён.

— З лягеру.

— А ці няма ў вас Кузьмішчава?

— А вам нашто?

— Ды вось тэлеграма яму.

— Кузьмішчаў, тэлеграма! — закрычаў на ўвесь пэрон Якім.

— Дзе? Давайце!—наўгалоп падбягаў ужо той, сам сябе ня чуючы ад хваляваньня, якое раптам ахапіла яго.

З трэскам разарвалася папяровая наклейка. Жоўты лісток тэлеграмы расчыніўся, як жарабёўка на нязвычайны выйгрыш ці пройгрыш. На паперцы былі напісаны толькі тры словы, але яны былі вялікія і гарачыя, як агонь: „Усё добра. Лаўрухін“.

— Адкуль?

— Адкуль прышла?..—абкружылі дзесяткі піонэраў.

Кузьмішчаў агледзеў усіх вачыма.

— З Менску!

— А гэта-ж дзе?—наіўна запыталася Вера Жукава.— У Польшы, ці ўжо ў нас?

— У нас!.. У нас!..

Ніколі стэповая ціхая станцыя ня чула такіх бойкіх, радасных крыкаў, ніколі ня бачыла такіх шчасьлівых скокаў, такой галаваломнай беганіны, нястрыманай радасьці.

— Вітаю!..—Вітаю!..—расчулена зіяючы вачыма ад задавальненьня, гаварыў профэсар.

Праз усю дарогу да гораду чырвоназаводцы сьпявалі песьні, як навабранцы, якія йдуць на спатканьне новай цікавай долі.

— Ото дружная каманда!—усьміхаліся на станцыях чыгуначнікі.

— І оркестру ня трэба: самі грымяць, як музыка.

— Малайцы!

Завод ужо ведаў пра посьпех Лаўрухіна; цэхі ў часе перапынкаў толькі і гаварылі пра шчасьлівы канец адважнага пляну; рабочыя, падміргіваючы адзін другому, усьміхаліся.

— Сып ім цяпер солі на хвост.

— Чорта са два насыплеш.

— Вось, мабыць, паны цяпер зубамі ляскаюць!

— Няхай ляскаюць: можа ад злосьці палопаюцца.

— Ну і Лаўрухін-жа! Ня лыкам шыты!

— Даказаў ім, што значыць матроская спрытнасьць.

— Доўга памятаць будуць.

У той час, калі меўся прыбыць цягнік, на вакзале сабраліся піонэрскія колектывы з усяго гораду,—больш, як дзьве тысячы чалавек,—выстраіліся на асфальтавым вакзале. Здавалася, што тут пад уплывам чароўнай сілы вырас і зіяе яскравымі жывымі фарбамі цьвятнік.

І вось здалёк ужо зьявіўся і пачаў набліжацца слуп белай пары. За параю вырасьлі і падплылі вагоны. Пачуўся тугі, бадзёры, пераможна магутны рух цягніка, і пад высокія

вакзальныя стрэхі з гонарам падышоў цягнік. Загрымеў духавы оркестр. Морам успляснулі ў неба назьлічаныя выгукі „ура“. Гэтыя выгукі перайшлі ў суцэльную бязьмежную стыхію гукаў, калі на перадку аднаго з вагонаў зьявіліся, усьміхаючыся, вандраўнікі, з Лаўрухіным на чале. Усе яны былі ў новенькіх спортсмэнскіх касьцюмах і мелі прыгожы акуратны выгляд.

З сьпешных кароткіх размоў выясьнілася, што хлопцы, выбраўшыся з падзямельля цытадэлі, схаваліся ад прожэктара за ценявы бок горкі і борзда дабеглі да дарогі, дзе ў лёгкім бязгучным аўтамабілі чакаў іх Лаўрухін. Аўтамабіль, як вецер, вынес уцекачоў за межы варшаўскіх акраін і праз



Аўтамабіль, як вецер, вынес уцекачоў за межы варшаўскіх акраін.

гадзіну, прамчаўшыся ў поцемку каля пяцідзесяці кілёмэтраў, спыніўся перад глухім, палявым хутарам. Там яны борзьдзенька падстрыгліся, памыліся, пераадзеліся ў падрыхтаваныя раней касьцюмы, прыпяклі ёдам і заляпілі пластырам зачэплены куляю край Алесевага вуха і на бліжэйшай станцыі, пад выглядам багатых юных спортсмэнаў, якія ідуць са сваім інструктарам у маёнтак графа Галухоўскага, вышлі з міжнароднага вагону, але паехалі ня ў графскі палац, а завярнулі ў бок. Далейшы пераход праз польскі кардон яны зрабілі пры дапамозе падкупленых контрабандыстых...

Але гэта былі толькі слабенькія, маленькія ўрыўкі тых складаных, вялікіх адчуваньняў, якія ім давялося перажыць у сапраўднасьці. За гармідарам і радаснымі крыкамі спатканьня дабіцца дакладнага апавяданьня аб усім на вакзале нікому не ўдалося. Рака піонэраў рынулася да выхаду на

пляц, на вуліцы гораду. Спыніўся рух трамваяў, аўтобусаў, звозчыкаў, аўтамабіляў.

— Каго гэта спатыкаюць?—зьдзіўлена запытаўся нейкі цікавы падарожны.—Бяльгійскую дэлегацыю...

— Ды дзе там бяльгійская!..—з гордасьцю адказаў бліжэйшы вёрткі піонэр, выблісkваючы шустрымі шчасьлівымі вачыма.—Гэта наша! Свая! Чырвоназаводзкая!

І пабег далей, падхоплены бурліваю сілаю радасьці.

Зьвінелі вуліцы ад тупаньня ног, калыхалася паветра ад радасных песьняў, а песьні тыя ўсё ліліся, як няспынныя хмары калёрнага бісэру.

Мудрым васеньнім цяплом сьвяціла з вышыні сонца. Здавалася, што яно дабрадушна, прыжмурана ўсьміхаецца раскалыханым хвалям юных пераможных галасоў.

---

# ЗЪМЕСТ





